Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 17 (4612) 29 красавіка 2011 г.

## У нумары:



# Творчасць як лёс

Алесь МАРЦІНОВІЧ

**"Мой дзень народзін — першы май", — прамовіў Алег Лойка ў вершы "Размова з Жан-Жакам Русо". Што ж, ён мог дазволіць сабе брацець у суразмоўцы самых знакамітых, бо быў чалавекам здзіўляльнай эрудзіраванасці, інтэлектуалам вышэйшага кшталту. У думках прамаўляючы да класікаў, ён не толькі пашыраў уласны кругагляд. Гэта была яшчэ і неабходнасць паказаць і даказаць, што і мы, беларусы, не лыкам шытыя і ў нас ёсць багатая культура, літаратура, якая мае права годна адчуваць сябе сярод іншых культур і літаратур.**
**Сам Алег Антонавіч гісторыю асноўных з іх добра ведаў, бо не толькі паэтам быў, а і празаікам, літаратуразнаўцам, перакладчыкам. Будучы доктарам філалагічных навук, членам-карэспандэнтам НАН Беларусі, на лаўрах не спачываў, а працягваў надзіва плённа працаваць.**

Вытокі гэтай прагі да ведаў, да працы ў тым першамайскім дні 1931 года, калі ён нарадзіўся ў Слоніме ў сям'і вядомага ва ўсім наваколлі фельчара Антона Лойкі, што праславіўся як народны лекар, і ягонай жонкі Марыі, у дзявоцтве Зубеня. У атмасферы дабрыні, душэўнай шчодрасці і адкрытасці фарміраваўся ягоны характар, складваўся светапогляд, з'явілася прагавітае жаданне і самому быць падобным да бацькоў, каб з гонарам насіць прозвішча Лойка.

Чытаць навучыўся ў раннім узросце. Шмат чытаў, прытым на трох мовах: польскай, рускай, беларускай. Яно і зразумела, бо імі валодалі многія слонімцы. Дый у 1939 годзе вучыўся ў агульнаадукацыйнай польскай школе. Потым — другі і трэці класы школы рускай, а яшчэ крыху пазней жыццёвы шлях прывёў яго на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. На факультэце панавала атмасфера беларускасці, і шмат хто са студэнтаў захапляўся паэзіяй, сам спрабаваў пісаць. З паэзіі ён і пачаў, дэбютаваўшы на старонках "ЛіМа" вершам "Святочным раннем" 1 мая 1951 года. Тым самым гэты дзень, гэтае ранне сталі для яго двойчы святочнымі: краіна адзначала Першамай, а сам ён адзначаў сваё дваццаціґоддзе.

Так у паэзіі з'явілася новае імя, каб неўзабаве стала прапісацца ў ёй. За кароткі час А. Лойка змог даказаць, што паэзія — ягонае пакліканне.

Больш як дваццаць паэтычных кніг выдаў ён. Каторую ні возьмеш, абавязкова натрапіш на творы, ад якіх у душы тваёй кранецца цёплая хваля прасветленай лірычнасці. Дарэчы, напеўнасць, мілагучнасць шмат якіх вершаў А. Лойкі адчулі кампазітары: Юрый Семяняка, Уладзімір Буднік, Мікалай Пятрэнка, Эдуард Зарыцкі і іншыя.

Аднак, будучы лірыкам у душы, Лойка не абмінаў і публіцыстычных матываў, распрацоўваў ліра-эпічны жанр (кніга "Балады вайны і міру"). Дый не толькі паэзія вабіла яго. Любоў да беларускай літаратуры выклікала жаданне заняцца даследаваннем яе гісторыі, аналізам сучаснага творчага працэсу. Змог пераканацца: многае з таго, што датычыць дня ўчарашняга,



патрабуе пераацэнкі, а ёсць і неабходнасць пазбаўлення ад "белых плям". Таму пасля заканчэння ў 1953 годзе ўніверсітэта працягнуў вучобу ў аспірантуры, дзе і вызначыўся з тэмай сваёй будучай кандыдацкай дысертацыі — "Адам Міцкевіч і беларуская літаратура", якая, паспяхова абароненая, у 1959 годзе легла ў аснову адпаведнай кнігі. Выйшлі і іншыя ягоныя літаратуразнаўча-даследчыцкія працы: "Новая зямля" Якуба Коласа. Вытокі, веліч, характва", "Беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі ў XIX ст.", "Максім Багдановіч".

Пільна прыглядаўся і да сучаснага яму мастакоўскага працэсу. Тым не менш усё большую ўвагу аддаваў гісторыі літаратуры. Гэта прадвызначыла і тэму доктарскай дысертацыі — "Максім Багдановіч і праблемы развіцця беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя", што таксама была паспяхова абаронена. Дарэчы, доктарам навук ён стаў у 38 гадоў. Самы ўзрост, каб і далей працаваць у даследчыцкім кірунку. Такую магчымасць ён выкарыстаў напоўніцу. Прынамсі, пра гэта засведчыла "Гісторыя беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд" у дзвюх частках, якая вытрымала два выданні і стала падручнікам для студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ Беларусі, а таксама манаграфія "Беларуская паэзія пачатку XX стагоддзя. Некаторыя заканамернасці і асаблівасці", не кажучы пра рэгулярныя публікацыі ў калектыўных навуковых зборніках, выступленні з рэцэнзіямі ў перыёдыцы.

З зацікаўленасці даўняй беларускай літаратурай, культурай у цэлым з'явілася і жаданне пільней прыгледзецца да жыцця і творчасці некаторых класікаў. Браўся пісаць не даследчыцкія працы, няхай і на высокім, без перабольшвання — лойкаўскім узроўні, а мастацкія біяграфіі. Так спачатку з'явіўся раман-эсэ пра Янку Купалу "Як агонь, як вада…", потым яшчэ адзін — "Францыск Скарына, або Сонца маладзіковае", якія, выдадзеныя асобнымі кнігамі ў перакладзе на рускую мову, папоўнілі знакамітую серыю "ЖЗЛ".

Вельмі плённа працаваў Алег Лойка ў галіне перакладу. Вялікую ўвагу надаваў выхаванню творчай моладзі, з 1965 года кіруючы літаб'яднаннем "Узлёт". У БДУ ўзначальваў кафедру, пэўны час быў дэканам філалагічнага факультэта.

Тым часам "годы-скороходы" імкліва імчаліся наперад. Непрыкметна падкралася невылечная хвароба. Вынік — цяжкая аперацыя. У 1955 годзе ў адным з вершаў ён пісаў: "Калі хто мне і сказаў бы: // "Жыць табе тры дні на свеце", — // На грудзях я рук не склаў бы // У адчаі перад смерцю". Лёсам яму быў дадзены, праўда, яшчэ не адзін год. Здавацца не збіраўся. Працаваў так мэтанакіравана, быццам і хваробы ніякай не было, дый старасць не падкралася. Да апошняга свайго ўздыху працаваў.

А як інакш: Алег Антонавіч, калі мець на ўвазе ягоную даследчыцкую дзейнасць, заўсёды працаваў за цэлую ўстанову, а ў працы ўстановы перапынку няма і быць не можа. Сапраўдны волат нацыянальнага духу, ён належаў да тых, хто сімвалізуе цэлую эпоху ў літаратуры і філалагічнай навуцы. Ягоныя кнігі, незалежна ад таго, у якім жанры яны напісаны, — гэта залаты фонд беларускай літаратуры.

## Пункціры

Аляксандр Лукашэнка даручыў Адміністрацыі Прэзідэнта правесці рэвізію колькасці выдаваемых дзяржаўных друкаваных СМІ. Пра гэта Прэзідэнт заявіў, звяртаючыся з Пасланнем да беларускага народа і Нацыянальнага сходу. "Наша краіна не настолькі багатая, каб выпускаць 400 дзяржаўных друкаваных перыядычных выданняў", — сказаў Прэзідэнт.

Прэзідэнт Беларусі выразіў глыбокія спачуванні ў сувязі са смерцю вядомага акцёра і рэжысёра, народнага артыста Расіі Міхаіла Казакова яго родным і блізкім.

Беларусь шырока адзначыць 130-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Міністэрствамі культуры і замежных спраў ужо ўносяцца адпаведныя прапановы ў Спіс памятных дат ЮНЕСКА на 2012 — 2013 гады. Плануецца арганізацыя гастроляў нацыянальных акадэмічных тэатраў імя Якуба Коласа ў Літве і імя Янкі Купалы ў Латвіі; падрыхтоўка юбілейных кніжных выданняў; стварэнне мастацкіх тэлефільмаў "Талаш" (паводле аповесці Якуба Коласа "Дрыгва") і "Купала. Лёс песняра".

Каля 250 заявак паступіла на ўдзел у VII Нацыянальным конкурсе друкаваных сродкаў масавай інфармацыі "Залатая Ліцера", з іх больш як 80 даслалі рэгіянальныя сродкі масавай інфармацыі. Творчае спаборніцтва пройдзе па 25 намінацыях. Пераможцы будуць названы падчас Міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі "СМІ ў Беларусі" 5 мая, у Дзень друку.

Унікальны трактат "Вялікае мастацтва артылерыі" выдатнага беларускага інжынера Казіміра Семяновіча атрымаў у падарунак Нацыянальны гістарычны музей Беларусі. Трактат, выдадзены ў 1730 годзе ў Франкфурце-на-Майне, — дар ад прыватнай асобы. Музей рыхтуе прэзентацыю каштоўнага экспаната.

Краслаўскі край Латвіі выказаў зацікаўленасць у рэалізацыі сумесных культурных праектаў з Віцебскай вобласцю ў рамках падпісаной рэгіёнамі на пачатку года дамовы. У Віцебску ўжо адкрылася выстаўка латвійскіх мастакоў Андрэя і Ніны Горгоц. У планах мерапрыемстваў таксама ўдзел латвійскіх калектываў народнай творчасці ў міжнародных музычных і песенных фестывалях у Паставах, Браславе, Дуброўне, у фестывалі мастацтваў "Славянскі базар", правядзенне Дзён Латгаліі ў Віцебску.

Аніматары Студыі ў імя святога спавядальніка Іаана Воіна Мінскага Свята-Елісавецінскага жаночага манастыра працуюць над серыяй праваслаўных мультфільмаў "Для самых маленькіх". Праект складаецца з кароткіх серый ад паўтары да трох мінут. Адначасова ў студыі працягваецца работа над праектам "Алфавіцыца", распачатым Ірынай Кадзюковай. Гэта мультфільм пра царкоўнаславянскую азбуку. Абодва праекты разлічаны на самых юных гледачоў і пакуль не маюць аналагаў у Беларусі.

Абвешчаны конкурс "Лагатып Літаратурнага музея Максіма Багдановіча". На конкурс прымаюцца работы ў неабмежаванай колькасці, выкананыя ў тэхніцы малюнка, а таксама ў выглядзе графічных файлаў на электронных носьбітах. Тэрмін здачы — да 30 жніўня 2011 года. Лаўрэаты конкурсу будуць узнагароджаны дыпломамі і прызамі.

Падрыхтаваў
Аляксей ГАРБУНОЎ

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

### Рыгор Сакалоўскі:

# «У азарэнні нараджаюцца шэдэўры»

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі — моцнае па складзе і даволі актыўнае па настроі. Імёны пісьменнікаў, якія ўваходзяць у яго, шырокавядомыя не толькі ў Беларусі, але і за мяжой. Старшыня Мінскай абласной пісьменніцкай арганізацыі Рыгор Сакалоўскі лічыць, што сур'ёзная літаратура ва ўсе часы была сацыяльнай, шукала ідэал жыцця, прарочыла. Мы размаўляем з Рыгорам Васільевічам пра пісьменніцтва ўвогуле і пра справы пісьменнікаў Міншчыны ў прыватнасці.**

**— Прынята лічыць, што дзеля напісання шэдэўра творца павінен быць крыху галодным. Дык мабыць, лаяльная ганарарная сістэма пазбавіць нас вялікіх твораў мастацтва?**

— Гэта, пэўна, хтосьці сказаў з гумарам. Хаця, згадзіцеся, пісьменніка да напісання літаратурнага твора рухае зусім не абяцанне ганарару, а натхненне. І калі знаходзішся ў такім творчым азарэнні, няважна, галодны ты ці то сыты. Галоўнае — той запал, тое творчае "зашкальванне", без якога не бывае ні шэдэўраў, ні нават проста прыстойных, цікавых твораў. Пра ганарары ў імгненні творчасці, па сабе ведаю, не турбуецца душа. Думкі пра іншае — напісаць штосьці незвычайнае, па-новаму, прымусіць чытача перажываць, хваляваецца, палюбіць, урэшце, тваю кнігу. І як тут не прыгадаць радзнаўскае: "Па сутнасці няма ні прыўкраснага стылю, ні прыўкраснай лініі, ні прыўкраснага колеру, адзіная прыгажосць — гэта праўда, якая становіцца бачнай".

**— Як вы ставіцеся да такой з'явы, як заказная літаратура?**

— Адмоўна. Яшчэ Жан Жак Русо ў XVIII стагоддзі сказаў: "Нічога магутнага, нічога вялікага не можа выйсці з-пад прадажнага пяра". Літаратурныя творы пішуцца талентам і душой. Можна, безумоўна, па чыёйсьці ўказцы напісаць таленавіта, але без душы. І наадварот, з душой, але бязграматна. Няўжо мы забудземся на лёс выдатнага пісьменніка Аляксандра Фадзеева і яго трагедыю пасля заказнога рамана "Чорная металургія"?

**— Асабліва дзейнасць Мінскай абласной пісьменніцкай арганізацыі — цеснае супрацоўніцтва з Беларускім саюзам журналістаў. У чым перавага такой садружнасці?**

— Сапраўды, дзейнасць Мінскай абласной пісьменніцкай арганізацыі цяжка ўявіць без сумесных творчых мерапрыемстваў з Беларускім саюзам журналістаў. На мой погляд, такое супрацоўніцтва ўзаемаўзбагачае творцаў, настройвае на пошук новых тэм. Да таго ж, усе праведзеныя сумесна мерапрыемствы адразу ж асвятляюцца ў СМІ. Добры рэзананс, напрыклад, атрымалі сумесныя патрыятычныя акцыі "Ты — у сэрцы, Міншчына родная!" (да 70-годдзя вобласці), "Салют табе, вялікая Перамога!" (да 65-годдзя Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне).

Пісьменнікі і журналісты разам пабывалі амаль ва ўсіх раённых цэнтрах Міншчыны. Рэгулярна праводзяцца творчыя семінары. Апошні адбыўся на базе Рэспубліканскага Дома ДТСААФ.

Члены СПБ і БСЖ ужо некалькі разоў пабывалі ў воінаў-пагранічнікаў 12-й пагранзаставы Гродзенскай пагрангрупы, над якой шэфствуе Мінскі аблвыканкам. Удзельнікі творчага дэсанту выступілі перад пагранічнікамі, пісьменнікі падарылі заставе бібліятэчку з уласных кніг з аўтографамі. А журналісты падрыхтавалі да друку яркія матэрыялы пра няпростую, але ганаровую службу воінаў на Дзяржаўнай граніцы.

## Навіны літжыцця: Міншчына

***Мінскае** абласное аддзяленне СПБ рыхтуецца да Міжнароднага семінара пісьменнікаў і журналістаў, які пройдзе ў сярэдзіне мая ў Гомелі. Акрамя літаратараў Міншчыны і Гомельшчыны ў ім прымуць удзел творцы з Расіі і Украіны.*

***У маі** пісьменнікі і журналісты Міншчыны наведаюць пагранічныя заставы Брэсцкай пагрангрупы і правядуць сумесны "круглы стол" на тэму "Патрыятызм і літаратура".*

***У маі-чэрвені** пройдзе патрыятычная акцыя, прысвечаная 70-годдзю пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Яе арганізатары — Мінская абласная пісьменніцкая арганізацыя, Саюз журналістаў і Мінская абласная арганізацыя таварыства "Веды". Маршрут акцыі — Астрашыцкі Гарадок, Заслаўе, Барысаў, Маладзечна.*

***Мінская абласная** пісьменніцкая арганізацыя рыхтуе прэзентацыю кнігі Анатоля Смалянкі "Падары бусла", якая нядаўна была выдадзена ў серыі "Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі".*

## Выстаўкі

Ірына АЛЯКСАНДРАВА,
фота Кастуся Дробава

# Смех як зброя

**Да 70-годдзя сатырычнага альманаха "Вожык" Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь падрыхтаваў выстаўку "Праз прызму ўсмешкі. Камічнае ў беларускай графіцы 1910 — 1990-х гадоў".**

Пэўна, няма ў нашай краіне нікога, хто б не гартаў з усмешкай і задавальненнем падшыўкі "Вожыка". Хаця не, безумоўна, такія ёсць. Яны дакраналіся да часопіса са страхам і прыкрасцю. Бо "Вожык" на працягу практычна ўсёй гісторыі свайго існавання смяяўся не толькі над агульначалавечымі слабасцямі і недахопамі, але і востра выкрываў дзеянні канкрэтных людзей — бюракратаў, хабарнікаў, казнакрадаў. І рабілася гэта не толькі пасродкам сатырычнага тэксту, але і злой карыкатуры.

Лепшыя ўзоры такіх карыкатур — каля 70 графічных аркушаў — сталі асновай для стварэння выстаўкі ў мастацкім музеі. Усяго ж у фондах утрымліваецца больш як 400 работ айчынных мастакоў-карыкатурыстаў. Большасць гэтых работ стваралася спецыяльна для "Вожыка". З вялікай павагай ставячыся да вожыкаўцаў, супрацоўнікі музея запрасілі іх адзначыць 70-гадовы юбілей выдання сярод работ папярэднікаў і ўжо класікаў жанру. Пра тое, як ствараліся некаторыя з іх, і наогул пра карыкатурыстаў "Вожыка" расказаў прысутным мастак Сяргей Волкаў, бацька якога Анатоль Волкаў супрацоўнічаў з "Вожыкам" з 1944 года і да канца свайго жыцця. Анатоль Волкаў па сутнасці быў першым з карыкатурыстаў-вожыкаўцаў. Ён стварaў даволі злыя малюнкі падчас вайны. Яго Гітлер — жахлівы вар'ят, яго чырвонаармейцы і партызаны — былінныя волаты. Мастак быў з акупіраванай тэрыторыі і ведаў усе жахі фашызму не з чужых аповедаў. Але, па словах сына, пасля перамогі творчасць яго дзіўна трансфармавалася. Сатыра саступіла месца добраму гумару. Работы вучня А.Волкава, Аскольда Чуркіна, у 1950-я гады паспяхова занялі ў "Вожыку" нішу палітычнай карыкатуры. З'явілася і цэлая плеяда маладых таленавітых мастакоў — тых, хто цяпер з'яўляецца класікамі жанру, тых, чые работы сёння дэманструюцца на выстаўцы ў мастацкім музеі: Р.Грамыка, В.Ждан, М.Жытніцкі, С.Раманаў, В.Ціхановіч…



Калектыў "Вожыка" падарыў выступоўцы яго партрэт у стылі сяброўскага шаржу. І самі вожыкаўцы атрымалі ў гэты дзень падарунак ад музейных работнікаў — шыкоўны мастацкі альбом.

"Вось каб гэтак жа прыгожа выпусціць альбом работ беларускіх карыкатурыстаў!" — падзяліліся яны сваімі марамі з музейшчыкамі. "Давайце падрыхтуем і выдадзім!" — паступіла прапанова. Варта і сапраўды выдаць. Беларуская сатырычная графіка — гэта ўжо з'ява ў сусветным мастацтве. Яна заслугоўвае асобнага падарункавага выдання.

***На здымку:** супрацоўнікі альманаха "Вожык" адзначаюць свой юбілей у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.*

## Да ведама

# Літаратурны конкурс «Маладая Беларусь»

**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Беларускі рэспубліканскі літаратурны фонд абвяшчаюць аб правядзенні з 1 мая 2011 года творчага конкурсу сярод маладых літаратараў у жанрах прозы (апавяданні, аповесці, раманы), паэзіі, драматургіі, дзіцячай літаратуры. Мэты конкурсу — прыцягнуць увагу чытачоў да нашай літаратуры, адкрыць для шырокай грамадскасці новых таленавітых аўтараў і даць ім магчымасць надрукаваць свае творы.**

На конкурс вылучаюцца арыгінальныя празаічныя творы на рускай ці беларускай мовах, якія раней не публікаваліся. Пераклады не разглядаюцца. Дата напісання твора значэння не мае.

Правам вылучэння на конкурс валодае выключна аўтар (аўтары) гэтага твора. Ананімныя рукапісы да разгляду не прымаюцца. Кожны аўтар прадстаўляе на конкурс не больш як два творы. Прымаць удзел у конкурсе могуць толькі асобы ад 18 да 35 гадоў (уключна), грамадзяне Рэспублікі Беларусь, абмежаванняў па месцы жыхарства няма.

Работы прымаюцца з 1 мая па 1 снежня 2011 года (уключна). Рукапісы здаюцца ў друкаваным выглядзе. Творы, вылучаныя на ўдзел у конкурсе, не рэцэнзуюцца, перапіска з аўтарамі не вядзецца. Усе творы рэгіструюцца ў сакратарыяце Саюза пісьменнікаў Беларусі і атрымоўваюць рэгістрацыйныя нумары. Рукапісы разглядаюцца членамі журы пад рэгістрацыйнымі нумарамі.

Для разгляду твораў, дасланых на конкурс, фарміруецца журы ў складзе пяці чалавек. У яго ўваходзяць пісьменнікі Г. Пашкоў (старшыня), Г. Марчук, У. Мазго, А. Дзялендзік, А. Андрэеў.

Пераможцы конкурсу вызначаюцца на пасяджэнні журы. Вынікі конкурсу афармляюцца пратаколам конкурснай камісіі. Пераможцы, якія занялі 1-е, 2-е і 3-е месцы, атрымоўваюць прызы, прэміі, граматы. Удзельнікі конкурсу, чые творы занялі 4-е і 5-е месцы, узнагароджваюцца ганаровымі дыпломамі СПБ. Творы лаўрэатаў конкурсу будуць рэкамендаваны да друку.

*Творы прымаюцца па адрасе: 220034, Рэспубліка Беларусь, г. Мінск, вул. Фрунзэ, 5, Саюз пісьменнікаў Беларусі, з пазнакай "На конкурс "Маладая Беларусь".*

## Літабсягі

Улад ПРЫАЗЁРНЫ, фота аўтара

# Свята беларускай прозы

**Гомельскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі пры падтрымцы ўпраўлення адукацыі Гомельскага аблвыканкама, Гомельскага абласнога аддзялення Беларускага фонду міру, Гомельскай абласной ветэранскай арганізацыі наладзіла абласны моладзевы конкурс чытальнікаў "Захаваем свет разам!". Ён праходзіў на базе сярэдняй школы № 61 абласнога цэнтра.**



Арганізатары конкурсу, які праходзіць ужо трэці раз пад кураторствам абласной пісьменніцкай арганізацыі, не ставілі перад сабой нейкіх завоблачных задач. Як падкрэсліў кіраўнік Гомельскага абласнога аддзялення СПБ Уладзімір Гаўрыловіч, "…проста хацелі, каб дзеці, наша будучыня, мелі хоць нейкую дадатковую падставу, каб узяць у рукі Кнігу. Беларускую кнігу. Кнігу пісьменніка-земляка. Прачыталі, выбралі тое, што асабліва кранула сэрца, і падзяліліся сваім адкрыццём з іншымі…"

— Сёлетні конкурс прысвечаны 90-годдзю з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры, ураджэнцаў Гомельшчыны І. Мележа і І. Шамякіна. Глыбока сімвалічна, што мерапрыемства праходзіць у год дзвюх сумных дат — 70-годдзя з дня пачатку страшнай вайны і 25-годдзя чарнобыльскай трагедыі. Відавочна, гэта не магло не адбіцца на тэматычным выбары мастацкіх твораў, якія дэкламавалі пераможцы раённых этапаў, — адзначыў старшыня аргкамітэта У. Гаўрыловіч.

22 чытальнікі на працягу трох гадзін стварылі суцэльны празаічны спектакль па матывах твораў класікаў і сучасных празаікаў-гамяльчан, імкнучыся да грунтоўнага мастацкага раскрыцця характару сваіх герояў. На сцэнічнай пляцоўцы "ажывалі" героі з мастацкіх твораў Івана Мележа, Івана Шамякіна, Барыса Сачанкі, Васіля Ткачова, Уладзіміра Гаўрыловіча, Андрэя Федарэнкі, Аляксандра Капусціна і іншых аўтараў. Вучні школ вобласці выкарыстоўвалі разнастайныя сродкі псіхалагічнай дакладнасці "ўваходжання" ў вобраз.

Найбольш прафесіяналаў сцэны і пісьменнікаў уразілі выступленні вучня 8 класа СШ № 4 г. Светлагорска Кірыла Шутава, вучаніцы 10 класа Мілевіцкай школы Жыткавіцкага раёна Вікторыі Басарановіч і вучня ліцэя г. Рэчыцы Канстанціна Ступіна. Яны занялі першае, другое і трэцяе месцы адпаведна. А вось Гран-пры абласнога конкурсу аднагалосна прысуджана вучню 10 класа СШ № 61 г. Гомеля Яўгену Крангольду, які цудоўна раскрыў як чытальніцкімі, так і тэатральнымі сродкамі вобраз Рыгора Расевіча — галоўнага героя рамана "Забранае шчасце" У. Гаўрыловіча.

***На здымку: К. Шутаў, які заняў першае месца, са старшынёй журы А. Бычковым.***

## Артлінія

Віктар КАВАЛЁЎ, фота аўтара

# Шляхамі творчага натхнення

**Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы прадстаўляе сваім наведвальнікам выстаўку "Шляхі, шляхі зямлі радзімай…". Яна створана ў рамках Міжнароднага выставачнага праекта Шаўляйскага музея "Аўшрос", Цэнтра культуры Шаўляйскага раёна і музея беларускага песняра пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы.**

Ідэя правядзення выстаўкі належыць дырэктару музея Янкі Купалы Алене Мацевасян. Даведаўшыся, што ў музеі "Аўшрос" і ў Цэнтры культуры Шаўляйскага раёна захоўваюцца работы беларускага мастака Анатоля Тычыны (1897 — 1986), які ілюстраваў творы Янкі Купалы і добра ведаў паэта, яна і прапанавала правесці выстаўку. Анатоль Тычына нарадзіўся ў Шаўляйскім раёне Літвы, дзе беражліва захоўваецца значная колькасць яго мастацкіх работ. Беларусь жа была для мастака і месцам жыхарства, і крыніцай творчага натхнення.

Як зазначыла загадчык аддзела навукова-экспазіцыйнай і выставачнай работы Купалаўскага музея Глафіра Кушаль, Анатоль Мікалаевіч — адзін са стваральнікаў беларускай графікі XX стагоддзя. З яго імем звязана станаўленне такіх відаў графікі, як кніжная, станковая, газетна-часопісная, экслібрыс. У 1922 годзе Анатоль Тычына распачаў свой мастацкі летапіс Мінска. Да канца жыцця ён быў зачараваны горадам, яго гістарычным цэнтрам, непаўторным архітэктурным абліччам, паркамі і вуліцамі, яго жыхарамі. Ён маляваў горад у любую паравіну года, у розны час — алоўкам, тушшу, пастэллю, фламастарам, выразаў у каляровых лінарытах.

Невыпадкова, што выстаўка мастацкіх работ і экслібрысаў Анатоля Тычыны з фондаў Шаўляйскага музея "Аўшрос" праходзіць у музеі Янкі Купалы. Мастак і паэт былі добра знаёмыя з сярэдзіны 1920-х гадоў. Анатоль Тычына часта бываў у доме паэта, яны абмяркоўвалі сюжэты ілюстрацый да твораў Янкі Купалы, афармленне яго друкаваных выданняў. Таксама на выстаўцы "Шляхі, шляхі зямлі радзімай…" экспануюцца дакументальныя матэрыялы з сямейнага архіва Анатоля Тычыны і фондаў музея Янкі Купалы.

Экспазіцыя з фондаў музея "Аўшрос" — гэта працяг традыцый культурнага супрацоўніцтва беларускага музея і музеяў Літоўскай Рэспублікі, даніна павагі да спадчыны беларускага мастака Анатоля Тычыны. На адкрыцці выстаўкі прысутнічалі намеснік дырэктара музея "Аўшрос" Віргінія Шукшчэне, загадчык мастацкага аддзела музея "Аўшрос" Адэта Стрыпінене, загадчык аддзела культуры Шаўляйскага раённага самакіравання Валя Юрашэне, член Савета Шаўляйскага раённага самакіравання Інгрыда Венцювене, прэс-сакратар Пасольства Літвы ў Беларусі Віта Науйакайціта.



***На здымку: А. Тычына "Мінск. Дом, у якім жыў Янка Купала ў 1920 — 1923 гадах".***

## Повязі

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА, фота Уладзіслава Бабіча

# Што звязвае краіны і народы

**Па ініцыятыве грамадскага аб'яднання "Дыялог Еўразія" і пры ўдзеле Цэнтра турэцкай мовы і культуры на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта прайшла міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Роля асветнікаў у Беларусі і Турцыі".**



Грамадскае аб'яднанне "Дыялог Еўразія" ўжо запрашала раней беларускіх пісьменнікаў і палітыкаў паразважаць пра ролю асветнікаў у гуманізацыі грамадства. Відавочна, для "Дыялога Еўразія", ролю першай скрыпкі ў якім іграюць турэцкія калегі, тэма з'яўляецца актуальнай. Чаму? Ды таму, што ў іх ёсць Гюлен.

Мухамед Фетхулах Гюлен — гэта цэлая старонка ў гісторыі мусульманскага свету, бо сілаю сваіх прапаведзяў ён здолеў упэўніць адзінаверцаў ва ўсім свеце: мусульманскае грамадства павінна і можа стаць грамадствам распаўсюджвання навук, мастацтваў, высокай культуры, сучаснага ладу жыцця. І безумоўна, пры такім раскладзе яно стане здольным да канструктыўнага дыялогу з хрысціянскім светам.

"Адзін у полі не воін" — не сучаснікамі прыдуманае выслоўе. Дык, мабыць, турка Гюлена трэба лічыць выключэннем з правілаў, як тое абвяшчалі некаторыя з яго паслядоўнікаў? Праводзячы міжнародныя форумы на тэму асветніцтва ў розных краінах, "Дыялогам Еўразія" сабраны бясцэнны матэрыял пра асветнікаў іншых народаў, якія змянялі палітыку сваіх дзяржаў, міжнародныя, міжрэлігійныя стасункі, ды, урэшце, і сусветную гісторыю.

Канферэнцыю на філфаку адкрыў вітальным словам дэкан факультэта Іван Роўда, назваўшы асветнікаў звёнамі ланцужка, які звязвае краіны і народы. Старшыня "Дыялога Еўразія" прафесар Святлана Вінакурава заўважыла, што асветніцтва фарміруе чалавечую свядомасць, закладаючы ў яе нормы і ідэалы гуманізму. Турэцкі навуковец Эсат Харманджы звярнуўся да дзейнасці філосафа і паэта Румі.

У форуме прымалі ўдзел вядомыя беларускія навукоўцы Сяргей Гаранін, Таццяна Казакова, Любоў Ляўшун, Вячаслаў Чамярыцкі, Алесь Бельскі, Анатоль Верабей і іншыя. Турцыю прадстаўлялі Мерыч Харманджы і дырэктар "Дыялога Еўразія" Іхсан Дылекчы. Былі заслуханы даклады, прысвечаныя Еўфрасінні Полацкай, Кірылу Тураўскаму, Юнусу Эмрэ, Францыску Скарыне, Саламеі Пільштынавай, Уладзіміру Караткевічу, Францішку Багушэвічу. Кульмінацыйным момантам навуковага мерапрыемства стала ўручэнне дыпломаў студэнтам — пераможцам ініцыіраванага "Дыялогам Еўразія" конкурсу сачыненняў "Беларусь—Турцыя. Мінулае, цяперашняе, будучыня".

***На здымку: дэкан філфака Іван Роўда ўручае дыплом студэнту факультэта прыкладной матэматыкі і інфарматыкі Максіму Урублеўскаму.***

## З-пад пяра

У Славянскай спецыялізаванай бібліятэцы г. Гомеля прайшла чарговая прэзентацыя кніг маладых аўтараў, якія былі выдадзены ў серыі "Аз" — першая кніга паэта. Серыя гэтая была заснавана ў 2010 годзе паэтам Іванам Бісевым. Сёлета пабачылі свет два зборнікі на рускай мове — Таццяны Нілавай "Пять тысяч километров па каханні" і Вольгі Астапенкі, якая піша пад псеўданімам Хэльга, — "Проходзячы скрозь свет", а таксама кніга Анастасіі Кацюргіной "Пад ветразем ранку". Кнігі дзяўчат напісаны на адну і тую ж бессмяротную тэму кахання, але кожная з іх па-свойму непаўторная і арыгінальная.

**Ала ДАРАШЭНКА**

Выстаўка "Старонкі гісторыі" вядомага мастака-плакатыста Уладзіміра Крукоўскага разгорнута ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры. У цэнтры ўвагі мастака — Беларусь, яе гісторыя і культура, мінулае, сучаснасць і будучыня. Тэматычны і жанравы дыяпазон работ мастака надзвычай шырокі. На выстаўцы прадстаўлены плакаты антываеннай і экалагічнай тэматыкі, плакаты, прысвечаныя значным датам гісторыі і культуры Беларусі, афішы. Работы створаны ў розныя часы, некаторыя з іх захоўваюцца ў фондах Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры.

**Чэслава ПАЛУЯН**

У кінатэатра "Піянер" і ў рэдакцыі часопіса "Вясёлка" адна аўдыторыя — дзеці. І дзякуючы ўзаемнай дамове вясёлкаўцы штомесяц праводзяць у кінатэатры своеасаблівыя кіналекторыі, падчас якіх распавядаюць пра часопіс, знаёмяць з найбольш цікавымі публікацыямі, запрашаюць хлопчыкаў і дзяўчынак да ўдзелу ў шматлікіх рэдакцыйных конкурсах, чытаюць уласныя творы. Гасцямі "Піянера" ўжо былі пісьменнікі Уладзімір Ліпскі, Мікола Маляўка, Анастасія Радзікевіч, Анатоль Зэкаў.

**Сяргей КРЫВІЧОЎ**

У Сендайскім скверы, каля будынка Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра, дзе вось ужо некалькі гадоў растуць японскія сакуры, з'явіліся саджанцы новых дрэў — плакучых вязаў. Гэтак гарадскія ўлады, артысты і кіраўніцтва тэатра, а таксама студэнты-ўсходазнаўцы ўшанавалі памяць ахвяр землятрусу ў Сендаі, горадзе-пабрацімe Мінска. Плакучыя вязы Сендайскага сквера стануць для нашых народаў сімвалам жыцця, надзеі і веры ў лепшае.

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ**

Адной з найбольш цікавых імпрэз гэтай вясны сталічнай публікай была названа выстаўка "Прыгажосць уратуе свет", прапанаваная Дзяржаўным музеем гісторыі тэатральнай і музычнай культуры. У экспазіцыі, створанай як сцэнічная прастора, прадстаўляліся шыкоўныя тэатральныя касцюмы беларускіх оперных спявачак Тамары Ніжнікавай, Ніны Шарубінай, Тамары Глаголевай, Анастасіі Масквіной, артыстак аперэты, нацыянальных тэатраў імя М. Горкага і Янкі Купалы. А ў дадатак — фотаздымкі артыстак, афішы, праграмкі спектакляў.

**Лізавета БАГАДЗЯЖ**

Уладзімір ПАДАЛЯК

**Беражліва і з вялікай павагай ставяцца да старадаўніх нацыянальных традыцый у Ганцавіцкім раённым Доме рамёстваў. Ніводнае свята ў горадзе не праходзіць без выставак беларускіх тканых ручнікоў, вышываных сурвэтак і абрусаў, найпрыгажэйшых карункаў. Нездарма калектыў Дома рамёстваў стаў лаўрэатам спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва за 2010 год.**

# Маміны ручнікі

Ганцавіцкі раённы Дом рамёстваў быў створаны ў маі 1997 года. Напачатку ў ім працавалі толькі дзве вышывальшчыцы — Марыя Муха і Вольга Паніна. У 2002 годзе раённы Дом рамёстваў атрымаў Прэзідэнцкі грант на развіццё ткацтва. Паступова пачаў фарміравацца творчы калектыў.

— На Ганцаўшчыне і сёння шмат хто займаецца традыцыйнымі беларускімі рамёствамі, — расказвае дырэктар Ганцавіцкага раённага Дома рамёстваў Марыя Муха. — Да прыкладу, у вёсцы Хатынічы, што недалёка ад горада, кожная трэцяя жанчына на добрым узроўні валодае ткацкім майстэрствам. Навыкі гэтай карпатлівай працы перадаюцца тут з пакалення ў пакаленне. Мая маці і цётка таксама былі прафесійнымі ткачыхамі. Менавіта ад іх я пераняла вопыт і любоў да народных рамёстваў. Добра памятаю тыя часы, калі дзяўчаты ў вёсках хадзілі з кудзелямі, — тады гэта была даволі распаўсюджаная з'ява. Жанчыны па чарзе збіраліся то ў адной хатцы, то ў другой і пралі, вышывалі, ткалі. У асноўным прыходзілі разам са сваімі дзецьмі. Так атрымоўвалася, што тэхналогіі заўсёды развіваліся і перадаваліся малодшаму пакаленню.

**— Марыя Іванаўна, ці вялікі калектыў у Дома рамёстваў?**

— Калектыў невялікі (5 жанчын), але надта творчы, захоплены сваёю працаю. Не ўсе маюць прафесійную мастацкую адукацыю вышывальшчыц ці карунчаніц. Аднак не гэта галоўнае. Я вельмі шчаслівы чалавек, бо практычна ўсё жыццё займаюся тым, што вельмі люблю, што ляжыць на сэрцы. Даволі доўгі час у нас працуе спадчынная ткачыха з вёскі Хатынічы Ніна Казак, выдатная майстрыха па вышыўцы і карункапляценні Яўгенія Станкевіч, маладая і вельмі таленавітая ткачыха Наталля Рабцэвіч. Усе супрацоўнікі мясцовыя, ганцавіцкія. На першай нацыянальнай выстаўцы "Жывыя крыніцы" ў 1997 годзе наша майстрыха Феанія Крысюк (на жаль, ужо нябожчыца) выйграла Гран-пры за лепшы беларускі ручнік. Гэта першая і адзіная жанчына з раёна, хто атрымаў званне народнага майстра Беларусі. А ў 2010 годзе Ніна Казак заняла другое месца на Рэспубліканскім конкурсе на лепшы беларускі сувенір. У прынцыпе, раённы Дом рамёстваў па большай частцы займаецца ткацтвам і вышыўкай. З нацыянальных рамёстваў таксама прысутнічае мастацкая апрацоўка дрэва, карункапляценне, пэўны час было і саломапляценне. Але ў нас гэта лічыцца баўленнем вольнага часу, а не сродкам існавання.

**— Ці можна недзе набыць вашу прадукцыю?**

— Так. Добрыя стасункі наладжаны з брэсцкім магазінам-салонам "Скарбніца", які спецыялізуецца на вырабах народнай творчасці. Таксама даём на продаж нашыя ручнікі ў краму "Скарб", што знаходзіцца ў Траецкім прадмесці ў Мінску. Шчыра кажучы, цана, па якой яны прадаюцца, не надта вялікая. А колькі ж у гэтыя вырабы ўкладзена любові і старанняў! Майстрыхі заўжды згодныя выстаўляць свае паясы, сукенкі, карункі на кожнай выстаўцы, але прадаваць — адмаўляюцца. Ручнікі ў нас на месцы карыстаюцца добрым попытам. Па сённяшні дзень яны шырока ўжываюцца ў вясельных абрадах. Таксама і ў нацыянальных беларускіх сукенках дзяўчаты замуж выходзяць. Таму, можна сказаць, працуем практычна на заказ.



*На здымку: майстрыхі Ульяна Віннік, Ніна Казак і дырэктар Дома рамёстваў Марыя Муха.*

**— У ткацтве і вышыўцы вы скарыстоўваеце адвечныя традыцыі ці дадаеце ўжо нешта сваё?**

— У нас прысутнічаюць і новыя тэхналогіі, і нейкія новыя метады. Але ў пераважнай большасці ўсё робіцца па старых рэцэптах. Вельмі ўважліва і рупліва ставімся да традыцый. Заўсёды стараемся вытрымліваць неабходную каляровую гаму, памеры. Сапраўдны беларускі ручнік павінен выглядаць яркім і каларытным. У Доме рамёстваў сабрана вялікая аўтэнтычная калекцыя ручнікоў, прадметаў традыцыйнага беларускага касцюма, абрусы, карункі, сурвэткі, пано. Якраз яны і служаць нам узорамі для сапраўднага ткацтва. У агульнай колькасці больш як сто прадметаў там будзе. Мы нават збіраем маленечкія кавалачкі нацыянальнага адзення, якія б можна было неяк выкарыстаць. Прыносяць карысныя для нас рэчы і звычайныя людзі. У асноўным гэта рарытэты, якія ў спадчыну дасталіся ім ад сваіх бабуль і прабабуль. Гонарам калекцыі лічыцца стогадовы ручнік з вёскі Люсіна.

> *У пераважнай большасці ўсё робіцца па старых рэцэптах. Вельмі ўважліва і рупліва ставімся да традыцый. Заўсёды стараемся вытрымліваць неабходную каляровую гаму, памеры. Сапраўдны беларускі ручнік павінен выглядаць яркім і каларытным. У Доме рамёстваў сабрана вялікая аўтэнтычная калекцыя ручнікоў, прадметаў традыцыйнага беларускага касцюма, абрусы, карункі, сурвэткі, пано. Якраз яны і служаць нам узорамі для сапраўднага ткацтва.*

**— Часта ездзіце з выстаўкамі?**

— Так. І не толькі ў раёне, але і па ўсёй Беларусі можна пабачыць вырабы ганцавіцкага Дома рамёстваў. Пастаянна бяром удзел у розных святочных мерапрыемствах, удзельнічаем у рэспубліканскіх конкурсах, выстаўляемся ў Гарадах майстроў. У 2008 і 2010 годзе ездзілі на Ягелонскі кірмаш нацыянальных рамёстваў у Польшчу — у Люблін. Дарэчы, геаграфія нашых вырабаў даволі шырокая. Ручнікі, карункі, вышываныя сурвэткі едуць ад нас і ў Англію, і ў Германію, і ў Галандыю.

**— Пры Ганцавіцкім раённым Доме рамёстваў існуе клуб майстроў ці дзіцячыя мастацкія гурткі?**

— Клуб майстроў "Багач" працуе ўжо даволі значны час. Ён нават апярэдзіў сваім з'яўленнем Дом рамёстваў. Там збіраюцца звычайныя людзі з вялікай цягай да народных традыцый. Багач — сімвал у нацыянальным беларускім арнаменце, які абазначае багацце, дабрабыт, гармонію і дастатак у сям'і. На творчых сустрэчах людзі дзеляцца сваімі задумамі, цікавымі ідэямі. Афіцыйна ў клуб уваходзяць 24 чалавекі. Ужо шмат хто з яго малодшых выхаванцаў сталі студэнтамі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка. Пачынала вышываць у нас адна дзяўчынка, дык у шаснаццаць гадоў ужо атрымала дыплом удзельніка Другой нацыянальнай выстаўкі "Жывыя крыніцы". Гэта вельмі значнае дасягненне для яе ўзросту.

Існуюць пры Доме рамёстваў і дзіцячыя гурткі па ткацтве і вышыўцы. У асноўным іх праводзяць нашыя таленавітыя майстры. Часта ў Дом рамёстваў прыязджаюць з экскурсіямі. Мы заўсёды даём магчымасць кожнаму паспрабаваць сябе за кроснамі, чоўнік прапусціць ці які-небудзь гузік на нітку наматаць. Жадаючых — не адбіцца. Аж да слёз даходзіць — хто будзе першым. Старэйшыя дзеці часцей прыходзяць на майстар-класы, бо ім ужо патрэбна кансультацыя і дапамога, а не пастаянныя базавыя заняткі. Сваім вучням я кажу: "Калі здолееце 5 вузялкоў на ніцы развязаць — значыць, гэтая справа для вас". Толькі на першы погляд падаецца, што ўсё лёгка. А на самай справе такая праца вельмі карпатлівая і складаная. Таксама дапамагаем зацікаўленым школьнікам і студэнтам у пошуку літаратуры па гісторыі народных рамёстваў. У мяне ўжо шмат назапашана практычнага матэрыялу, які патрабуе пэўнай апрацоўкі ў друкаваным выглядзе.

**— Ці плануеце аднавіць яшчэ якое-небудзь народнае беларускае рамяство?**

— Безумоўна. Нядаўна да нас у калектыў прыйшла яшчэ адна выдатная вышывальшчыца — Святлана Варвашэвіч. З ёй мы распрацоўваем новы мастацкі кірунак, дзе можна выкарыстаць спалучэнне ткацтва, вышыўкі, саломапляцення. Гэта стварэнне беларускіх лялек. Тут трэба і боцікі пашыць, і сукенку, і прычоску зрабіць, і саму ляльку. Такая справа дасць магчымасць падыходзіць комплексна да шматлікіх відаў рамёстваў.

**Дарэчы, у гэтым годзе менавіта ў Ганцавічах пройдзе адно з галоўных нацыянальных свят — Дзень беларускага пісьменства. Калектыў раённага Дома рамёстваў пачаў ужо рыхтавацца да гэтай адметнай падзеі.**

## Universum



Віка ТРЭНАС

# Поспех — у супольнасці

*Не кожны творца пагодзіцца працаваць у камандзе. Па-першае, таму, што баіцца страціць сваю індывідуальнасць і ўнікальнасць сваіх здольнасцей. Па-другое, як вядома, фактычна ўсе без выключэння творчыя людзі амбітныя, а значыць, не любяць, каб імі кіравалі. А куратар — так паказвае практычны досвед! — у любой важнай справе павінен быць адзін. Хіба можна выбраць аднаго там, дзе ўсе першыя? Аказваецца, яшчэ як! І атрымаць станоўчы вынік? Безумоўна! Інакш бы ў беларускай культурнай прасторы не з'явіліся тых два супольныя праекты — музычны і літаратурны — пра якія сёння пойдзе гаворка.*

### Спявайма «Ў»!

Літара "ў" — візітоўка беларусаў і брэнд беларускай мовы. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова паслухаць кружэлку з аднайменнай назвай. Аўтарамі праекта сталі Раман Арлоў і Вадзім Марголін. У дыск увайшло восем кампазіцый (сем па-беларуску і адна — па-англійску). У падрыхтоўцы кружэлкі паўдзельнічалі каля трыццаці чалавек (гэта тыя, чые імёны ўдалося знайсці на вокладцы) — музыканты, спевакі, прадзюсары, менеджары... Прычым выканаўцаў аб'ядноўвае не музычны стыль, у якім яны працуюць. Што можа быць канцэптуальна агульнага ў Алега Хаменкі (фольк-мадэрн, гурт "Палац"), Аляксандра Памідорава (рэп), Аляксея Хлястова (поп-музыка), Уладзіміра Пугача (папулярны рок, гурт "J_Mors") ды іншых? Правільна — лучнасць у любові да сваёй мовы і культуры. Па такім важкім прынцыпе насамрэч варта аб'яднаць усіх нашых людзей. Задума выдатная, ідэя бяспройгрышная, выкананне — дастойнае. Зрэшты, пра музыку трэба меней казаць, а болей яе слухаць.

### Кавалер і Дамы

Спачатку яны сфатаграфаваліся для "Сучаснага беларускага календара", водгукі ашаламляльнай папулярнасці якога да гэтай пары можна знайсці ў Інтэрнэце. Сутнасць дыскусій і гарачых абмеркаванняў: ці дастаткова эратычныя фота, ці магчыма іх аб'яднаць у межах супольнага праекта і ўвогуле — навошта такая культурная з'ява і ці культурная яна? Неўзабаве ўдзельніцы запісалі агульную песню, сабраліся зрабіць кліп, пачалі весці рубрыку на папулярным жаночым сайце. І выдалі кнігу. Розныя літаратурныя пакаленні, розныя эстэтычныя густы, розныя чытацкія колы, розныя жанры і нават мовы. Агульнае толькі тое, што ўсе яны — жанчыны. За выняткам мужчыны-суаўтара адной з удзельніц — Андрэя Жвалеўскага. І яшчэ таго, хто напісаў прадмову, — Алеся Камоцкага.

Зборнік "Кавалер і Дамы" ў першую чаргу — адметны масмедыя-праект, да якога далучыліся вядомыя ў нашай прасторы творчыя жанчыны — Святлана Бень, Алена Ярмаловіч, Валерыя Кустава, Яўгенія Пастэрнак, Дзіяна Балыка, Вольга Акуліч, Ганна Альхоўская, Вольга Гапеева, Вольга Тарасевіч, Тамара Лісіцкая, Наталля Батракова. Варта адзначыць: элітарная беларускамоўная паэзія ўжо даўно не выходзіць такімі вялікімі накладамі. Калі сумясціць высокае мастацтва з сучаснымі піяр-тэхналогіямі — ці магчыма павялічыць колькасць тых, хто чытае па-беларуску? Каб пытанне не было рытарычным, трэба пераходзіць ад тэорыі да практыкі. І вучыцца працаваць у камандзе.

# Беларусіка ў Доме ўрада

Ірына ТУЛУПАВА

**“Беларускія прыватныя кнігазборы XX стагоддзя: лёс калекцый праз лёс уладальнікаў” — такую тэму распрацаваў да аднаго з міжнародных “круглых сталоў” загадчык аддзела старадрукаў і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь Валерый ГЕРАСІМАЎ. Старадаўнія кніжныя калекцыі — гэта найчасцей зборы знаных беларускіх родаў, лёс якіх цесна знітаваны з гісторыяй Айчыны. Шмат кніг з такіх збораў, працэс назапашвання якіх адбываўся цягам некалькіх дзесяцігоддзяў і нават стагоддзяў ды звязаны з імёнамі некалькіх пакаленняў таго ці іншага роду, трапіла пазней не толькі да прыватнікаў-кніжнікаў, а найперш — у дзяржаўныя бібліятэкі. Перадусім — у Нацыянальную, цэнтральную навуковую і ва ўрадавую, якою ёсць цяпер Прэзідэнцкая. Дык што ж хаваецца ў яе 30-тысячным фондзе рэдкай кнігі?**

### Радаводнае дрэва

— Лёс нашай бібліятэкі як дзяржаўнай кніжніцы для забеспячэння патрэб улады і кіравання сягае ў далёкую мінуўшчыну. Карані радаводнага дрэва мы выводзім ад Еўфрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага, Аўраамія Смаленскага. Беларускія асветнікі, кніжнікі, бібліяфілы таго часу, гэтаксама як і дзяржаўныя мужы, безумоўна, мелі свае асабістыя бібліятэкі, і яны неслі пэўныя функцыі дзяржаўных інфармацыйных установ, адпаведных сваёй эпосе, — распавядае Валерый Мікалаевіч у музеі гісторыі бібліятэкі, які займае частку адной з залаў. На цэнтральным месцы — радаводнае дрэва. — Але гісторыя беларускага пісьмовага слова пачынаецца з перыяду нашмат ранейшага, а менавіта — з III — V стагоддзяў, калі існавала пісьменства (магчыма, рунічнае) так званых праславянскіх дзяржаў венедаў, антаў і склавінаў. У VI — VIII стст. знаходзім ужо рысы бібліятэк першых беларускіх протадзяржаў — крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў, ліцвінаў. У IX — XII стст. з'яўляюцца храмавыя бібліятэкі, кнігазборы полацкіх, тураўскіх, смаленскіх князёў. Берасцяныя граматы, графіці на сценах першых беларускіх сабораў, надпісы на пярсцёнках — таксама помнікі кніжнай культуры. А эпіграфіка Барысавых камянёў да таго ж і сведчанне выкарыстання пісьмовай мовы ў дзяржаўным ужытку.

Наступны перыяд — XIII ст. — 1795 год. Гэта бібліятэкі вялікіх князёў Вялікага Княства Літоўскага і каралёў Рэчы Паспалітай — Жыгімонта I Старога, Жыгімонта Аўгуста, Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Тут жа Нясвіжская ардынацыя Радзівілаў, кніжныя зборы слуцкіх Алелькавічаў, Сапегаў, Храптовічаў, Наркевічаў-Ёдкаў ды іншых.

З 1795 і па 1917 гг. існавалі бібліятэкі дзяржаўных устаноў так званага Заходне-Рускага краю Расійскай імперыі, але мы разглядаем і бібліятэкі паўстанцкіх урадаў Касцюшкі, Каліноўскага. Дакументы паўстанцкіх урадаў



насяць дзяржаўны характар: мы ж як урадавая, Прэзідэнцкая бібліятэка збіраем помнікі канстытуцыйнага права Беларусі. I гэта таксама своеасаблівыя канстытуцыі паўстанцкіх дзяржаў, якія існавалі.

На больш высокіх адгалінаваннях радаводнага дрэва — чытальні 1918 — 1925 гадоў. Сярод іх — бібліятэкі ўрадаў Беларускай Народнай Рэспублікі: тут і Вацлаў Ластоўскі, і Антон Луцкевіч, і Язэп Варонка, і Кастусь Езавітаў — усе тагачасныя грамадскія дзеячы, як правіла, былі бібліяфіламі.

У 1919 — 1933 гадах узнікаюць бібліятэкі ЦВК, СНК, наркаматаў ССРБ — БССР. Гэта новы час. Вось мы бачым вокладку “Отчёта о деятельности органов юстиции БССР за 1926 год”. На ёй штамп: “Бібліятэка Савету Народных Камісараў Беларускае ССР”. І дата: 1927 г. — верагодна, толькі за некалькі год перад тым непасрэдная папярэдніца нашай бібліятэкі была створана, бо на выданні стаіць “незвычайны” інвентарны нумар — “2020-а”.

### З Еўропы — у Беларусь

Пабудавалі Дом Урада да 7 лістапада 1933 года. Напачатку для бібліятэкі асобнага памяшкання не прадугледжвалася. Але калі сюды пачалі пераязджаць ЦВК, СНК, наркаматы — у кожнай з гэтых устаноў былі свае бібліятэкі — зразумелі, што пад кнігі неабходна памяшканне.

— Амаль няма ў нас характэрыстыкі даваеннага фонду, — працягвае Валерый Мікалаевіч. — У той час мы займалі, бадай, трэцяе месца: пасля “Ленінкі” (сёння “Нацыяналка”) і навуковай бібліятэкі пры Акадэміі навук. Агульная колькасць выданняў — 250 тысяч, кніжны фонд — каля 80 тысяч. І ўжо тады ў нас было вельмі шмат рэдкіх выданняў — пасля канфіскацыі з маёнткаў, кляштараў, гімназій і семінарый быў створаны дзяржаўны фонд па размеркаванні літаратуры, і яна паступала ў бібліятэку. Наш даваенны фонд утрымліваў шмат беларусікі, якая была выдадзена да 1917 года, памятныя кніжкі беларускіх губерняў, быў поўны збор газет таго часу — 1920 — 30 гг.… Але пачалася вайна, і фонд быў амаль цалкам страчаны. Сумна вядомая каманда Розенберга, якая вывозіла культурныя каштоўнасці з усёй Еўропы, таксама тут дзейнічала.

Пасля вайны наша літаратура была знойдзена на тэрыторыі Польшчы і Германіі. Наш зямляк Канстанцін Ракасоўскі дапамог вярнуць яе назад. І адзін ці два эшалоны кніг прыбылі з Германіі. Але з гэтымі эшалонамі патрапіла да нас і літаратура, якая была вывезена з Заходняй Еўропы. Напрыклад, часткі Тургенеўскай бібліятэкі ў Парыжы, Украінскай бібліятэкі Сымона Пятлюры ў Парыжы, тэалагічных бібліятэк з Амстэрдама, Бельгіі. Можа нават ёсць нешта з бібліятэк Гітлера. Мы ж ведаем, што ён захапляўся такога роду літаратурай: ёсць кнігі Блавацкай, кнігі са штампамі і экслібрысамі тэасафічных бібліятэк на замежных мовах. Нешта маем з бібліятэкі Дрэздэнскай карціннай галерэі, Прускай каралеўскай бібліятэкі. Вярнулася частка нашай даваеннай літаратуры. І сёння мы вывучаем экслібрысы, уладальніцкія надпісы, высвятляем, што ў каго ёсць.

***На здымку: Валерый Герасімаў трымае карту Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага 1772 г.***

## *Першы крок*

# Вярнуцца да раней прачытанай старонкі…

Рыта СТАХ

**Так сталася, што расчыняе чалавек дзверы бібліятэкі, каб затым з асалодаю разгарнуць улюбёную кніжку, ва ўзросце, калі літаратурны фаліянт вабіць больш сваёй таямнічасцю, казачнасцю і… прыгодамі, якія можна перажыць разам з героямі твораў. Першым чытацкім досведам вызначаецца і тое, ці зацікавіцца чалавек літаратураю дарослаю, ці не стане ён абыходзіць бібліятэку як чытальню, зусім яму незнаёмую. Як мы ўпершыню прыходзім у бібліятэкі? Хто нас сустракае? Пра сваю першую бібліятэку згадвае намеснік міністра культуры Тадэуш СТРУЖЭЦКІ.**

— У нас была невялічкая бібліятэка ў вясковай пачатковай школе — у Пастаўскім раёне. Не памятаю, колькі там было кніг, мо 500 — 600. Безумоўна, што па школьнай праграме было прадугледжана, тое і чыталі, часта разам з настаўніцай. У вёсцы зазвычай кніг для чытання было нямнога, ды і дома таксама. Бацькі ў свой час чыталі кнігі і на польскай мове...

Пазней, у васьмігадовай школе, бібліятэка была ўжо з выбарам мастацкай, а не толькі вучэбнай літаратуры. У час вучобы ў вучылішчы і інстытуце магчымасці прадаставіліся іншыя. Калі вучыўся ў Мінску, безумоўна, хадзіў у Ленінку, як тады называлі бібліятэку імя Леніна на вуліцы Чырвонаармейскай.

Працуючы многія гады ў Міністэрстве культуры і курыруючы дзейнасць бібліятэк, рэгулярна бываю ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, у раённых і сельскіх, заўсёды цікаўлюся, як наведваюцца насельніцтвам, што чытаюць, у якім стане кніжны фонд і як часта абнаўляецца... Калі ж ёсць патрэба і час пачытаць, заўсёды кнігу магу знайсці ці ў хатняй бібліятэцы, ці ў публічнай, тым больш што побач са мной выдатны дарадца — жонка, якая прапрацавала шмат гадоў у галоўнай бібліятэцы нашай краіны і выдатна арыентуецца ў кніжным акіяне. Таксама штодзённа карыстаюся Інтэрнэтам... Але трэба шчыра сказаць, што апошнім часам (і гэта не толькі мая асабістая праблема, а і вельмі многіх людзей, асабліва чыноўнікаў) на чытанне застаецца мала часу. На жаль, спецыфіка маёй працы ў тым, што большасць выхадных і святочных дзён звязана з паездкамі і мерапрыемствамі, адчуваецца недахоп рэгулярнага чытання...

Мяне заўсёды цікавіла літаратура па гісторыі, мастацтве, беларускай культуры. Калісьці даводзілася шмат пісаць артыкулаў, публікацый, звязаных з навукова-даследчыкай і выкладчыцкай дзейнасцю, пастаянна карыстацца спецыяльнай літаратурай. У час вучобы ў аспірантуры ў Маскве рэгулярна наведваў дысертацыйную залу Ленінскай бібліятэкі... Цяпер часта з'яўляецца жаданне звярнуцца да раней прачытаных кніг, у прыватнасці, да Уладзіміра Караткевіча, Васіля Быкава, іншых беларускіх і рускіх пісьменнікаў. Калі засумуецца па малой радзіме — перачытваю “Новую зямлю” Якуба Коласа, таксама і на польскай мове ў выдатным перакладзе паважанага і вельмі сімпатычнага мне Чэслава Сенюха з Варшавы. Многія вершаваныя радкі нагадваюць і маю родную вёску, яе былыя традыцыі і ўклад жыцця... Упэўнены, што ў відавым аспекце ніякая публіцыстыка, часопісы і газеты, Інтэрнэт не заменяць класічную традыцыйную кнігу, якую можна пагартаць, затрымаць у сябе, вярнуцца да раней прачытанай старонкі.

З задавальненнем падтрымаў абвешчаную ў гэтым годзе акцыю Міністэрства інфармацыі Беларусі ў падтрымку чытання. А Міністэрства культуры ініцыявала распрацоўку на міжведамасным узроўні праграмы падтрымкі і развіцця чытання. Як вядома, у некаторых еўрапейскіх краінах, у прыватнасці, у Польшчы многія гады праводзяцца падобныя акцыі.. Калі прыходзяць у бібліятэку ці ў школу да вучняў вядомыя пісьменнікі, артысты, якія чытаюць разам з імі (гэта вельмі стымулюе, прывівае любоў да кніг). Такое чытанне дае вельмі многа і ў эмацыянальным плане, і ў плане псіхалагічнага ўспрымання твора. Гэтую праблему неабходна актуалізаваць, бо людзі сапраўды чытаюць мала.

## *Штрых-код*

# Што было

Ярына РЫТАМІНСКАЯ

**У гарадах Эстоніі**, дзе жывуць беларусы (Сіламяэ і Йыхві), адкрыліся філіялы Грамадскай бібліятэкі імя Уладзіміра Караткевіча. У хуткім часе запланавана адкрыццё беларускай бібліятэкі ў Нарве.

**У рамках** Румянцаўскіх чытанняў у Гомельскай абласной універсальнай бібліятэцы адбыўся “круглы стол” на тэму “Кніга Беларусі: дзяржаўныя і прыватныя калекцыі. Сучасны погляд”. На ім, у прыватнасці, заяўлена пра неабходнасць стварэння нацыянальнага каталога старадрукаў і рэдкіх выданняў, вывучэння прыватных калекцый, якія знаходзяцца ў дзяржаўных сховішчах. Асобна вялася гаворка пра віртуальную рэканструкцыю кніжнай калекцыі, сабранай Фёдарам Шкляравым, заснавальнікам Веткаўскага музея народнай творчасці.

**На Барысаўшчыне** адбыўся шэраг мерапрыемстваў па азнаямленні хлопчыкаў і дзяўчынак з сучаснай беларускай дзіцячай літаратурай і, у прыватнасці, з творамі беларускай казачніцы Алены Масла. Асаблівую цікавасць у школьнікаў выклікала кніга А. Масла “Першая прыгажуня”. Інсцэніроўкі і чытанне казак арганізавалі ў Вялікаўхалодскай, Забашавіцкай, Хаўхоліцкай, Зембінскай і Вяляцікай бібліятэках. Таксама дзецям прапанавалі агляд кніг выдавецтва “Літаратура і Мастацтва”, сярод якіх ёсць творы Раісы Баравіковай, Эсміры Ісмаілавай, Генадзя Аўласенкі, Юі Вісландэр, Уладзіміра Карызны, Валерыя Кастручына і іншых аўтараў.

**“Я запрашаю вас у Чытай-горад!”** — такімі словамі сустракалі на прысвячэнні ў чытачы вучняў 1-га класа ў Лашанскай сельскай бібліятэцы Мінскага раёна, працягваючы добрую традыцыю знаёмства дзяцей з кнігай у чытальных залах і на абанеменце.

**У бібліятэках Драгічынскага раёна** падчас Тыдня экалагічных ведаў прайшлі дні інфармацыі, літаратурныя гадзіны, якія нагадалі пра Чарнобыльскую трагедыю. У прыватнасці, у Драгічынскай дзіцячай раённай бібліятэцы была арганізавана выстаўка-прагляд літаратуры “Плач зямлі беларускай”, дзе прадстаўляліся матэрыялы перыядычных выданняў і кнігі беларускіх пісьменнікаў пра Чарнобыль, рэпрадукцыі карцін Міхаіла Савіцкага і Віктара Шматава.

# Што ёсць

**У Бібліятэчнай асамблеі Еўразіі** праходзіць конкурс на лепшы праект “Развіццё міжкультурных і прафесійных сувязей бібліятэк краін СНД”. Паводле яго вынікаў на прамежкавым этапе адным з пераможцаў стаў праект “Бібліятэчныя скрыжаванні” Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкі імя У. Леніна. Жадаем калегам перамогі ў фінале!

**Да Сусветнага дня кнігі**, які адзначаецца 23 красавіка, у зале перыядычных выданняў Брэсцкай абласной бібліятэкі і аўтарская права падрыхтавана выстаўка “HOMO LEGENS: чалавек, які чытае”. Экспазіцыя будзе працаваць з 18 красавіка па 15 мая. На выстаўцы выкарыстана інфармацыя з перыёдыкі апошніх гадоў. Гэта спроба бібліятэкі сабраць праўдзівую карціну чытання пачатку XXI ст. Карыстальнікі знойдуць матэрыялы, у якіх актыўна абмяркоўваюцца значнасць і неабходнасць кнігі, праблемы чытацкага выбару.

**У Магілёўскай** абласной бібліятэцы адкрылася віртуальная выстаўка “VIDEOсалон”, на якой прадстаўлены найбольш вядомыя і агульнапрызнаныя шэдэўры сусветнага кінематографа: гістарычныя фільмы, дакументальнае кіно, фантастыка, а таксама стужкі для дзяцей і мультфільмы, меладрамы і баевікі. Менавіта гэтыя жанры найбольш папулярныя ва ўсім свеце.

# Што будзе

**З 3 па 9 мая** бібліятэкі Пінскай раённай цэнтралізаванай сістэмы прымуць удзел у Тыдні ваеннай кнігі. Будуць праведзены ўрокі мужнасці “Пра тых, хто змагаўся і перамог”, вечары-сустрэчы “Споведзь салдацкага сэрца” ды іншыя мерапрыемствы.

**15 мая** ў Дамашыцкай сельскай бібліятэцы (Пінскі раён) пройдзе пасвячэнне клуба сямейнага чытання “Сярод сяброў”. Яго ўдзельнікі збяруцца з зычлівым пажаданнем: “Няхай над сям'ёй выпраменьваюць зоры”.

# Майстар-клас ад вядомага пісьменніка

Алеся ЛАПІЦКАЯ

**Адносна нядаўна ў выдавецтве "Літаратура і Мастацтва" ў серыі "Лімаўскі фальварак" выйшла кніга Андрэя Федарэнкі "Мяжа", у якую ўвайшлі аднайменны раман-эсэ і 14 апавяданняў, створаных пісьменнікам з 1993 па 2009 год. "ЛіМ" ужо вёў гаворку пра "Мяжу" — прычым, гаворку даволі эмацыянальную, — цяпер жа ёсць магчымасць яшчэ раз выказацца пра твор і заўважыць у ім новае, раней не адзначанае…**

Ці можа празаік застацца ў літаратуры дзякуючы выключна аўтабіяграфічным творам альбо творам пра творчасць (уласную ці наогул)? Бадай што не — каб сцвердзіцца, трэба напісаць штосьці сацыяльна значнае альбо новае паводле стылю ці светаўспрымання. Калі ж гэта ўжо зроблена, то чаму б, сапраўды, не прыгадаць жыццё, не паразважаць пра мастацтва? За гэта і ўзяўся Андрэй Федарэнка, каб адказаць для сябе, а да таго ж і для чытачоў на шматлікія пытанні: "Чалавек можа хоць крышку ўплываць на свой лёс, карэкціраваць, рэдагаваць яго?", "Як маленькі дзікун… умудрыўся… данесці да 45-гадовай мяжы яшчэ нейкую Божую іскру-жарынку?", "Загадка ўвогуле творчасці. Гэта дабро ці зло?".

Абраны пісьменнікам жанр — раман-эсэ ("Галоўнае — шырэй, глыбей, свабодней!"), дзе жыццёвыя ўспаміны спалучаюцца з развагамі пра ўласнае творчае сталенне. Таму тэкст густа перасыпаны ўрыўкамі з даўно напісаных твораў і адступленнямі рознага кшталту. Літаратуразнаўцы, магчыма, будуць доўга аналізаваць кампазіцыю і архітэктоніку "Мяжы", захапляцца наватарствам пісьменніка, тым часам як кожны чытач-літаратар з першых старонак падумае: для пісьменніка няма нічога больш арганічнага, чым згадваць сваё жыццё праз свае творы, праз змену стаўлення да літаратуры, праз спасцігнутыя ў пэўны час і з пэўнай нагоды аксіёмы. "Вынаходкі трапляюцца так: ні



на што большае не стае фантазіі, тады што-небудзь самае звычайнае знойдзецца на падэшве — яго бяруць, і гэта, як потым разгледзяцца, самае каштоўнае", — піша пра сваю творчасць Лукаш Калюга, зычліва згаданы А. Федарэнкам літаральна на першай старонцы "Мяжы" (магчыма, менавіта такім і мае быць лозунг кожнага таленавітага пісьменніка-рэаліста).

Добрая рыса рамана-эсэ — гэта менавіта ўпэўнены зварот да аўтараў і твораў з беларускай класічнай літаратуры, згадванне шматлікіх выказванняў сучасных творцаў — без сарамлівага паціскання плячыма, без хмыкання ці падсмейвання. Менавіта так і трэба пазбаўляць беларусаў іх нацыянальных комплексаў, сцвярджаць вартасць роднага, і кожны, хто цэніць беларускую літаратуру, можа хаця б праз гэта крыху ўхваліць Федарэнку… Да таго ж, "Мяжа" — гэта твор вельмі карысны для літаратараў самага рознага кшталту — своеасаблівы майстар-клас ад вядомага пісьменніка, які з пазіцый сталага рэдактара каменціруе ўласныя раннія творы, разважае пра сучасных аўтараў і пра рысы сучаснай літаратуры. Цытаты з рамана-эсэ выдатна можна выкарыстоўваць на занятках па беларускай літаратуры ў школе альбо ва ўніверсітэце: "Калі герой глядзіць на яблыню, дык трэба, каб не аўтар накіроўваў яго вочы на яе, а каб гэтае сузіранне з чагосьці вынікала, а наступнае дзеянне чаплялася ўжо за эпізод аглядвання яблыні".

Пра творчасць Андрэй Федарэнка піша шмат. Але: "Аўтар, калі ён разумны чалавек, ведае, што не скажа, па вялікім рахунку, ніякай новай думкі". Што новага сказаў пісьменнік пра таямніцы мастацкай творчасці, кожны чытач вызначае асабіста.

Камусьці ж можа здацца таямнічым тое, што герой-пісьменнік і герой-проста-чалавек між сабой амаль не суадносяцца. У тых частках твора, што з'яўляюцца ўспамінамі, дзённікавымі запісамі альбо скарочанымі варыянтамі ранніх апавяданняў, якія чытач адразу залічвае ў катэгорыю "так і было", амаль не выпадае казаць пра "абвостранае пачуццё справядлівасці і прыгажосці". Першыя цыгарэты, недаверлівыя выкладчыкі, дзяўчаты, мары пра якіх на першым этапе скончваюцца "дзеўкаю (вольных паводзін)", хлапечыя разборкі, армія, вяртанне на вёску ("Патлаты, няголены, расхлістаны — і ў прамым, і ў пераносным сэнсе, і фізічна і духоўна"), інстытут ("вільгаць, бульканне спіртнога"), праца (увечары "цераз раз таксоўка, бо ногі не трымаюць") — большасць з гэтых эпізодаў не толькі выяўляе жыццё тыповага беларуса, але і напісана ў рэчышчы тыповага светаўспрымання людзей кшталту Тупога ("Не ндравішся ты мне, ох, не ндравішся… Не п'еш, па бабах не ходзіш… Г..но, а не хлопец".). Адпаведная і мова рамана: пісьменнік не надта далікатнічае з чытачом, адкуль "штукі", "чорты", "тыры-пыры" (ёсць, вядома, і грубейшыя слоўцы), гутарковыя выразы і мужчынскія анекдоты.

Вельмі рэдка ("Хахлы" ці "Заява") ад героя-проста-чалавека штосьці сапраўды (не па падказцы аўтара) цягнецца да героя-пісьменніка. Што ў такім асяроддзі і пры такім ладзе жыцця штурхае чалавека да творчасці апроч ягонай адмысловасці? Паводле Федарэнкі, гэта жаданне збегчы ад рэальнасці. Але зрабіць гэта можна самымі рознымі спосабамі, дык чаму менавіта праз творчасць? Да таго ж, навошта так рэалістычна пісаць аб праблемах рэальнасці, калі марыш абсалютна ігнараваць яе?

Карацей, паразважаць над "Мяжой" цікава: так і мае быць, бо ў пісьменніка, як і ў вабнай жанчыны, заўсёды павінна быць таямніца, намёк, недаказанасць… Гэтая таямніца застаецца і ў творчасці Андрэя Федарэнкі, нягледзячы на тое, што пісьменнік абсалютна не імкнецца стварыць вакол сябе легенду, ідэалізаваць і прыхарошваць Я-героя ў розных ягоных праявах. Брацца за "Мяжу" ўсё ж лепш тым, хто чытаў ранейшыя творы гэтага пісьменніка: тады раман-эсэ задаволіць натуральную чытацкую цікаўнасць і мастацкая пазіцыя аўтара стане больш зразумелай.

"Мяжа" — гэта твор не толькі пра пісьменніка, гэта твор пра час і пра пэўную літаратурную сітуацыю. Калі б Андрэй Федарэнка не ўзяўся напісаць яго сам, раман такога кшталту (прысвечаны яго біяграфіі), магчыма, усё роўна з'явіўся б праз якіх-небудзь паўстагоддзя.

# Супраціўленне формуле

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

**Колькі б я ні пачынаў думаць пра прозу Андрэя Федарэнкі, заўсёды нечага мне не хапала — апіры́шча, каб адштурхнуцца. Для крытыка добра, калі ўсё ляжыць па спадачку, — бяры ды чэрпай рознага кшталту "-ізмы" і "-шчыну". Калі ўзяўся паразважаць наконт апавяданняў з новай кнігі "Мяжа", перш за ўсё стаў суадносіць са школай рускага класічнага апавядання, але і тут патрэбнага "адпаведніка" знайсці не атрымалася, паўставалі пытанні без адказаў; слізкі, як той уюн, сэнс не ўдавалася затрымаць у руках.**

Відаць, у гэтым і палягае адна з асноўных прыкмет сур'ёзнага таленту: немагчыма адшукаць для яго брата-блізнюка. Аднак у той жа час добры твор заўсёды месціць у сабе традыцыю. Ды ў выпадку з малой прозай Федарэнкі тут навідавоку сыходжанне цэлага шэрагу ліній лучнасці: творчасці Талстога і Чэхава, беларусаў Мележа і, часткова, Скрыгана, — цалкам пераасэнсаванай на тле эстэтыкі 1990-х, з яе прагай дэфармацыі, прыхільнасцю да іроніі і, галоўнае, нежаданнем *пісаць так, як пісалі раней*. Нейкай адной-адзінай традыцыі ці нават і строгай пазіцыі ад Федарэнкі не дачакаешся: тут суплёт.

Нягледзячы на адзначаны многімі крытыкамі традыцыяналізм Федарэнкі, ён таксама па-свойму імкнуўся да постсавецкага перафарматавання прозы (а не цягнуў у мінулае), прапаноўваў і паказваў шляхі яе магчымага, верагоднага развіцця. Але справа ў тым, што гэтыя прапановы былі не зусім модныя і, скажам так, недастаткова "заходнія"; што за падобны метад малады і бескампрамісны крытык мог лёгка ўплішчыць пісьменніка найменнем "рэтраграда", бо ў прозе Федарэнкі сапраўды, здавалася, да пары да часу не было знаку не тое што XXI, але і XX стагоддзя. Не было сумятлівага імпрэсія- і экспрэсіяністычнага эгацэнтрызму, не было трагічнага і апакаліптычнага празорства, гульні ў сімвалы і топасы, легкаважкага цытатнага сцёбу, ды нават і выцяснення голасу апавядальніка з тэксту — дзеля яго магчымага "адасаблення" ("остранения"). Прызнаюся, сяго-таго з пераліченага чакаў заўсёды, як сын свайго часу, і я. І тым, што пісьменнік адмовіўся па гэтых наўпроставых шляхах ісці, ён застаўся ў пэўным сэнсе terra incognita для сучасніка.

Зноў жа, усе нашыя беды, відаць, ад хуткага і няўважлівага чытання, у выніку якога імгненна ствараюцца канцэпцыі; шкоду ад іх даводзіцца прыбіраць дзясяткі гадоў.

Кожнае з 14 апавяданняў, сабраных у кнізе "Мяжа", цэласнае і завершанае, слова не ўставіш — слова не выкінеш. Кожнае пакідае па прачытанні водгук, не да канца ўсвядомлены і ясны. Ён хутчэй падобны да разгубленасці, чым да катарсісу. Аповеды напісаны ў розныя гады, але стылістычна яны ўсе роўныя, хоць сітуатыўна і рытмічна разасабляюцца, што і зразумела.

Бадай, асноўны цэнтр прыцягнення і аб'яднання такіх разнапланавых твораў — увага пісьменніка да парадоксаў чалавечай псіхікі, хітрасплятенняў успрымання, "выкрунтасаў" хворай, а то і быццам здаровай свядомасці. Але справа тут не толькі ва ўласна "героях": шмат дзе ў творах спрацоўвае эфект "падманутых чаканняў", калі ў дурнях апынаецца сам чытач — праз свае стэрэатыпныя мысленне. Так, Сыч з аднайменнага апавядання напачатку здаецца змрочным і дзікім, як Лявон Бушмар, аднак пасля атрымоўваецца, што чытач патрапляе на кручок расхожага ўяўлення і, завочна, яшчэ да канца твора, асудзіўшы героя, сам вымушаны прымерыць мантыю няправеднага суддзі.

Але найчасцей у "пераплёце" менавіта герой. Ці ён у палоне свайго лёсу, якім, зрэшты, распараджаецца сам (і ад таго часта пакутуе); ці то падпарадкоўваецца, раскрываецца іншаму чалавеку, які застаецца ягоным успамінам, а значыць — і набыткам. Лёгка ставіцца нязмыўнае таўро нядобранадзейнасці на бязвіннага героя апавядання "Графіці", якое пасля суправаджае яго на працягу ўсяго жыцця, аднак і ў старасці былая дырэктарка школы свята верыць у сваю правату. Зноў жа, тая самая тэма і сюжэт-перавёртыш — апавяданне "Сакрэт", у якім журналіст Павел у празе абсмяяць невядомага пісьменніка-плагіятара раптам прыходзіць да цалкам супрацьлеглай высновы, яго ўпэўненасць у сваёй праўдзе знікае, ды і сама тая ісціна, раней непарушная, падаецца цяпер не надта пераканаўчай.

Той жа пераварот традыцыйнай сюжэтыкі назіраем у аповедзе "Бунін-Марцінкевіч", дзе плынь свядомасці героя (як і ў некаторых іншых творах Федарэнкі) з'яўляецца ключавой, у стылістыцы Дастаеўскага, але тут — прыхаванае пакепліванне беларускага пісьменніка з падобнага кшталту пісьма і пафасу наогул: паток ісцін справакаваны вялікай дозай наркотыкаў, улітых у смяротна хворага маладзёна. Яго "празорніцкае" маралізатарства — усяго толькі трызненне. Зрэшты, амаль у той жа час у палаце памірае і носьбіт практычнага розуму, маўклівы стары скептык, і гэта таксама выключае верагодную ацэнку і адзіна правільны пункт погляду. Абодва варыянты адказу, выяўляецца, няслушныя. Ані самаспаленне ў слове, ані цвяроза-прагматычнае "мая хата з краю" не пазбаўляюць ад смерці і пустапарожняй лаянкі над тваім целам дурнады-санітаркі.

Гэтае пастаяннае змяшчэнне цэнтраў цяжару і немажлівасць адзінапрынятай трактоўкі вылучае прозу Федарэнкі з пракруставага ложку "традыцыйнасці". Мала таго, менавіта ў творах Федарэнкі апошніх гадоў магчыма шукаць падводныя плыні постмадэрністычнай эстэтыкі. На гэта наштурхоўвае своеасаблівасць выяўлення іранічнага ў яго прозе, сапраўдны аналіз якой, пэўна, яшчэ не праводзіўся навуковым асяродкам. Калі ён будзе здзейснены, то, відавочна, ходкае меркаванне пра традыцыяналізм Федарэнкі моцна пахіснецца і запатрабуе істотнага пераасэнсавання.

Напісанае Федарэнкам апавяданне толькі вонкава знаходзіцца ў ключы "махровай" традыцыі — ці то "вясковай прозы", ці то "крытычнага рэалізму". Насамрэч яно ўзнікае на зусім іншых *перадумовах*. Гэта прага ствараць адрознае ад папярэдняга, увесь час уносіць новае — у сюжэт, кампазіцыю, сэнсава-тэматычную дамінанту. Так аднолькавы пейзаж засыхае пад рукой капіравальніка і ажывае з пэндзлем сапраўднага мастака, якому дастаткова ўсяго толькі змяніць акцэнты, каб усім вядомая карціна зайграла новымі адценнямі. Вось тое новае, недагаворанае і спрабуе кожны раз здзяйсняць у сваіх аповедах Андрэй Федарэнка. На дзіва, гэта яму з зайздросным пастаянствам удаецца рабіць.

Марына ЗАПАРТЫКА

# Vera беларуская

**Не так даўно Беларусь панесла вялікую страту: у лепшы свет адыйшла знакамітая перакладчыца і даследчыца беларускай літаратуры Вера Рыч, якой сёлета споўнілася б 75 год. Дзякуючы гэтай незвычайнай асобе нашу літаратуру ведалі і ведаюць у англамоўным свеце. Сярод першых перакладаў Веры Рыч быў "Раманс" ("Зорка Венера") М. Багдановіча. Зорка Максіма асвяціла доўгі творчы шлях паэткі да беларускай літаратуры.**

Фэйт Элізабэт Рыч (менавіта так гучыць сапраўднае імя перакладчыцы) нарадзілася ў звычайнай англійскай сям'і ў Лондане. Бацька — Джордж Рыч — працаваў прыватным дэтэктывам, маці Магдалена была хатняй гаспадыняй і час ад часу пісала артыкулы для жаночых часопісаў. Вера вучылася ў каталіцкім ліцэі. У кастрычніку 1953 года яна трапіла на экскурсію ў беларускую капліцу святога Пятра і Паўла ў Лондане. Прыйшоўшы туды аднойчы, Вера на ўсё жыццё засталася вернай прыхаджанкай капліцы, менавіта там пазнаёмілася з беларускай культурай, гісторыяй і, зразумела, літаратурай.

Менавіта з Верай Рыч ЮНЕСКА падпісала дамову на падрыхтоўку перакладаў беларускай паэзіі. І ў 1971 годзе анталогія беларускай паэзіі ад 1828 года да нашых дзён "Like water, like fire" ("Як агонь, як вада") пабачыла свет. Грунтоўная праца перакладчыцы ўражвае: кніга змяшчае больш як 200 вершаў каля 40 аўтараў ад Францішка Багушэвіча да Максіма Танка, уступнае слова, каментары да твораў, біяграфіі паэтаў. Вера Рыч падышла да падбору твораў, аўтараў і канцэпцыі кнігі неардынарна для савецкага літаратуразнаўства таго часу. Не дзіўна, што ў Савецкай Беларусі кніга выклікала шмат нараканняў з боку афіцыйных крытыкаў. Кнігу чакаў незайздросны лёс, праект фінансаваўся праз савецкі бок, Галоўліт пачаў працягваць, каб кніга была знішчана. Знішчыць выданне не атрымалася, але ўжо ў наступным годзе анталогія апынулася пад забаронай.

У Літаратурным музеі Максіма Багдановіча захоўваецца экзэмпляр анталогіі, падораны Верай Рыч. Адметнасць і каштоўнасць кнігі ў тым, што ўласнаручна перакладчыца зрабіла папраўкі ў анталогіі да перакладу "Зоркі Венеры" М. Багдановіча — такое імкненне да дасканаласці для яе незвычайнай асобы характэрна. М. Багдановіч быў адным з любімых паэтаў перакладчыцы, неадпойчы яна звярталася да яго творчасці, заўсёды падкрэсліваючы, што Багдановіч — адзін з самых яе ўлюбёных беларускіх паэтаў.

Другая кніга перакладаў "The images swarm free" ("Снуецца зданяў рой"), што стварылася разам са знакамітым беларусістам Арнольдам Макмілінам, выйшла ў 1982 годзе. Зборнік уключае паэзію Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна і Змітрака Бядулі. Нягледзячы на журналісцкую працу, якая забірала шмат энергіі, Вера Рыч знаходзіла час на пераклады. У другую кнігу ўвайшло многа новых перакладаў з Багдановіча, а ўступ Арнольда Макміліна падае больш падрабязную біяграфію і характарыстыку творчасці класікаў беларускай літаратуры.

Выпускаючы невялічкі часопіс "Manifold", Вера Рыч перыядычна змяшчала ў ім пераклады вершаў і прозы Максіма Багдановіча, працуючы і ўдасканальваючы свае творы. У часопісе "The journal of byelorussian studies" у 1965 годзе выйшаў грунтоўны артыкул, прысвечаны творчасці Максіма Багдановіча "Maksim Bahdanovič in byelorussian literature" ("Максім Багдановіч у беларускай літаратуры"). Вера Рыч, займаючыся творчасцю М. Багдановіча, імкнулася зразумець яе сутнасць і данесці да чытача сваё адчуванне паэзіі беларускага класіка. Праз сваю дзейнасць даследчыца дасягнула мэты.

Нямала энергіі аддаўшы нашай літаратуры, працуючы на яе папулярызацыю не адзін дзясятак год (першыя пераклады датуюцца яшчэ 1950-мі гадамі), прыехала на радзіму свайго любімага беларускага паэта толькі ў 1991 годзе. Вера Рыч была запрошана на канферэнцыю па правах чалавека ў Маскву. Ехала туды цягніком, і па дарозе атрымалася трапіць у Мінск. У гэты вясновы дзень, дзень памяці Максіма Багдановіча, Вера Рыч чытала вершы свайго любімага паэта ля яго помніка для людзей, якія па традыцыі прыйшлі ўшанаваць памяць паэта чыстай красы. Апынуўшыся першы раз у Беларусі, Вера Рыч, як яна сама ўзгадвала, адчула сябе сярод блізкіх па духу людзей, пачувала сябе як дома. Пасля гэтага Вера Рыч амаль кожны год прыязджала на Беларусь і неадпойчы наведвала Літаратурны музей Максіма Багдановіча. Многія супрацоўнікі музея памятаюць сустрэчы з гэтай незвычайнай жанчынай. Яе жыццярадаснасць, непасрэднасць, захопленасць сваёй любімай справай не пакідала нікога раўнадушным.

Вера Рыч вельмі ганарылася тым, што яна першая перакладчыца беларускай літаратуры на англійскую мову, бо першы заўсёды застаецца ў людской памяці, нягледзячы ні на што.

Таццяна НІЛАВА

# Дзяўчынка-восень

**Жыццё наша ва ўсёй сваёй складанасці, непрадказальнасці і прыгажосці адлюстравана ў будзённых і ўзвышаных словах. І калі выпадковыя людзі пачынаюць размову з каментарыяў пра надвор'е, то літаратары — з новых імёнаў: іх таксама прадказваюць, на іх спадзяюцца, а яны ў сваю чаргу мусяць апраўдваць спадзяванні. Але — на ўсялякі выпадак — не забудзьцеся сёння пра парасон. Анастасія Кацюргіна ўсур'ёз абяцае: "І будзе восень, мілы, назаўжды…"**

У літаратурных колах Гомельшчыны імя Анастасіі Кацюргіной, чыя кніга "Пад ветразем ранку" выйшла ў серыі "Аз" (на базе школы маладога літаратара У Гомельскім абласным Палацы творчасці дзяцей і моладзі), узгадваецца як назоў паэзіі "пад ветразем кахання" — гэта і тэма, і ідэя яе творчасці. А. Кацюргіна — васямнаццацігадовая паэтка. Хто ж не піша вершы ў васямнаццаць? Але я пагаджуся са словамі маладога М. Горкага: "Неадольна моцнае слова, натхнёнае каханнем". Асабліва першым каханнем. І вось гэтая неадольная моц, стыхія пачуцця — ад адной жарсці да супраціўлення — адчуваецца ў кожным радку.

Далёка не ў кожнага паэта, а тым больш паэткі, першае каханне асацыіруецца з восенню. А яна, дзяўчынка-восень, — раскрывае парасон, кружыць ліставей, назірае, як "аблятае задумлівы сад", абяцае вечную восень сабе і свайму абранніку і просіць яе ў падарунак. Восень як панацэя шчасця… Але, мабыць, гэта не толькі разгорнутая метафара, гэта і пэўны асабісты вопыт. Гераіня верыць у "вогненнае шчасце" і чакае Яго — свайго каханага. Ён для яе чаканы і неспадзяваны госць, якому яна можа дараваць усё, бо кахае і… гуляе ў каханне, "гуляе ў любосць". Такая постмадэрнісцкая алюзія перамяжоўваецца з рамантызмам, калі яна трызніць, верыць снам і ловіць сваё каханне ў мроях і наяве. "Якія сэрцу выдумаць прыгоды?" — сама ў сябе пытаецца паэтка і піша тры оды: "Оду пацалункам", "Оду восеньскім ранкам" і "Оду болю". А па сутнасці паэтызуе каханне, маладосць і расчараванне, калі вядзе вершаваны аповед пра сваю зямную існасць, страчаную святасць і непрыдатнасць для жыцця.

*…Усхліп каханых вуснаў… Толькі…*
*— Мой боль, як і мая любоў, —*
*Палын зямны — таму і горкі…*

***("Ода болю").***

Анастасія Кацюргіна мерае ісціну толькі адной катэгорыяй, зноў-такі пачуццёвай, — "веру — не веру", паводле Станіслаўскага. Гэта больш нагадвае гульню — і акцёрскую, і паэтычную, і філасофскую, бо яе вершы, здаецца, увогуле немагчымыя без веры, надзеі і кахання. Але… скончылася восень — скончылася і каханне для лірычнай гераіні. Менавіта так, а не наадварот. І яна зноў мроіць: "Ён напіша мне новую восень і растанне да нашай вясны…" Большасць сваіх вершаў Анастасія Кацюргіна складае пра нешчаслівае, няспраўджанае каханне. Тут ёсць альфа і амега вечнага пачуцця:

*…Загіне вера — усё адно…*
*Хай шэпчуць вусны пра растанне:*
*Тут нарадзілася каханне,*
*І хай на іх памрэ яно!..*

**("Маю руку сціскае вецер").**

Ёй хочацца быць лёгкай, пяшчотнай і цёплай. Гэтыя эпітэты паўтараюцца ў яе вершах неаднаразова. Паэтка Анастасія Кацюргіна верыць у каханне, спадзяецца на каханне і… кахае, апраўдваючы такі расклад проста:

*Мы — жонкі. Мы — падсудныя бяды,*
*Шукаем шчасця, долі і пашаны…*

**("Мінулае, і ты сканала зноў").**

Але так у ідэале. Хутчэй лірычную гераіню Анастасіі Кацюргіной можна параўнаць з Жаннай д'Арк: у некаторых вершаваных радках жарсць яе пачуцця дасягае такой дзявочай бескампраміснай палымянасці, што нагадвае матывы рэвалюцыйнай барацьбы — толькі не за незалежнасць роднага краю, а наадварот — за падуладнасць каханню ідзе яе бязлітасны бой на жыццё і смерць. Праўда, неўзабаве яна становіцца "пяшчотная і цёплая", калі каханне знаходзіць водгук у сэрцы любага.

Яе вершы пераклікаюцца адзін з адным, ствараючы своеасаблівую матрыцу паэтычных сэнсаў, якія сталіся дамінантнымі ў творчасці паэткі. Дарэчы, з такіх "спасылачных радкоў" уважлівы чытач можа нават скласці новы, гіпертэкставы твор. Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя. І гучыць яна прыкладна так:

*…Будзе поўдзень. Яна развяжа*
*Тонкі шалік сваёй вясны*

***("Адкажу за яго");***

*…На галінках, ля яблынь грэшных,*
*Тонкі шалік вясны павіс*

***("На аркуш белы").***

Далей:

*…Цалую так, каб не шаптаў:*
*"Ніколі"…*

***("Спіць на каленях, цёплы, як дзіця");***

*…"Ніколі"… Як яно гучыць?*

***("Ніколі" …Як яно гучыць?");***

*…Са слоў "ніколі" збярэм наш сон…*

***("А мы з табою з адной нядолі").***

Ёсць нават тэматычныя варыяцыі:

*…У шчасце і песні веру. Я з любым…*
*Знoўку гуляю ў любосць.*
*Вусны да вуснаў… Сэрца галубіць,*
*Кружыць мяне маладосць!*

***("У шчасце і песні веру");***

*…Давай з табой да позняй ночы*
*Сваю пацешым маладосць!*
*Душа казённых слоў не хоча —*
*Дык пацалуй жа за любосць!*

***("Рабінка").***

Усе вершы маладой паэткі падпарадкаваны сталым матывам веры, пачуцця кахання і расчаравання, песні кахання, палымянай жарсці і інш., якія можна назваць скразнымі ў яе зборніку "Пад ветразем ранку". Хрэнатоп яе твораў, нягледзячы на яркія пейзажныя замалёўкі і цікавыя фабульныя хады, досыць цьмяны — гэта ўнутраны свет лірычнай гераіні, яе мары і снабачанні ў кантэксце пачуцця. Але музычнасць радка, сінтэтычная паэтыка абяцаюць шмат, нягледзячы на некаторыя моўныя і стылістычныя недакладнасці і недахопы. Напэўна, вобраз яе паэзіі — гэта беларускі жаночы Парыж. Яна жыве ў горадзе вечнага кахання, які напоўнены лірыкай ветрыкоў і вечаровага прыцемку, яна, гэтая вытанчаная паненка, ведае тут усё… нават котак, якія гуляюць самі па сабе. "Ніхто не цалаваў каханку, як паэта", а таму ёй даводзіцца гаварыць пра гэта ўслых, ды яшчэ ў вершах.

Убачанае

# Магчымы Багдановіч

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ



Каб не быць у калонцы галаслоўным — пагавару пра Багдановіча.

Напярэдадні юбілею фігура яго знаходзіцца ў залатым арэоле зразумеласці. Набор эпітэтаў і характарыстык, прыдуманых гадоў 40 таму, і поўная ўпэўненасць у тым, што сёння нешта новае пра яго сказаць немагчыма.

Мяне, шчыра кажучы, падобны стан рэчаў аніяк не задавальняе. Нават і пра Пушкіна пішуць яшчэ манаграфіі. Хоць ён, бясспрэчна, не быў забыты даследчыкамі. Багдановіч тым пахваліцца не можа: добрыя кнігі лёгка палічыць па пальцах, ды шмат у чым састарэлі нават яны.

Але гаворка, зрэшты, не толькі пра інтэрпрэтацыю. Рукапісная спадчына паэта патрабуе дэталёвага вывучэння, а таксама, безумоўна, настойлівых далейшых росшукаў, бо некаторыя "белыя плямы" не былі запоўнены даследчыкамі ў савецкі час.

Адкрыем трэці том Поўнага збору твораў, ліст Багдановіча ў "Нашу Ніву" ад 14.11.19-12, і прачытаем: "У кастрычніку скончыў я пераклад, замоўлены П. Багацкім, і надаслаў у Кіеў. Усяго павінна выйсці каля 125 друкаваных страніц, у тым ліку стр[аніц]15-16 маёй прадмовы. Ёсць там і кароценькі агляд гісторыі беларускага народа і апісанне цяперашняга адраджэння яго і невялічкія характарыстыкі беларускіх пісьменнікаў, — усяго патроху, і ўсё ў стылі "гром победы раздавайся". У каментарыях прачытаем, што "Багацкі П. — рэдактар часопіса "Українська Хата", на гэтым усё. Але калі зазірнуць у новыя энцыклапедыі, даведаемся, што Багацкі не проста П., а Паўло Аляксандравіч, і што пасля таго 1912 года перажыў ён дзве вайны і памёр у эміграцыі ў далёкай Аўстраліі ў 1962 г., дзе і знаходзіцца, відаць, у тамтэйшай грамады ягоны архіў. Бо асобай ён быў прыкметнай, пра яго пісаліся кнігі. Хто ведае, можа захаваў дзядзька Паўло і лісты Багдановіча, а таксама нявыдадзены рукапіс кнігі перакладаў беларускіх пісьменнікаў. Да Багацкага трэба дадаць і Мікіту Шапавала, сурэдактара "Українська Хата", якому таксама мог пісаць Максім Багдановіч. Архіў Шапавала расцярушаны па многіх эміграцыйных сховішчах Амерыкі і Еўропы, але хто ж перашкаджае звярнуцца з афіцыйным запытам?

Ёсць і яшчэ адна сцяжына: гэта фонд заснавальніка бібліяпсіхалогіі Мікалая Рубакіна, які знаходзіцца ў Расійскай Дзяржаўнай бібліятэцы. Яго велізарная бібліятэка і перапіска здзіўляюць дагэтуль. Там дзясяткі тысяч лістоў. Як адзначаюць каментатары багдановічаўскага ПЗТ, Рубакін змясціў у 3-м томе сваёй фундаментальнай працы "Сярод кніг" (1915) біяграфічную нататку Багдановіча. Вось толькі адкуль ён тую біяграфію дастаў, седзячы ў Швейцарыі, у літаральным сэнсе, "сярод кніг"? Цалкам магчыма, што Рубакін звяртаўся да пісьменнікаў асабіста, і таму ў ягоным фондзе магчыма адшукаць ліст Багдановіча з аўтабіяграфіяй. Калі ж не яго самога, то некага з беларусаў — Луцкевіча, Ластоўскага, Эпімаха-Шыпілы. Гэта вельмі складаная работа (фонд Рубакіна надзвычай аб'ёмны), але яна павінна быць выканана.

Калі працягваць гаворку пра эпісталярый нашага класіка, то тут наогул яшчэ цалкам магчлівыя адкрыцці. Праўда, для таго, каб яны здзейсніліся, трэба весці пошукі. Усё ж такі асабістыя дакументы атачэння Багдановіча, а таксама яго рэальных і верагодных адрасатаў, вывучаны не ў поўнай ступені — праз тое, што знаходзяцца яны за межамі Беларусі: фонды Канстанціна Някрасава, Сяргея Шчарбакова, Кацярыны Пешкавай, Мікалая Ашукіна і іншых людзей, якія маглі перапісвацца калі не з паэтам, то з іх роднымі і сябрамі, згадваць яго ў сваіх лістах.

Думаю, што пры пэўных высілках мы яшчэ шмат чаго даведаемся пра Максіма Багдановіча.



Міхась Пазнякоў

## Тут дом мой, радзіма мая

* * *

*Хачу туды, дзе пахне хлебам*
*У хаце светлай і жывой*
*І дзе так хораша пад небам*
*Жыць працай шчырай і святой.*

*Дзе за парогам найгасцінна*
*Сустрэне кожны — чым багат,*
*Дзе гандляваць душой злачынна*
*І дзе пануе чынны лад.*

*Хачу туды, дзе за ракою*
*Шумяць жыты, гудзе авёс,*
*Дзе не згаджаюцца з хлуснёю,*
*Па дабрыні звяраюць лёс.*

*Хачу да той вясковай брамы,*
*Дзе, як і водзіцца здавён,*
*Радзіму славяць, нібы маму,*
*І кожны справамі відзён.*

* * *

*Вакзал адплыў. І за спіной*
*Пакінуў я трывогу,*
*Вязі мяне, аўтобус мой,*
*У дальнюю дарогу.*

*Вязі ад тлуму, мітусні,*
*Ад зайздрасці, падману —*
*Да светлай, гойнай цішыні, —*
*Вяртацца я не стану.*

*Няхай дарога прывядзе*
*Туды, дзе сэрцу міла,*
*Пяшчоты матчынае дзе*
*Скрозь сонечная сіла.*

*Няхай загоіцца душа*
*Зноў марамі былымі,*
*Тым, чым жыла яна спярша*
*Пад зорамі святымі.*

* * *

*Прыеду я дамоў і ахну:*
*Квітнее бэз, так бэзам пахне!*
*Ён белым воблакам чаруе,*
*Пад хатай пеніцца, віруе.*

*Плыве на ганак і на дах.*
*І бэзам двор увесь прапах.*
*І ў хаце водар сакавіты,*
*І сад ім радасна спавіты.*

*Ну што за велічнае дзіва!*
*І я ўсміхаюся шчымліва:*
*Шкада, няма цябе са мной*
*У гэтай казцы незямной.*

* * *

*Як гэта слаўна —*
*Месяц над вярбой,*
*Маўклівы вецер*
*Гойдаецца ў клёнах,*
*Згасае дзень*
*Ружовіста-зялёны,*
*Таемнасці ўступаючы*
*Начной.*

*У цёмных шатах*
*Ліпавых алей,*
*Узнёслы, закаханы,*
*Найшчаслівы,*
*З дзівосным,*
*Непаўторным пералівам*
*Саловачцы*
*Спявае салавей.*

*Запальвае ноч*
*Зоркі пакрысе.*
*Чакаю ў небе*
*Шпаркую камету.*
*Як добра быць*
*Жывой часцінкай свету,*
*Якую сагравае*
*Цэлы свет.*

* * *

*Ходзіць месяц над вёскай пустою,*
*Спеліць дзікія нашы сады,*
*А я з сумна-балючай душою*
*Кожны ліпень спяшаю сюды.*

*Дзесьці плача ў нябёсах мой тата —*
*Аграном, і садоўнік, і ўрач:*
*Вось якая за працу расплата,*
*Вось які тут цяпер раскірдач...*

*Я брыду травяністаю вулкай,*
*Сняць гароды дзірванныя сны.*
*Сэрца б'ецца балюча і гулка*
*Адчуваннем тугі і віны.*

*Не даруе ніколі, вядома,*
*Дарагая матуля-зямля,*
*Што ў гасцях я жыву, а не дома,*
*Што пакінуў яе калісь я.*

*Вось таму я і плачу душою,*
*Прадчуваючы холад бяды,*
*Калі месяц над вёскай пустою*
*Спеліць дзікія нашы сады.*



Фота Кастуся Дробава



Аркадзь Нафрановіч

## Спяваю гімн жыццю

*Ці крочу я ўскрай нівы залатой,*
*Ці росным ранкам луг кашу стракаты,*
*Ці бачу гронкі бэзу, ліпак строй*
*І сад у квецені ля роднай хаты,*
*Ці слухаю спеў мілы салаўя,*
*Ці сілы набіраюся ў дуброве —*
*Заўсёды гімн жыццю спяваю я*
*На мове самай шчырае любові.*

## Аднакашніку

*У пройдзеную далячынь*
*Скіруй аднойчы сваю памяць:*
*Якіх там дасягнуў вышынь*
*І што цябе ў мінулым пляміць?*

*Ля спадчынных, радзімых меж*
*Вяршыш якія сёння справы?*
*Ці той ты мерай аддаеш,*
*Якою чэрпаў у дзяржавы?*

*А можа, свет маленькі свой*
*Стварыў — і абрастаеш тлушчам?*
*Зашыўся ў ім, як дзік у пушчы.*
*Нат да суседа ні нагой.*

*Ды веру, што й цяпер з табой*
*Дух незабыўнай альма-матар.*
*Рака жыцця — плывём па ёй.*
*Нам Бог указвае фарватар,*

*Пакуль, мой аднакашнік, б'е*
*Імкненняў плынь, служы Радзіме.*
*І небам ласкавым абніме*
*Яна, удзячная, цябе.*

## Іграла жанчына

*Іграла жанчына — і шчодра раялю*
*Душа аддавала пачуццяў цяпло.*
*І гукі з-пад пальцаў,*
*як птушкі, узляталі,*
*І неба наўсцяж васількамі цвіло.*

*На тварах знікалі журботнасці цені,*
*Вясёлай пяшчотаю вочы жылі.*
*Святло пранікала ў глухія скляпенні*
*І сіл прыбаўляла знямоглай зямлі.*

*Па клавішах бегалі пальцы без стомы,*
*І плакаў, і пеў ім пакорны раяль.*
*Гамонкай лясоў і раскатамі грому*
*Яму адклікалася чуйная даль.*

## Страта

*Увечар, як кружылі зоркі*
*І падалі у воды рэк,*
*Злачынства здзейсніў хтось на ўзгорку —*
*Бярозку маладую ссек.*

*Нанёс удар пад самы корань,*
*Боль, як агнём, усю апёк.*
*І вецер застагнаў ад гора,*
*Застыў у немаце пянёк.*

*З'ядаў касцёр красуні цельца,*
*І доўга тлелі вугалькі…*
*І лезлі грэцца да цяпельца*
*Бязлітасныя дзве рукі.*

## Баравікі

*Ранак жнівеньскі — дадому*
*Я шыбую нацянькі.*
*І не верыцца самому,*
*Што нясу баравікі.*

*Усміхаюся, бо маю*
*Незвычайны я намер:*
*Хай сустрэнецца б якая*
*Мне дзяўчыначка цяпер.*

*І хоць грыб і мне ласунак,*
*Ды аддаць я ёй гатоў*
*За гарачы пацалунак*
*Паўкошa баравікоў.*



Ганна Дусь

## Музыка сэрца

*Музыка для вас — гэта сумны джаз.*
*Танец не для ўсіх — танга на траіх.*
*Граюць на зямлі дзесьці ў дэкаданс,*
*Паляць ліхтары (толькі б Свет не згас!).*
*А што да мяне? Проста, як заўжды,*
*Там, дзе мы, — і вы; там, дзе я,— і ты.*
*Ўсё паўторыць зноў састалелы твар:*
*Жарты, помсту, боль, ночы без пачвар*
*Раз, і два, і тры — так разоў мо сто.*
*Радуйся, не плач і шукай свята.*
*Паблукай дарма, панадзейся зноў,*
*Быццам бы малы, вер, што ёсць любоў,*
*А ў жыцці заўжды накірунак ёсць.*
*Зноўку ж узгадай праўду, помсту, злосць.*
*Самі збудавалі тое мы — ну, што ж,*
*Можа, так і трэба:*
*Сэрца...*
*Памяць...*
*Лёс...*

* * *

## Д. Ж.

*Праз кола сансары — ў вырай!*
*Шчыра*
*Клянуся*
*Трымаць запаветы.*
*Вер ты:*
*Сёння над Мінскам сонца*
*Бясконца*
*І ўзлёт трапяткі — да Бога!*
*Нічога.*
*Не плач, брат мой птах,*
*Час не змарнуем,*
*Заўтра ўзляцець ізноў*
*Паспрабуем.*
*Там, на вышынях,*
*Не будзе палёгкі.*
*Бывай, мой далёкі.*

## Маналог для флейты

*Першая вольта два такты —*
*Басанож па мокрым асфальце:*
*Па Фарынгейту,*
*Па Цэльсію,*
*Усе вакол закаханыя,*
*А ён чакае дысперсію,*
*А ён блукае да раніцы,*
*А ён не верыць,*
*Што спраўдзіцца,*
*Рысамі кплівымі ласціцца*
*І кажа:*
*"А сонейка лашчыцца".*
*А ён выпраўляецца на ровары,*
*А ён мілагучна маркоціцца.*
*Ды лаецца гэтак жа правільна.*
*Не веру.*
*Калі ж гэта скончыцца?*

* * *

*Уразіла, амаль абразіла —*
*Спужала.*
*Ды сонца аднаго нам,*
*Пэўна, мала.*
*Маўчаць. Глядзяць на нас*
*Прывіды звонку.*
*Я сшытак адгарну уранку.*
*Твая старонка.*

* * *

*Штосьці ляснула,*
*Абарвалася,*
*Грукнула на падлогу.*
*Сэрца*
*Прагне спачыну*
*І падмогі.*
*Вусны*
*Дзесь паплылі, —*
*У неба!*
*У вырай!*
*Ты для мяне*
*Не здолеў стаць*
*Небасхілам...*

* * *

*Заснуць для ўсіх,*
*а для яго прачнуцца*
*І подыхам вясны*
*ўварвацца ў грудзі,*
*І там застацца,*
*сэрцам ахінуцца,*
*Каб не зраклі адтуль ніколі людзі.*

* * *

*Маляваў ты мяне, маляваў —*
*Позірк мой*
*і прыветную постаць,*
*А калі запытала: "Навошта?",*
*Ані слова ў адказ не сказаў.*

*Маляваў ты мяне, маляваў —*
*Неабдумана, палка, імкліва*
*І ўсё ў вочы глядзеў так пужліва —*
*Пэўна, думкі мае прачытаў.*

*Маляваў ты мяне, маляваў...*
*Толькі фарбы дарма сапсаваў.*

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

# Кніжны свет

*29 красавіка 2011 г.*

# «Мастакі Беларусі», «Залатая калекцыя» і іншыя планы

**Здавалася, гэта было так нядаўна! Мы, студэнткі філалагічнага факультэта БДУ, адстаялі ў чарзе на мастацкую выстаўку, якая чамусьці праходзіла не ў Палацы мастацтва ці ў якім-небудзь з музеяў, а ў навукова-даследчым інстытуце. Ураджаны — такога яшчэ не бачылі, запомнілі імёны: Валерый Славук, Мікалай Селяшчук, Уладзімір Савіч. І калі на вочы трапляла інфармацыя пра гэтых мастакоў, пільна яе адсочвалі.**
**Яркая каляровая кніга пра Мікалая Селешчука "Гучанне музыкі нябёсаў: успаміны, эсэ, дзённікі" нагадала мне той час. Ілюстраваная яго творамі, насычаная ўспамінамі яго сяброў. Прыгадвалася і тая выстаўка, першая ластаўка маштабнага прыходу твораў маладых тады мастакоў да гледача.**
**Кніга з'явілася ў серыі "Мастакі Беларусі", распачатай выдавецтвам "Мастацкая літаратура". Пра навінкі гэтай і іншых серый расказвае галоўны рэдактар выдавецтва Віктар Шніп.**

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,**
**фота Кастуся Дробава**



**— Віктар Анатольевіч, з якога года існуе ў выдавецтве серыя "Мастакі Беларусі"? Хто быў ініцыятарам яе стварэння?**

— У 2004 годзе ў нашым выдавецтве ўбачыла свет кніжка, прысвечаная жыццю Уладзіміра Мулявіна. Яна стала першай ластаўкай, што падказала кіраўніцтву выдавецтва стварыць серыю "ЖЗЛБ" — "Жыццё знакамітых людзей Беларусі". Здавалася, у яе рамках можна аб'яднаць усіх — навукоўцаў, пісьменнікаў, мастакоў... Дырэктар выдавецтва Уладзіслаў Мачульскі, галоўны рэдактар Віктар Праўдзін і я, тады намеснік галоўнага рэдактара, думалі над аздабленнем нашай прадукцыі, каб кнігі не былі створаны па адным шаблоне. І вырашылі, што выданні пра мастакоў усё ж такі павінны нечым адрознівацца. Так з'явіліся серыі "Беларусь мастацкая" і "Мастакі Беларусі". Ідэя дала штуршок нараджэнню серыі "Беларусь музычная".

Серыя "Мастакі Беларусі" заснавана ў 2005 годзе. З задавальненнем прадстаўляем ёю нашу краіну — няхай за мяжой ведаюць, што Беларусь славіцца не толькі бульбай. На конкурсах "Мастацтва кнігі" ўсе выданні гэтай серыі бралі вышэйшыя ўзнагароды.

**— Якія мастакі ў ёй уганараваны?**

— Першая з кніжак серыі прысвечана жыццю і творчасці Віктара Альшэўскага — "Ураджанне раўнавагі, або Лесвіца ўверх". Своеасаблівае выданне — яго аўтарам стаў сам мастак. Потым была кніжка пра Мікалая Селешчука, укладальнікам якой з'яўляецца Наталля Шаранговіч. Мікалай Селяшчук не дажыў і да пяцідзесяці. Ён шмат чаго не паспеў: не дачакаўся персанальнай выстаўкі, не выдаў свой каталог. Але ён зрабіў галоўнае: пакінуў пасля сябе геніяльныя творы… Выйшлі ў серыі і яшчэ дзве кніжкі — Барыса Крэпака пра Уладзіміра Тоўсціка "Ладдзя часу" і Наталлі Шаранговіч пра Гаўрылу Вашчанку "Народжаны Палессем". Кніжка пра Леаніда Шчамялёва выйшла ў серыі "ЖЗЛБ", там рэпрадукцыі работ размясціліся на ўклейках. Леаніда Дзмітрыевіча задаволіў такі варыянт. Серыя "Мастакі Беларусі" дазваляе больш падрабязна спыніцца на выявах мастацкіх твораў. Калі абмяркоўвалі кніжку пра Гаўрылу Вашчанку, сын мастака Кастусь Вашчанка выбраў менавіта гэту серыю. Фармат яе дазваляе змясціць не толькі больш работ, але і архіўных фотаздымкаў.

**— Беларусь багатая на мастацкія таленты. Што перашкаджае з'яўленню кніг пра іншых мастакоў?**

— Згодны, у нашай краіне шмат вядомых мастакоў, якія маюць аўтарытэт сярод калег. Пра кожнага з іх варта выдаць кнігу. Да нас звярталіся і звяртаюцца многія мастакі, якія не супраць стаць героямі серыі. Але выдавецтва не піша кніжак, яно іх выдае. Праблема ў аўтарах. Напісаць толькі, што мастак таленавіты і добры чалавек, — гэтага мала. Кніга павінна мець пэўны аб'ём. Ці, бывае, іншым часам аўтар напіша кнігу, а мастаку не падабаецца партрэт, які атрымаўся...

Ёсць рукапіс кнігі Уладзіміра Савіча, цудоўнага мастака, якую таксама мы прапанавалі дапоўніць па аб'ёме. Рыхтуецца да выдання кніга пра Арлена Кашкурэвіча. Дачка Паўла Масленікава напісала пра бацьку кнігу "Партрэт мастака ў люстэрку часу".

**— Якія выданні яшчэ чакаць чытачу ў гэтым годзе?**

— Папоўніцца серыя "Жыццё знакамітых людзей Беларусі". Пабагацее і збор твораў Івана Шамякіна. Працягнецца і выданне дзіцячай літаратуры: хутка палічкі кнігарань упрыгожаць кнігі пра Якуба Коласа (яе напісаў Мікола Маляўка) і пра Максіма Багдановіча, напісаная Алесем Марціновічам.

**— Раскажыце, якія яшчэ крокі робіцца ў напрамку папулярызацыі беларускай літаратуры.**

— У адпаведнасці з планам мерапрыемстваў па папулярызацыі і пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў жыцці грамадства наша выдавецтва разам з Саюзам пісьменнікаў Беларусі, Інстытутам мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Міністэрствам культуры, Міністэрствам адукацыі і Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі распрацавала канцэпцыю праекта па выданні анталогіі "Залатая калекцыя беларускай літаратуры" ў 50 тамах.

У 2011 годзе, юбілейным для класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча, плануецца выдаць 5 першых тамоў. Распачнецца серыя тамамі "Літаратура XI—XVI стагоддзяў" і "Літаратура XII — XVIII стагоддзяў". У трэці том "Літаратура першай паловы XIX стагоддзя" ўвойдуць знакамітыя творы Францішка Карпінскага, Юльяна Урсына Нямцэвіча, Ігната Ходзькі, Яна Чачота, Адама Міцкевіча, Аляксандра Рыпінскага, Габрыэлі Пузыні, Яна Баршчэўскага і, канечне ж, "Энеіда навыварат" Канстанціна Вераніцына. Чацвёрты том "Літаратура другой паловы XIX стагоддзя: паэзія. Драматургія" пазнаёміць чытачоў з творчасцю Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Уладзіслава Сыракомлі, Адама Плуга, Вінцэся Каратынскага, Францішка Багушэвіча, Янкі Лучыны, Адама Гурыновіча. Знойдуць аматары літаратуры на яго старонках і ананімныя творы "Тарас на Парнасе", "Гутарка двух суседзяў" і інш. Пяты том прапануе вашай увазе такія імёны, як Максім Багдановіч, Сяргей Палуян, Цётка, Лявон Гмырак, Алесь Гарун.



# Інструментарый для аналізу тэксту

**Вольга НОРЫНА**

Як зрабіць урок максімальна эфектыўным? Пры ўмове, што творчасць выкладаемага аўтара павінна быць глыбока прааналізавана, а ў школьнай сетцы дадатковых гадзін на вывучэнне прадмета "Беларуская літаратура" не прадугледжана. Такую няпростую задачу вырашае педагог і асветнік Марыя Верціхоўская, вучэбна-метадычны дапаможнік якой "Урокі літаратуры ў старшых класах" у пачатку 2011 года ўбачыў свет у выдавецтве "Адукацыя і выхаванне". (Адна з метадычных распрацовак Марыі Іванаўны — урок па аповесці Васіля Быкава "Сотнікаў" — прызнана ў 2008 годзе лепшай на рэспубліканскім конкурсе ў намінацыі "Урок па гуманітарным прадмеце". Марыя Верціхоўская — пастаянны аўтар нашага выдання.) Сістэма ўрокаў розных відаў і жанраў па творах, прадугледжаных праграмай па беларускай літаратуры для сярэдняй школы, прапануецца на старонках гэтага выдання. У слове да чытача Марыя Іванаўна піша: "...Аўтар меў звышзадачу — аналітыка-метадычную распрацоўку ўрокаў зрабіць *метадалагічнай*". Узяўшы на ўзбраенне шляхі, прыёмы і метады аналізу, якімі паспяхова карыстаецца аўтар, чытач зможа кіравацца імі пры разглядзе іншых мастацкіх тэкстаў.

М. Верціхоўская працягвае традыцыю выкладання літаратуры не толькі як перадачы пэўнай сумы ведаў, але і выхавання высокамаральнай асобы на лепшых творах беларускай літаратуры. Гэту спробу паспеў высока ацаніць Янка Сіпакоў, якому Марыя Іванаўна падарыла адзін з першых экзэмпляраў сваёй кнігі. Думаецца, годна ацэняць сістэму ўрокаў роднай літаратуры і настаўнікі, і вучні, і ўсе небыякавыя да роднага слова.

## *У падтрымку чытання*



### Акцёр Багдан Ступка:

# «Знаёмства з літаратурай пачалося ў оперы»

**Вольга ПАЛОМЦАВА,**
**фота Віктара Зайкоўскага**

— Маё знаёмства з класікай пачалося з оперы. Тата спяваў у хоры опернага тэатра, старэйшы мамін брат быў салістам, цётка — канцэртмайстрам. Маленства прайшло за кулісамі опернага тэатра, рэпертуар якога я вывучыў на памяць. Слухаў геніяльныя творы Пушкіна ў выкананні Казлова, Лемешава... Таму вельмі люблю класічную літаратуру. Чытаў шмат. Але, разумееце, абавязкі мастацкага кіраўніка Украінскага нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Івана Франко не дазваляюць многа часу прысвяціць чытанню. І ўсё ж стараюся не пакідаць па-за ўвагай сучасную ўкраінскую літаратуру. На літаратурным небасхіле з'явілася новыя цікавыя імёны. Паколькі многа даводзіцца ездзіць, стараюся браць з сабою кнігі і чытаю ў цягніку, у гатэлі — кожную вольную хвіліну.

*Scripta manent*

# Памятаем пра мінулае, рухаючыся ў будучыню

Алеся ЛАПІЦКАЯ

**Рубрыка “Scripta manent” прысвечана найкаштоўным кнігам Беларусі, якія па прыхамаці гісторыі захоўваюцца па-за межамі нашай краіны, але ў бліжэйшы час вернуцца на Радзіму ў выглядзе факсімільных копій — не толькі пры дзяржаўнай падтрымцы, але і пры падтрымцы сучаснай бізнес-эліты. Каб сцвердзіць такую магчымасць, мы вырашылі для пачатку звярнуцца не да саміх помнікаў, а да аднаго з ужо рэалізаваных праектаў па папулярызацыі нацыянальнай кніжнай спадчыны — серыі карпаратыўных календароў на 2011 год, выдадзеных ААТ “Белінвестбанк” у супрацоўніцтве з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі.**

Вартасць беларускай культуры можна доўга вывучаць, тлумачыць і ўслаўляць. А можна проста сцвярджаць праз якасныя культурніцкія праекты. Прыемна, што такое памкненне ёсць не толькі ў творчым асяроддзі, але і ў прадстаўнікоў бізнес-структур. Так, карпаратыўныя календары “Белінвестбанка” ўражваюць дамінаваннем беларускай мовы, густоўным дызайнам і адмысловай канцэпцыяй. Галоўнае ж тое, што тэма календароў — беларускія старадрукі, а галоўная ідэя, або слоган, серы — “Памятаем пра мінулае, рухаючыся ў будучыню”.

Здаецца, ці варта засяроджваць увагу на нейкіх карпаратыўных календарах? Безумоўна! Па-першае, адметны сам факт звароту прадстаўнікоў бізнес-эліты да духоўных скарбаў Беларусі, а па-другое, праект атрымаўся сапраўды сутнасным, цікавым — як спроба годна прэзентаваць не толькі дзейнасць банка, але і беларускую культуру.

— Апошнім часам пры стварэнні іміджавых праектаў мы звярталіся да тэмы “Гісторыя вялікай дзяржавы”: беларускія археалагічныя і архітэктурныя помнікі, мастакі Беларусі. У гэтым годзе мы вырашылі прадставіць у межах гэтай тэмы тое, чаго я ніколі раней не бачыў ні ў адной арганізацыі Рэспублікі Беларусь, — распавядае Уладзімір Тамашэвіч, намеснік старшыні праўлення “Белінвестбанка”. — З’явілася ідэя звярнуцца да беларускіх старадрукаў, таму праект быў рэалізаваны сумесна з Нацыянальнай бібліятэкай. Кніжныя скарбы бібліятэкі — гэта, нашымі словамі, вялікі рэсурс ведаў, гістарычнага вопыту, духоўных сіл. У звычайным жыцці большасць нашых суайчыннікаў не ўяўляе, што гэта ёсць, не ведае, з якімі кнігамі жылі нашыя продкі, чым кіраваліся. І гэта неабходна выяўляць, прынамсі, часткова, у папулярнай форме. Я быў перакананы, што ў бібліятэцы можна знайсці цікавыя, знакавыя выданні, пра якія варта нагадаць людзям — і вось атрымалася серыя календароў, прыгожых, зручных для віншавання калег і партнёраў і адначасна



прынадных для таго, каб паглыбіцца ў гістарычную тэматыку.

Канцэпцыя календара склалася падчас абмеркавання праекта прадстаўнікамі банка і супрацоўнікамі Нацыянальнай бібліятэкі — дырэктарам Раманам Матульскім і вучоным сакратаром Алесем Сушам. Каляндар мае квартальную тэматыку: першадрукары Беларусі, адукацыя, заканадаўства і верацярпімасць, кожную тэму прэзентуюць тры выданні, з якіх узяты цікавая цытата і фрагмент гравюры. Прадстаўлены таксама агульны выгляд кнігі, яе выходныя даныя, змешчаны ў календары і разварот кнігі, які дае магчымасць уявіць асаблівасці афармлення выдання, ацаніць яго мастацкія якасці. З адабранымі старадрукамі працавала дызайн-студыя “Collection”: былі выкананы прафесійныя фотаздымкі “жывых” кніг, зроблена кампазіцыйная пабудова, прадумана каляровае афармленне. Прычым кожны з чатырох календароў серыі — ад кішэннага фармату да суперпамеру 45х70 см — мае свае асаблівасці. “Не залішне ярка і страката, каб адпавядала прадстаўленаму матэрыялу”, — канстатаваў Уладзімір Баляслававіч.

Каляндар стварае ўражанне значнай тэматычнай разнастайнасці беларускай стараддрукаванай кнігі XVI — XVIII стст.: тут можна разгледзець не толькі пажоўклыя старонкі “Статута Вялікага Княства Літоўскага” 1588 г., але і табліцу раслін з “Батанікі для нацыянальных школ” (1787 г.), адкуль узяты сімпатычны малюнак суніцы.

“Некаторыя людзі, якія маюць гэты каляндар, давалі яго на вывучэнне сваім дзецям, — кажа Уладзімір Тамашэвіч. — Я не чуў ніводнага скептычнага водгуку ад людзей, якія з павагай ставяцца да такіх каштоўнасцей, як кніга, думка, мастацтва. Кіраўнікі і супрацоўнікі сур’ёзных камерцыйных структур, якія даўно і стабільна працуюць у рэспубліцы, цікавяцца мінулым нашай краіны і не маюць да яго антаганізму. Серыя нашых календароў — прыклад выдатнага спалучэння іміджавых інтарэсаў банка і бібліятэкі, збалансаванасці інтэлектуальных і фінансавых інтарэсаў, працоўных рэсурсаў”.

# Творцу трэба абараняць

Віктар ХУРСІК, выдавец

**Пытанне, ці крадуць у нас, рытарычнае. Канечне! Інакш не каралі б... Што да інтэлектуальнай уласнасці, то тут узнікае пэўная замінка: за гэта не караюць — значыць, ніхто гэту ўласнасць не крадзе. Між тым такое меркаванне далёкае ад ісціны. Больш таго, творца безабаронны перад нахабствам.**

У маім выдавецтве выйшла кніжка Івана Данілава “Запіскі заходняга беларуса”. Наклад быў невялікі, ды і дамова з аўтарам была чыста джэнтльменская. Якое ж было наша з ім агульнае здзіўленне, калі мы ўбачылі праз некаторы час, што кнігай паспяхова гандлююць у Злучаных Штатах! Прычым невядома з якой прычыны выдаўцом яе пазначана зусім іншае беларускае выдавецтва.

Наконт гэтага выпадку знаёмая, доктар юрыдычных навук у галіне аўтарскага права, не параіла мне судзіцца: шмат затрат часу і сродкаў. Тым больш што ў нас у Беларусі з абаронай інтэлектуальных правоў таксама не ўсё ладна: крадзём у замежнікаў і ў саміх сябе. Літаральна праз некалькі дзён (відаць, лёс) пераканаўся ў гэтым на ўласным прыкладзе. У адной з крам у цэнтры Мінска ішоў бойкі гандаль падробнымі экземплярамі кнігі Сяргея Пясецкага “Каханак Вялікай Мядзведзіцы”, якую я выдаў па польскай ліцэнзіі. Зноў зварот да юрыста — і зноў скептычны адказ: “Ну што ты дакажаш у судзе, што крама прадала 5-10 асобнікаў тваёй кніжкі? Вось і ўсе твае аргументы, вось і ўсё, што табе вернуць. Звяртацца ж з доказамі трэба ў Калегію па справах інтэлектуальнай уласнасці Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь, а гэта зноў жа значныя траты часу і сродкаў”.

Я так і не зразумеў, чаму відавочны крадзёж нельга спыніць у раённым судзе. У маёй справе і адбіткаў пальцаў не трэба здымаць, і сведкаў нават не трэба, каб злодзея вызначыць, усё праходзіць па дакументах.

Днямі зайшоў у сталічную кнігарню і здзівіўся: на паліцах стаяла выданне пра Чырвоны касцёл у Мінску. Я добра ведаў кнігу знакамітага даследчыка гісторыі нашай сталіцы Уладзіміра Дзянісава “Касцёл Сьв. Сымона і Сьв. Алены”, якая была напісаная ім і выдадзеная ў Мінску ў 1996 годзе. І вось раптам другі твор на тую ж тэму — “Касцёл у нашым жыцці” з серыі “Невядомая гісторыя”. Набыў я гэту кніжку, пагартаў і здзівіўся. “Выпадковых” супадзенняў з даследаваннем Дзянісава аказалася даволі шмат. У кнізе Дзянісава факты адносна будаўніцтва Чырвонага касцёла ў Мінску згадваюцца ўпершыню, яны апублікаваныя на падставе архіўных крыніц, на якія даюцца спасылкі. Якімі ж крыніцамі карыстаўся другі аўтар — не пазначана. А дасведчаны чытач можа нават заўважыць і некаторыя недакладнасці.

Адзначу, што гэта далёка не адзінкавы прыклад таго, як крадуць цяпер аўтарскія правы. Стала папулярным выдаваць кніжныя зборнікі і цэлыя серыі, у якіх плагіят лічыцца за норму, а ўладальнікаў правоў “ставяць на месца” размовамі пра патрыятызм і неабходнасць захоўваць і развіваць культурную спадчыну. Аўтарам — ні капейкі, яшчэ і грошы здзяруць за публікацыю, хаця прыбытак ад выдання пакладуць сабе ў кішэню.

У многіх краінах плагіят цягне за сабой не толькі эканамічную, але і крымінальную адказнасць. У нас такіх прыкладаў я не чуў. Мажліва, для нашай краіны такая суровая мера і не патрэбна, але тое, што інстанцыя разгляду спрэчак па інтэлектуальнай уласнасці павінна быць набліжана да творцаў — відавочна. У абароне аўтарскіх правоў неабходна ўлічваць і развіццё Інтэрнэта. І, канечне ж, развіваць міжнародныя сувязі ў гэтай галіне. Бязрадасна, калі чуеш, што крадуць беларусы, але не менш прыкра ад таго, што інтэлектуальная ўласнасць нашых творцаў незаконна эксплуатуецца ў Расіі, ЗША і іншых краінах. Наш творца павінен быць надзейна абаронены дзяржавай. Працэдура судовага праследавання піратаў, дзе б яны ні знаходзіліся, павінна быць гранічна яснай і даступнай кожнаму.

*Азбука Морзэ*

Даніла АРЦІМОВІЧ

● Лепшым выданнем класічнай мастацкай літаратуры мінулага года прызнана двухтомнае каменціраванае выданне Антона Чэхава “Востраў Сахалін”. Узнагароду ў гэтай намінацыі выдавецтву “Рубеж” з Уладзівастока ўручыла Асацыяцыя кнігавыдаўцоў Расіі на закрыцці конкурсу “Лепшыя кнігі года” ў рамках шостай спецыялізаванай выставы-кірмашу “Санкт-Пецярбургскі міжнародны кніжны салон-2011”. Аўтар каментарыяў, прафесар Сахалінскага дзяржаўнага ўніверсітэта Міхаіл Высокаў, сказаў, што ідэя дапоўніць чэхаўскі аповед разгорнутымі каментарыямі паўстала ў яго, калі ён зразумеў, што яму, як і шматлікім чытачам, ужо не зразумелыя асобныя моманты ў кнізе. Двухтомнік — твор Чэхава і каментарый да яго — быў падрыхтаваны і выпушчаны па замове ўрада Сахалінскай вобласці да 150-годдзя з дня нараджэння пісьменніка.

— Найбуйнейшая ў Лацінскай Амерыцы Міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш адкрылася ў сталіцы Аргенціны. Кніжны кірмаш праходзіць пад лозунгам “Горад, адчынены свету кніг” у Буэнас-Айрэсе, абвешчаным ЮНЕСКА сусветнай сталіцай кнігі ў 2011 годзе. На ім прадстаўлены больш як паўтары тысячы найбуйнейшых выдавецтваў з 42 краін, у тым ліку з Азербайджана, Арменіі і Украіны. У цырымоніі адкрыцця прынялі ўдзел вядомыя пісьменнікі, прадстаўнікі федэральнага ўрада і мэрыі Буэнас-Айрэса, дыпламаты і простыя наведвальнікі. У рамках мерапрыемства з 29 красавіка па 3 мая адбудзецца шосты міжнародны фэст паэзіі. Выстаўка будзе адчыненая да 9 мая. Чакаецца, што яе наведаюць каля 1,2 мільёна чалавек.

● На мінулым тыдні эксперты аб’явілі лонг-ліст нацыянальнай літаратурнай прэміі Расіі “Вялікая кніга”, куды ўвайшло 39 намінантаў. “Доўгі спіс” абвясціў на прэс-канферэнцыі старшыня рады экспертаў Міхаіл Бутаў. Паводле яго меркавання, новы прэміяльны сезон характэрны некалькімі асаблівасцямі: “Зьмяняецца поле пісьменнікаў. У “Доўгі спіс” увайшло досыць шмат маладых аўтараў, якія раней былі, скажам так, за межамі ўвагі буйных літаратурных інстытуцый. Цяпер жа яны, відавочна, змяняюць свой статут”. “Кароткі спіс” прэміі, у які ўвойдзе ад васьмі да пятнаццаці твораў, стане вядомы 25 мая. Імёны трох лаўрэатаў Літаратурная акадэмія назаве ў лістападзе.

— Генеральны дырэктар ЮНЕСКА Ірына Бокава павіншавала ўсіх жыхароў Зямлі з Сусветным днём кнігі і аўтарскага права, які адзначаецца 23 красавіка. У сваім пасланні яна адзначыла, што “кніга — гэта адзін са слупоў вольнага і адкрытага грамадства. Мы павінны абараняць кнігу. Мы павінны данесці гэтае багацце да 800 мільёнаў дарослых, якія дагэтуль не ўмеюць чытаць. Мы павінны вывучыць усе аспекты пераўтварэнняў, праз якія сёння праходзіць кніга. Гэта наш абавязак, які аб’ядноўвае нас у гэты дзень”.

● Федэральная служба дзяржаўнай статыстыкі Расіі агучыла дадзеныя дынамікі аб’ёму кніжнай прадукцыі па выніках трох месяцаў года. Як паведамляе Дзяржстат, паліграфічныя прадпрыемствы ў студзені-сакавіку надрукавалі 1,2 мільярда друкаваных лістоў-адбіткаў кніжнай прадукцыі, што на 1,1 працэнта менш у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. Прычым у першым квартале 2010 года кнігавытворчасць утрымалася на ўзроўні пачатку 2009 года, калі ўжо былі дасягнутыя “крызісныя” паказчыкі (-40 працэнтаў выпуску). Адпаведна, аб’ём вытворчасці кніг сёлета пакуль працягвае заставацца вельмі нізкім. У суседніх індустрыях назіраецца куды большае ажыўленне: вытворчасць газет па выніках студзеня-сакавіка вырасла на 9,6 працэнта ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года, а часопісаў — на 21,6 працэнта.

# Исключительно в ваших интересах

Денис МАРТИНОВИЧ,
Ольга ПОЛОМЦЕВА

**“А вот мы в своё время…” Как удержаться от этой фразы, после которой читать подрастающему поколению уж точно не захочется? И как заинтересовать его в постоянном общении с хорошей книгой? Только одним старым проверенным способом — превратить любимые со своего приснопамятного детства книги в “запретный плод”. Вариантов множество. Например, читать тайком и однажды “забыть” на виду. Сказать что-то вроде: “Это тебе ещё рано, иначе ты станешь умнее меня (в области, допустим, косметики) и замучаешь меня своими советами, как надо делать макияж правильно и что с чем носить”. Сговориться с другими родителями и принести якобы отобранное на пару дней у них. В общем, для приобщения детей к чтению все средства хороши — ведь читающее дитя где оставил с книгой, там и найдёшь. А о книгах для подобных экспериментов пойдёт речь в сегодняшнем выпуске, посвящённом литературе издательства “Харвест”.**



## Сказка — ложь, да в ней намёк

Кому из нас не читали в детстве сказок? Кто не стремился скорее научиться читать, чтобы поскорее узнать, чем же закончится так взволновавшая история? Но проходит время, и сказки уступают место приключенческим романам, классике, у кого-то — детективу и возвращаются на книжные полки только тогда, когда у вас самих появляются дети. Но при этом в сознании многих людей сказки так и не избавились от ярлыка развлекательного и не слишком глубокого “чтива” для детей.

**“Большая книга русских сказок”**, которую мы предлагаем вашему вниманию, казалось бы, содержит всем известные сюжеты и мотивы. Это сказки “Золотой колокольчик”, “Лиса и журавль”, “Мужик, медведь и лиса”, “Серебряное копытце”, “Серая шейка”, “Хитрый журавль” и многие другие. И хотя в них присутствуют также люди, главные действующие персонажи — звери. Между тем, сказки о животных являются одним из самых древних видов сказочного эпоса. Как писал исследователь К. Кабашников, “они прошли длинный путь от охотничьих рассказов наших предков, где трудовой опыт и точные наблюдения за природой и животным миром соединялись с анимизмом и тотемизмом, до сатирических произведений, в которых в аллегорической форме отражены конфликты общества”. Типичные персонажи таких сказок — лиса, волк, медведь, заяц, собака, конь, петух и др. — наделены чертами, которые воплощали существующие в народе образные представления об этих животных. Согласитесь, лиса практически всегда будет в сказках хитрой, волк — глупым, медведь — неповоротливым, ленивым, но добрым. Хотите узнать, как лиса превратилась в зверя Остромысла и начала править всем лесом? “Большая книга русских сказок” поведает и эту историю.

## Бестселлеры для “переходного возраста”

Не секрет, что в детстве основная масса школьников читает достаточно много книг. И дело, наверное, не только в авторах изданий для детей: события в сказках близки и понятны маленьким читателям. Но вот наступает “переходный возраст” и начинаются проблемы. Детские книги уже не интересны, взрослые — еще не понятны. В результате потенциальные читатели находят себе вместо чтения другие интересы. А если и возвращаются к книге, то только через массовую литературу. Возник-



ший вакуум с лёгкостью может заполнить сборник **«Повести нашего детства»**, составленный Р. Данковой. В книгу включены повести, на которых выросло не одно поколение читателей. Эти произведения составляют золотой фонд детской литературы. Они ещё раз напомнят о таких понятиях, как дружба, честь, самостоятельность. О каких же повестях идёт речь?

Прежде всего, это сказочное произведение Евгения Шварца “Сказка о потерянном времени”. Однажды очень старые и очень злые волшебники решили помолодеть. Но поскольку в далёком прошлом ещё не было салонов красоты, а эликсир молодости с незапамятных времен находился в категории дефицитных товаров, чародеи решили похитить время у невнимательных и ленивых детей. Как вернуть молодость? Е. Шварц предлагает свой рецепт…

Не меньшей известностью пользуется повесть Аркадия Гайдара “Тимур и его команда”. Вся творческая биография автора вместилась в промежуток между двумя войнами: Гражданской, во время которой 14-летний юноша уже командовал ротой, и Великой Отечественной, с которой Гайдар, военный корреспондент, не вернулся. А между ними были тяжелые 1920 — 30-е годы и много написанных книг. Но настоящую популярность автору принесла именно повесть “Тимур и его команда”. История о хорошем мальчике, который помогал семьям красноармейцев, так понравилась читателям, что дала название целому общественному движению — “тимуровцы”.

А ещё читатель найдёт в “Повестях нашего детства” детективную повесть Юрия Коваля “Приключения Васи Куролесова” и два произведения о любви: “Непохожие близнецы. Повесть о самой первой любви” Валерия Медведева, а также “Дикая собака Динго, или Повесть о первой любви” Рувима Фраермана. В книгу включены и занимательные биографические статьи о каждом из писателей, знакомство с которыми, несомненно, расширит кругозор школьников.

## Хочу быть феей!

Жила-была в Гардении девочка Каролина. С отцом, который был слишком занят тем, чтобы каждый день находить способ сводить концы с концами, и сестрой, что едва её переносила. Случалось в жизни Каролины красть яблоки с лотков и обижать других детей. И сочинять стихи про миры магии, где обитают единороги и, конечно же, феи, одна из которых, воспользовавшись Порталом Измерения, заставляет Каролину стащить



волшебный дневник. Стоит только записать в него желание — и ты уже там, где мечтал оказаться. В Магическом Измерении, правда, своя раскладка сил: злобные ведьмы воюют против фей и не прочь использовать вновь прибывшую девочку в своих интересах. Битвы и приключения, хитрость и смекалка, дружба и магия… Книгу **Риджины Будзи “Winx на льду. Великое приключение”** с удовольствием прочитают не только девочки, но и мальчики — при условии, что вы обернёте какой-нибудь нейтрального цвета бумагой яркую сиренево-розово-голубую (в любимых девчачьих тонах) обложку.

## Вместе с дочкой

Ни одна из девочек на свете не откажется от такого подарка, как книга **“Всё о стиле для супер-девочек”**. Потому что, даже если остальные этого ещё не заметили, она эта самая “супер” и есть. Советы по косметике и ма-



кияжу, глава о выборе причёсок и составлении гардероба на все случаи жизни, подбор аксессуаров для читательниц старшего и среднего школьного возраста особенно притягательны. Познакомившись с книгой, ваша дочь соблюдёт меру, накладывая макияж. А значит, на приведение её в божеский вид нервы тратить не придётся. Вероятно, эмоции будут по другому поводу: когда юное создание с назидательным видом выдаст что-нибудь эдакое — “ансамбль из бархатных тайсов с обтягивающим топом вполне сгодится и для твоего возраста” или долго будет объяснять, отсутствие какой именно из пяти разновидностей моделей джинсов не даёт ей быть настоящей “супер”.

# Сначала всегда характер

Ольга ПАВЛЮЧЕНКО



Книга Глеба Скороходова “Разговоры с Раневской” вышла в 2011 году, она охватывает пять лет, в течение которых автор делал заметки под впечатлением от встреч с яркой и незаурядной личностью актрисы.

Отнести ли Фаину Раневскую к везунчикам — вопрос спорный. Она не удостоилась запоминающейся главной роли. Зато в памяти миллионов кинозрителей нескольких поколений её роли второго плана гарантировали актрисе вечную славу: Мачеха в “Золушке” и фрау Вурст из фильма “У них есть Родина” (за эту роль удостоена Государственной премии СССР). Придуманная ей фраза “Муля, не нервируй меня!” из фильма “Подкидыш” стала визитной карточкой Раневской, которая завоевала известность и отняла большую роль. Эйзенштейн мечтал снять Раневскую в фильме “Иван Грозный”. Тогдашний министр кино Большаков наотрез отказал: “Муля играть Старицкую не может!”

Фаина Раневская (Фельдман) родилась 27 августа 1895 года в Таганроге в семье небогатого нефтепромышленника, мещанина местечка Смиловичи Игуменского уезда Минской губернии Гирша Фельдмана и лепельской мещанки Витебской губернии Милки Заговаловой. На её счету множество театральных ролей и слава женщины, которая за словом в карман не лезет: “Старая харя не стала моей трагедией. В 22 года я уже гримировалась старухой, привыкла, полюбила старух. Правда, когда мне уже перевалило за шестьдесят и доктор, пользовавший меня, заметил: “У вас кости как у девушки!”, я не удержалась: “Меняю кости на морду!” Она могла запросто выдать такое: “Если женщина друг человека, то собака — тоже. И прежде всего”. Глебу Скороходову, киножурналисту, лауреату премии “Тэфи”, посчастливилось много общаться с Фаиной Георгиевной. В книге, посвящённой талантливой актрисе, не только беседы с журналистом, но и страницы её писем и дневников.

Писать о великих людях — дело неблагодарное. В зеркале скороходовского восприятия Фаина Раневская себе не понравилась. Рукопись его книги она не одобрила и даже требовала привлечь автора к суду за клевету... Об этом он тоже поведал читателю.

Працяг. Пачатак у № 4, 6 — 16.

# Сведения о субъектах хозяйствования, имеющих специальное разрешение (лицензию) на осуществление издательской деятельности, по состоянию на 1 января 2011 года

* 1—официальная литература, 2—научная, 3—научно-популярная, 4—производственно-практическая, 6—учебная, 7—массово-политическая, 8—справочная, 9—для досуга, 10—литературно-художественная, 12—духовно-просветительная.

| Наименование лицензиата | Местонахождение лицензиата (юридический адрес) | Учётный номер плательщика (УНП) | Сведения о лицензии (№ бланка лицензии, дата и № приказа о выдаче) | Составляющие издательской деятельности: по тематическим направлениям | Срок действия лицензии |
|---|---|---|---|---|---|
| «Аверсэв», ОДО | 220123, Минск, ул. М.Богдановича, 129-А, к. 33 | 100599817 | 0494066, выд. 02.03.2004 № 60, прод. 03.02.2009 № 12 | 2, 3, 4, 6, 8, 9 | 01.03.2014 |
| «Издательство «Альтернатива», ПТЧУП | 224013, Брест, пр. Машерова, 75/1 к. 312 | 290334782 | 0494051, выд. 02.03.2004 № 60, прод. 03.02.2009 № 12 | 2, 3, 4, 8, 9, 10 | 01.03.2014 |
| «Людвик», ИЧУП | 220012, Минск, ул. Толбухина, 3-410 | 100173747 | 0133320, выд. 02.03.2004 № 60, ан. 08.04.2009 № 39 | 3, 4, 8, 9, 10 | |
| «Бестпринт», ПЧУП | 220026, г. Минск, ул. Филатова, 9-1 | 100263406 | 0494307 выд. 02.03 2004№ 60, прод. 04.03.2009 № 3.3 | 2, 3, 4, 8, 9 | 01.03.2014 |
| «Инфофорум», ООО | 220007, Минск, ул. Володько, 20 к. 29 | 190330076 | 0056812, выд. 02.03.2004 № 60, ан. 08.04.2009 № 39 | 8 | |
| «Белорусский торгово-экономический университет потребительской кооперации», УО | 246029, Гомель, пр. Октября, 50 | 400079828 | 0494302, выд. 02.03.2004 № 60, прод. 04.03.2009 № 3.3 | 2, 3, 4, 6, 8 | 01.03.2014 |
| «ТетраСистемс», НТООО | 220014, Минск, ул. Железнодорожная, 9 | 101035494 | 0494056, выд. 02.03.2004 № 60, прод. 03.02.2009 № 12 | 2, 3, 4, 6, 8 | 01.03.2014 |
| Литвинчук А.М., ИП | Гомель, ул. Склезнева, 3-1 | 490017756 | 0056816, выд. 02.03.2004 №60, ан. 08.04.2009 № 39 | 4, 8, 9 | |
| «Дубки», ОДО | 223013, Минский р-он, п. Самохваловичи, ул. Русиновичи, 1а | 600050462 | 0494084, выд. 02.03.2004 № 60, прод. 03.02.2009 №12 | 9, 10 | 01.03.2014 |
| «Мэджик Бук», ООО | 220103, Минск, ул. Кнорина, 50-3а | 101518905 | 0056818, выд. 02.03.2004 № 60, ан. 08.04.2009 № 39 | 3, 4, 8 | |
| Филимонова Л.А, ИП. | 220000, Минск, ул. Тикоцкого, 26-69 | 101222068 | 0494303, выд. 02.03.2004 № 60, прод. 04.03.2009 № 3.3. | 3, 9 | 01.03.2014 |
| «Белорусский государственный институт метрологии», РУП | 220053, Минск, Старовиленский тракт, 93, корп. 1,2 | 10055197 | 0494071 выд. 02.03.2004 № 60, прод. 03.02. 2009 № 12 | 4, 8 | 01.03.2014 |
| «Могилевская областная укрупненная типография имени Спиридона Соболя», УПКП | 212030, Могилев, ул. Первомайская, 70 | 700008828 | 0056823, выд. 02.03.2004 № 60, ан. 09.12.2005 № 176 | 4, 8, 9, 10 | |
| Пунько П.И., ИП | 220079, Минск, ул. Скрыганова, 11-38 | 100745456 | 0056824, выд. 02.03.2004 № 60, ан. 08.04.2009 № 39 | 4, 8 | |
| «Белорусский союз журналистов», ОО | 220005, Минск, ул. Румянцева, 3 | 100124693 | 0056825, выд. 02.03.2004 № 60, ан. 08.04.2009 № 30 | 3, 9, 10 | |
| «Издательство «Беларусь», РУП | 220004, Минск, пр. Победителей, 11, к. 701 709, 715, 717 722 | 100060858 | 0494065, выд. 02.03.2004 № 60, прод. 03.02.2009 № 12 | 1, 2, 3, 4, 6, 7, 8, 9 | 01.03.2014 |
| «Издательство «Вышэйшая школа», РУП | 220048, пр. Победителей, 11, 801-816, 818-823 | 100079604 | 0494062, выд. 02.03.2004 № 60, прод. 03.02.2009 № 12 | 10 | 01.03.2014 |
| «Издательство «Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі», РУП | 220012, Минск, пер. Калинина, 15 | 100262560 | 0494061 выд. 02.03.2004 №60, прод. 03.02.2009 № 12 | 1, 2, 3, 4, 6, 7, 8, 9, 10 | 31.03.2014 |
| «Право и экономика», ИООО | 220072, Минск, ул. Сурганова, 1 корп. 2, к. 701 | 100699202 | 0494335, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 2, 8 | 31.03.2014 |
| «МЕТ», ООО | 220029, Минск, ул. Киселева, 20, 1-й этаж | 100052024 | 0494383, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 3, 8, 9, 10 | 31.03.2014 |
| «Сувиг», ОДО | 220141, Минск, ул. Ф.Скорины, 40-204 | 100286996 | 0494322, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 4, 8, 9 | 31.03.2014 |
| «Веды», ЗАО | 220028, г. Минск, ул. Маяковского, 129А-109 | 100664948 | 0131647, выд. 01.04.2004 № 77, ан. 08.04.2009 № 39 | 2, 3, 4, 8, 9 | |
| Академия управления при Президенте Республики Беларусь | 220007, Минск, ул. Московская, 17 | 100035734 | 0494319, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 04.03.2009 № 3.3 | 2, 4, 6, 8 | 31.03.2014 |
| Национальный центр правовой информации Республики Беларусь | 220050, Минск, ул. Берсона, 2а | 101331903 | 0494332, выд. 01.04.2004. № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 1, 2, 8 | 31.03.2014 |
| «Сказ», ООО | 220082, Минск, ул. Притыцкого, 34-4 | 100127863 | 0494386, выд. 01.04.2004. № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 3, 9, 10 | 31.03.2014 |
| «Редакция газеты «Минск на ладонях», ЧУП | 220000, Минск, ул. Смолячкова, 9-508 | 101541260 | 0056908, выд. 01.04.2004 № 77, ан. 15.09.2009 № 107 | 4, 8, 9 | |
| «Торговый дом «Италмода Плюс», ЗАО | 220039, Минск, ул. Чкалова, 12-105 | 101188602 | 0056909, выд. 01.04.2004 № 77, ан. 15.09.2009 № 107 | 8 | |
| «Минская печатная фабрика», РУП | 220050, Минск, ул. Володарского, 3 | 100048217 | 0494369, выд. 01.04.2004. № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 3, 4, 8 | 31.03.2014 |
| «Кавалер Паблишерс», ИООО | 220035, Минск, пр. Победителей, 11, к.1223 | 101151776 | 0494346, выд. 01.04.2004. № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 3, 6, 8, 9, 10 | 31.03.2014 |
| «Дизайн ПРО», ООО | 220040, Минск, ул. Некрасова, 5-510 | 100161329 | 0056941, выд. 01.04.2004. № 77, ан. 15.09.2009, № 107 | 2, 3, 4, 6, 8 | |
| «Минсктиппроект», ПРУП | 220123, Минск, ул. В.Хоружей, 13-61 | 100299864 | 0549410, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 08.042009 № 39 | 2, 4, 8 | 31.03.2014 |
| «Информационно-издательская студия «Арт-пресс», ООО | 220035, Минск, ул. Игнатенко, 4-4 | 100069947 | 0150135, выд. 01.04.2004 № 77, ан. 15.09.2009 № 107 | 4, 8, 9 | |
| «Бонем», ЗАО | 220138, Минск, ул. Геологическая, 59/4, оф. 73 | 100759001 | 0494309, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 04.03.2009 № 3.3 | 3, 4, 8, 9, 10 | 31.03.2014 |
| «Арт Дизайн», творческое ТЧУП | 220090, Минск, Логойский тракт, 29-56 | 100065265 | 0056945, выд. 01.04.2004 № 77, ан. 15.09.2009 № 107 | 8 | |
| «Информационно-вычислительный центр Министерства финансов Республики Беларусь», РУП | 220000, Минск, ул. Кальварийская, 17, к. 201 а, 201 б, 232, 342, 243, 244, 339 в. | 100049849 | 0494336, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 1, 2, 3, 4, 6, 8 | 31.03.2014 |
| «Астра» астрономическо-астрологическое объединение | 220021, Минск, Партизанский пр., 117 а | 101605476 | 0056956, выд. 01.04.2004 № 77, ан. 15.09.2009 № 107 | 3,8 | |
| «Экономпресс», ИЧУП | 220012, Минск, ул. Толбухина, 11-19 | 100625074 | 0494363, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009, № 31 | 2, 3, 4, 8 | 31.03.2014 |
| «Молодежное научное общество», ОО | 220064, Минск, ул. Казинца, 110-37 | 101560069 | 0056958, выд. 01.04.2004 № 77, ан. 09.12.2005 № 177 | 2, 3, 4, 8 | |
| Белорусский национальный технический университет | 220013, Минск пр. Независимости, 65 | 100354447 | 0494349, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009, № 31 | 2, 3, 4, 6, 8 | 31.03.2014 |
| «ИраСофтАнт», ИРЧУП | 220073, Минск, ул. Скрыганова, Мельникайте, 6, 2201 | 190171492 | 0552904, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009, № 31 | 4, 8, 9 | 31.03.2014 |
| «Редакция газеты «Настаўніцкая газета» | 220034, Минск, ул. Захарова, 42-61 | 190207769 | 0056996, выд. 01.04.2004 № 77, ан. 15.09.2009 № 107 | 3, 6, 8, 9, 10 | |
| «Торговый дом «Вишневка», ООО | 223044, Минский р-н, д. Касынь, контора «Белинтертранс», к. 6 | 190369742 | 0131961, выд. 01.04.2004 № 77, ан. 04.01.2010 г. № 1 | 8 | |
| «Звезды гор», ИЧУП | 220056, Минск, ул. Садовая, 9 к.35 | 190403580 | 0494364 выдана 01.04.2004 № 77, продлена 16.03.2009 № 31 | 3,8,9,10 | 31.03.2014 |

### Геаграфія

**Шандроха, А. Г.** География: тестовый тренажер для подготовки к централизованному тестированию / А. Г. Шандроха. — Минск: Аверсэв, 2011. — 78 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-529-621-9.

### Агульная, сістэматычная і тэарэтычная геаграфія

**Административная география**: учебное пособие для учащихся учреждений, обеспечивающих получение профессионально-технического и среднего специального образования по специальности «Почтовая связь» / [Ясовеев М. Г. и др.; под общей редакцией Ясовеева М. Г. и Сосновского В. Н.]. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2010. — 269 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-6941-39-2 (в пер.).

**Бакарасов, В. А.** Экология ландшафтов: пособие для студентов географического факультета, обучающихся по специальности 1-33 01 02 «Геоэкология» / В. А. Бакарасов. — Минск: БГУ, 2010. — 98 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-518-271-0.

**Хомяков, В. Г.** Экономическая, социальная и политическая география: понятия, термины, статистические материалы: справочник / В. Г. Хомяков, Ю. Г. Шайтанова; Министерство образования Республики Беларусь, Могилевский государственный университет им. А. А. Кулешова. — 2-е изд., пересмотренное и дополненное. — Могилев: МгГУ, 2010. — 129 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-480-660-0.

### Рэгіянальная геаграфія ў цэлым. Геаграфія старажытнага і сучаснага свету

**Страноведение**: справочник: в 4 т. / [составитель Гавриленко В. Г.]. — Минск: Право и экономика, 2010. — Библиография в конце статей. — 250 экз. — ISBN 978-985-442-891-8 (в пер.).

Т. 1. — 714 с. — ISBN 978-985-442-887-1.
Т. 2. — 779 с. — ISBN 978-985-442-888-8.
Т. 3. — 658 с. — ISBN 978-985-442-889-5.
Т. 4. — 676 с. — ISBN 978-985-442-890-1.

**Шереметьева, Т. Л.** 100 мест на земле, которые необходимо увидеть: [самое интересное и удивительное / Шереметьева Татьяна Леонидовна]. — Минск: Харвест, 2010. — 63 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-16-8759-2.

### Біяграфічныя і падобныя даследаванні

**Крукоўскі, У. Я.** Срэбная страла ў чырвоным полі: з гісторыі беларускіх прыватных гербаў / Уладзімір Крукоўскі. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010. — 135 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6941-77-4 (у пер.).

### Гісторыя. Гістарыяграфія

**Беларуская палеаграфія**: курс лекцый / Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П. М. Машэрава, Кафедра беларускага мовазнаўства; [аўтар-складальнік: В. Э. Зіманскі]. — Віцебск: ВДУ, 2010. — 94 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-517-204-9.

**Государственный архив Брестской области**: путеводитель по фондам 1919–1939 / Научно-методическое учреждение «Государственный архив Брестской области»; [составители: А. В. Теребунь и др.; редколлегия: А. Г. Карапузова (главный редактор), Н. Н. Тарасюк, А. В. Теребунь]. — Брест: Альтернатива, 2010. — 129 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-521-211-0.

**Сидорцов, В. Н.** Методология истории: курс лекций: [для студентов] / В. Н. Сидорцов. — Минск: БГУ, 2010. — 206 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-518-391-5.

### Усеагульная гісторыя

**Всемирная история**: весь школьный курс в таблицах / [составитель Дуда Марина Юрьевна]. — 3-е изд. — Минск: Современная школа: Кузьма, 2011. — 383 с. — 10050 экз. — ISBN 978-985-539-149-5 (Современная школа). — ISBN 978-985-453-393-3 (Кузьма).

### Гісторыя старажытнага свету

**Кошелев, В. С.** Этот загадочный Древний мир: 5-й класс: пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с белорусским и русским языками обучения / В. С. Кошелев, М. А. Краснова; Национальный институт образования. — Минск: Асар, 2010. — 192 с. — 4400 экз. — ISBN 978-985-6984-10-8.

### Гісторыя сярэдніх вякоў, новага і найноўшага часу

**Гусев, И. Е.** История рыцарства и крестовых походов / [Гусев Игорь Евгеньевич]. — Минск: Харвест, 2010. — 239 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-8754-7 (в пер.).

**Космач, Г. А.** Новейшее время: проблемы и перспективы (1945 г. – начало XXI в.): 11-й класс: пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с белорусским и русским языками обучения / Г. А. Космач, А. И. Филимонов; Национальный институт образования. — Минск: Асар, 2010. — 155 с. — 4000 экз. — ISBN 978-985-6711-94-0.

### Гісторыя зарубежных краін

**Садовская, А. Н.** Политика Европейского союза в отношении развивающихся государств в 1990-е – 2000-е годы / А. Н. Садовская; Белорусский государственный университет. — Минск: Право и экономика, 2010. — 176 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-442-905-2.

### Гісторыя Расіі. Гісторыя СССР у цэлым

**Великая Отечественная война в судьбе литературы и культуры**: исторический опыт как мировоззренческий и моральный выбор: [сборник] / Производственное объединение «Гомсельмаш», Гомельский государственный университет им. Франциска Скорины, Гомельский областной комитет мира; редактор-составитель И. Н. Афанасьев; [фотографии: Д. Свириденко и др. ]. — Мозырь: Белый Ветер, 2011. — 467 с. — Часть текста на белорусском и украинском языках. — 217 экз. — ISBN 978-985-538-163-2 (в пер.).

**Вторая мировая война и послевоенное устройство мира**: материалы международной научной конференции, посвященной 65-летию победы стран антигитлеровской коалиции во Второй мировой войне, 27–28 сентября 2010 г. — Брест: БрГТУ, 2010. — 270 с. — Часть текста на белорусском и польском языках. — 60 экз. — ISBN 978-985-493-176-0.

**Голденков, М.** Империя. Собирание земель русских: [экспансия, русский генофонд, судьбы коренных народов] / Михаил Голденков. — Минск: Современная школа, 2011. — 254 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-539-189-1 (в пер.).

**Грицкевич, А. П.** Борьба за Украину, 1917–1921 / Анатолий Грицкевич; [под научной редакцией А. Е. Тараса]. — Минск: Современная школа, 2011. — 526 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-539-151-8 (в пер.).

**Леви, А.** Я вольная птица: [воспоминания] / Алла Леви; перевод с иврита Светланы Шенбрунн; [художник Ирена Бат-Цви]. — Минск: МЕТ, 2011. — 254 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-436-588-6.

### Гісторыя Беларусі

**Беларусь і суседзі: гістарычныя шляхі, узаемадзеянне і ўзаемаўплывы**: матэрыялы III Міжнароднай навуковай канферэнцыі, Гомель, 30 верасня – 1 кастрычніка 2010 г. / [рэдкалегія: Р. Р. Лазько (адказны рэдактар), М. М. Мязга, Д. М. Талочка]. — Гомель: ГДУ, 2010. — 339 с. — Частка тэксту на польскай, рускай і ўкраінскай мовах. — 80 экз. — ISBN 978-985-439-502-9.

**Доўнар, Т. І.** Гісторыя Беларусі: 1917 г. – пачатак XXI ст.: 11-ты клас: білеты, адказы на пытанні: [для падрыхтоўкі да экзаменаў] / Т. І. Доўнар, А. М. Сасім. — Мінск: Экоперспектива, 2011. — 167 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-469-365-1.

**Лашкевіч, С. А.** Асаблівасці знешнепалітычнай актыўнасці Вялікага Княства Літоўскага (1569–1600 гг.) / С. А. Лашкевіч. — Мінск: БДУ, 2010. — 114 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-518-333-5.

**Лашкевіч, С. А.** Усходні накірунак дыпламатычнай дзейнасці Вялікага Княства Літоўскага ў апошняй трэці XVI ст. / С. А. Лашкевіч; Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. — Мінск: Права і эканоміка, 2010. — 125 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-442-875-8.

**Міжнародныя Доўнараўскія чытанні (7; 2010; Рэчыца)**. Сёмыя Міжнародныя Доўнараўскія чытанні: матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі, Рэчыца, 1–2 кастрычніка 2010 г. / [рэдкалегія: В. М. Лебедзева (адказны рэдактар) і інш.]. — Гомель: ГДУ, 2010. — 359 с. — Частка тэксту на рускай і ўкраінскай мовах. — 160 экз. — ISBN 978-985-439-503-6.

**Туронак, Ю.** За кардонам бацькаўшчыны: успаміны / Юры Туронак. — Мінск: Медысонт, 2010. — 274 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-69-63-02-8 (памылк.).

**1939 год у лёсе беларускага народа**: зборнік матэрыялаў рэгіянальнага “круглага стала”, Брэст, 29 кастрычніка 2009 г. / [рэдкалегія: В. Г. Швайко (гал. рэд.) і інш.]. — Брэст: БрДУ, 2010. — 192 с. — Частка тэксту на рускай мове. — Бібліяграфія ў канцы дакладаў. — 50 экз. — ISBN 978-985-473-653-2.

**Тышкевіцкія чытанні (3; 2010; Вілейка)**. Трэція Тышкевіцкія чытанні (г. Вілейка, 24 лістапада 2010 г.): матэрыялы чытанняў / [рэдкалегія: М. А. Бяспалая (адк. рэд.) і інш.]. — Мінск: БДУ культуры і мастацтваў, 2010. — 91 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 50 экз. — ISBN 978-985-522-011-5.

**Унуковіч, Ю. І.** Літоўцы Беларусі: этналагічнае даследаванне / Ю. І. Внуковіч [г. зн. Унуковіч]; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы. — Мінск: Беларуская навука, 2010. — 167 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-08-1222-3.

**Цемушаў, С. М.** Беларускія землі ад старажытнасці да сярэдзіны XIII ст.: 6-ты клас: дапаможнік для вучняў агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання / С. М. Цемушаў; Нацыянальны інстытут адукацыі. — Мінск: Асар, 2010. — 195 с. — 4300 экз. — ISBN 978-985-6711-84-1.

**Белозорович, В. А.** История Беларуси: индивидуальный комплект тренировочных материалов для подготовки к централизованному тестированию: вариант № 1 (с решениями), вариант № 2 / В. А. Белозорович. — Минск: ТетраСистемс, 2010. — 12 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-536-130-6.

**Вирковская, Л. А.** Моя уважаемая мама: воспоминания / Лариса Вирковская. — Лида: Лидская типография, 2010. — 78 с. — 60 экз. — ISBN 978-985-6437-18-5 (в пер.).

**Рассадин, С. Е.** Князья, графы и бароны в Беларуси (конец XVIII – начало XX в.): история титулов в биографическо-личностном аспекте) / С. Е. Рассадин; [научный редактор Г. Я. Голенченко]. — Минск: Белорусский Экзархат Московского Патриархата, 2010. — 430 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-511-336-3 (в пер.).

**Тарас, А. Е.** Грюнвальд 15 июля 1410 года / А. Е. Тарас. — Минск: Харвест, 2010. — 158 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-16-9164-3 (в пер.).

**Татаринов, Ю. А.** Города Беларуси в некоторых интересных исторических сведениях: Гомельщина / Юрий Татаринов. — Минск: Смэлток, 2010. — 167 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-6917-81-6.

### АГУЛЬНЫ РАЗДЗЕЛ. НАВУКА І ВЕДЫ. ІНФАРМАЦЫЯ. ДАКУМЕНТАЦЫЯ. БІБЛІЯТЭЧНАЯ СПРАВА. АРГАНІЗАЦЫІ. ПУБЛІКАЦЫІ Ў ЦЭЛЫМ

### Агульныя пытанні навукі і культуры

**Основные результаты фундаментальных исследований и предложения по перспективам их использования** / Белорусский республиканский фонд фундаментальных исследований. — Минск: БРФФИ, 1994–

Вып. 17 / [составители: В. В. Кручинский и др.; под общей редакцией В. А. Орловича, В. И. Прокошина, Н. Н. Костюковича]. — 2010. — 309 с. — 152 экз.

**Main results of fundamental research and search scientific works** / Belarusian Republican Foundation for Fundamental Research. — Minsk: BRFFR, 1994– — На англійскай мове.

Iss. 17 / [compiling: Natalia N. Polovinko; editor: Nikolai N. Kostyukovich]. — 2010. — 241 с. — 74 экз.

### Асноўныя вынікі фундаментальных і пошукавых даследаванняў

### Дакументацыя. Навукова-тэхнічная інфармацыя (НТІ)

**Информационные ресурсы и системы Беларуси**: каталог / ... Научно-инженерное республиканское унитарное предприятие «Институт прикладных программных систем» (НИРУП «ИППС»), Государственные регистры информационных ресурсов и информационных систем Республики Беларусь. — Минск, 2002–

Вып. 9 / Министерство связи и информатизации Республики Беларусь; [составители: В. Н. Агафонов, Н. Н. Кузнецов, И. А. Михайловский; под общей редакцией А. Г. Корженевского, С. А. Шаврова]. — Адукацыя і выхаванне, 2010. — 567 с. — 316 экз. — ISBN 978-985-471-415-8.

### Інфармацыйныя тэхналогіі. Вылічальная тэхніка

**Балащенко, Д. В.** Программирование на языке С: учебно-методическое пособие по дисциплине «Информатика»: [для студентов] / Д. В. Балащенко; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный университет транспорта, Кафедра «Информационные технологии». — Гомель: БГУТ, 2010. — 136 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-468-793-3.

**Виноградова, И. В.** Работа в Microsoft Access 2003: учебно-методическое пособие / И. В. Виноградова, С. С. Щупак; Министерство труда и социальной защиты Республики Беларусь, Государственное учреждение образования «Республиканский институт повышения квалификации и переподготовки работников Министерства труда и социальной защиты Республики Беларусь». — Минск: РИПК Минтруда и соцзащиты, 2010. — 100 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6865-72-8.

**Виноградова, И. В.** Работа с приложением Microsoft Outlook: учебно-методическое пособие / И. В. Виноградова, С. С. Щупак; Министерство труда и социальной защиты Республики Беларусь, Государственное учреждение образования «Республиканский институт повышения квалификации и переподготовки работников Министерства труда и социальной защиты Республики Беларусь». — Минск: РИПК Минтруда и соцзащиты, 2010. — 23 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6865-68-1.

**Информационное общество Республики Беларусь**: статистический сборник / Национальный статистический комитет Республики Беларусь. — Минск: Национальный статистический комитет Республики Беларусь, 2011. — 89 с. — 57 экз. — ISBN 978-985-6858-79-9.

**Информационные технологии в экономике предприятия**: учебно-методический комплекс: [для студентов] / Министерство образования Республики Беларусь, Витебский государственный университет им. П. М. Машерова, Кафедра инженерной физики; [авторы-составители: А. С. Ключников, Д. Ф. Карелин]. — Витебск: ВГУ, 2011. — 195 с. — 60 экз. — ISBN 978-985-517-251-3.

**Пацей, Н. В.** Основы алгоритмизации и программирования: учебно-методическое пособие для студентов учреждений, обеспечивающих получение высшего образования по направлению специальности «Информационные системы и технологии (издательско-полиграфический комплекс)» / Н. В. Пацей; Белорусский государственный технологический университет. — Минск: БГТУ, 2010. — 288 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-434-989-3 (в пер.).

**Применение средств компьютерной математики для решения прикладных задач**: методическое пособие для студентов инженерно-технических специальностей / [Е. А. Бричикова и др.]; Министерство сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь, Белорусский национальный технический университет, Кафедра высшей математики № 1. — Минск: БНТУ, 2011. — 28 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-525-414-1.

**Работа в Интернет с помощью программы-браузера Mozilla FireFox**: учебно-методическое пособие / Министерство труда и социальной защиты Республики Беларусь, Государственное учреждение образования «Республиканский институт повышения квалификации и переподготовки работников Министерства труда и социальной защиты Республики Беларусь»; [составитель: К. И. Парахневич]. — Минск: РИПК Минтруда и соцзащиты, 2010. — 31 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6865-74-2.

**Работа в Visual FoxPro**: учебно-методическое пособие / Министерство труда и социальной защиты Республики Беларусь, Государственное учреждение образования «Республиканский институт повышения квалификации и переподготовки работников Министерства труда и социальной защиты Республики Беларусь»; [составители: И. К. Патиевская, В. В. Шпилевская, К. И. Парахневич]. — Минск: РИПК Минтруда и соцзащиты, 2010. — 139 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6865-73-5.

**Шпилевская, В. В.** Основы компьютерных технологий (для незрячих пользователей): учебно-методическое пособие / В. В. Шпилевская; Министерство труда и социальной защиты Республики Беларусь, Государственное учреждение образования «Республиканский институт повышения квалификации и переподготовки работников Министерства труда и социальной защиты Республики Беларусь». — Минск: РИПК Минтруда и соцзащиты, 2010. — 91 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6865-75-9.

### Кіраванне. Менеджмент

**Бабина, М. П.** Автоматическая идентификация и штриховое кодирование товаров: учебно-методическое пособие для студентов по специальности 1-74 03 04 Ветеринарная санитария и экспертиза / [М. П. Бабина, А. Г. Кошнеров]; Витебская государственная академия ветеринарной медицины. — Витебск: ВГАВМ, 2010. — 58 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-512-398-0.

**Горнаков, Э. И.** Управление персоналом: учебное пособие для студентов высших учебных заведений по техническим специальностям / Э. И. Горнаков, Е. Н. Костюкевич, Е. В. Метельская. — 2-е изд., дополненное и переработанное. — Минск: ИВЦ Минфина, 2011. — 558 с. — 700 экз. — ISBN 978-985-6993-13-1.

**Наливайко, Г. М.** Управление качеством: учебное пособие для слушателей системы повышения квалификации и переподготовки кадров агропромышленного комплекса / Г. М. Наливайко, А. Л. Кузнецов, И. Н. Фурс; под общей редакцией Наливайко Г. М. — Минск: ФУАинформ, 2010. — 253 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6868-30-9.

### Культура

**pARTisan**: альманах сучаснай беларускай культуры / [галоўны рэдактар: Артур Клінаў]. — Мінск: І. П. Логвінаў, 2002–

Вып. 11. — 2010. — 81 с. — Частка тэксту паралельна на беларускай і англійскай мовах. — 250 экз.

### Бібліяграфія. Каталогі

**Бібліятэка ў друку** = Библиотека в печати: бібліяграфічны паказальнік / УК “Магілёўская абласная бібліятэка імя У. І. Леніна”, Аддзел беларускай і краязнаўчай літаратуры; [складальнік Н. М. Багданава]. — Магілёў: Магілёўская абласная бібліятэка, 2010. — 39 с. — 20 экз.

**Культурны набытак Магілёва**: 20 гадоў з часу заснавання Магілёўскага абласнога мастацкага музея імя П. В. Масленікава: бібліяграфічны даведнік / Установа культуры «Магілёўская абласная бібліятэка імя У. І. Леніна», Аддзел мастацтваў; [складальнік Н. І. Зяленская]. — Магілёў: Магілёўская абласная бібліятэка, 2010. — 42 с. — 6 экз.

**Летапіс аўтарэфератаў дысертацый** = Chronicle of thesis abstracts: дзяржаўны бібліяграфічны паказальнік / Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальная кніжная палата Беларусі. — Мінск: НКП Беларусі, 1999– — Частка тэксту паралельна на беларускай і англійскай мовах.

2010 / [складальнік Т. В. Сырамаха; адказны рэдактар С. М. Цяльнова]. — 2011. — 94 с. — Частка тэксту на англійскай і рускай мовах. — 45 экз.

**Летапіс выяўленчых выданняў** = Chronicle of graphic editions: дзяржаўны бібліяграфічны паказальнік / Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальная кніжная палата Беларусі. — Мінск: НКП Беларусі, 1955– — Частка тэксту паралельна на беларускай і англійскай мовах.

2010 / [складальнік Л. І. Бажэнкова; адказны рэдактар М. Ю. Голяс]. — 2011. — 87 с. — Частка тэксту на англійскай і рускай мовах. — 35 экз.

**Летапіс картаграфічных выданняў** = Chronicle of cartographic editions: дзяржаўны бібліяграфічны паказальнік / Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальная кніжная палата Беларусі. — Мінск: НКП Беларусі, 1994– — Частка тэксту паралельна на беларускай і англійскай мовах.

2010 / [складальнік Т. В. Сырамаха; адказны рэдактар С. М. Цяльнова]. — 2011. — 66 с. — Частка тэксту на англійскай і рускай мовах. — 30 экз.

**Летапіс нотных выданняў** = Chronicle of printed music: дзяржаўны бібліяграфічны паказальнік / Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальная кніжная палата Беларусі. — Мінск: НКП Беларусі, 1924– — Частка тэксту паралельна на беларускай і англійскай мовах.

2010 / [складальнік І. Г. Бабарыка; адказны рэдактар М. Ю. Голяс]. — 2011. — 44 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 35 экз.

**Півавар, М. В.** Краязнаўцы Віцебшчыны другой паловы XX – пачатку XXI ст.: біябібліяграфічны даведнік / Мікалай Півавар. — Мінск: Кнігазбор, 2010. — 371 с. — 600 экз. (1-шы з-д 200). — ISBN 978-985-6976-46-2.

**«Аверсэв», издательство (Минск)**. Издательство «Аверсэв»: новые учебно-методические издания, 2011 год: каталог учебно-методических изданий. — Минск: Аверсэв, 2011. — 31 с. — Часть текста на белорусском языке. — 2100 экз.

**Белорусский государственный университет информатики и радиоэлектроники (Минск)**. Выпуск изданий, 2011 / Белорусский государственный университет информатики и радиоэлектроники. — Минск: БГУИР, 2011. — 16 с. — 56 экз.

**Библиотека Радзивиллов Несвижской ординации** = Library of the Radziwills' of Nesvizh ordynation: каталог изданий из фонда Центральной научной библиотеки им. Якуба Коласа Национальной академии наук Беларуси: XV–XVI века / Национальная академия наук Беларуси, Центральная научная библиотека им. Якуба Коласа; [составители: А. В. Стефанович, М. М. Лис; редактор библиографических записей О. М. Дрозд; редколлегия: Н. Ю. Березкина (гл. ред.) и др.]. — Минск: Беларуская навука, 2010. — 173 с. — Заглавие переплета и часть текста параллельно на русском и английском языках. — 500 экз. — ISBN 978-985-08-1239-1 (в пер.).

**Валетов Валентин Васильевич, профессор, доктор биологических наук**: библиография трудов: (к 60-летнему юбилею) / Министерство образования Республики Беларусь, Мозырский государственный педагогический университет им. И. П. Шамякина; [составители: И. Н. Кралевич, Н. А. Лебедев, Е. Н. Казмирчук]. — Мозырь: МзГПУ, 2011. — 73 с. — Часть текста на белорусском языке. — 50 экз.

**«Пачатковая школа», издательство (Минск)**. Каталог издательства «Пачатковая школа», 2011 / Министерство образования Республики Беларусь. — Минск: Пачатковая школа, 2011?. — 44 с. — Часть текста на белорусском языке. — 4000 экз.

**65 лет Великой Победы**: библиографический указатель материалов для подготовки и проведения мероприятий, посвященных 65-летию Победы в Великой Отечественной войне / Учреждение культуры «Могилевская областная библиотека им. В. И. Ленина», Отдел искусств; [составитель: Т. В. Куранкова]. — Могилев: Могилевская областная библиотека, 2010. — 31 с. — 20 экз.

### Бібліятэчная справа

**Літаратурная спадчына рэгіёна і Магілёўская абласная бібліятэка імя У. І. Леніна: рэсурсны патэнцыял у фарміраванні нацыянальнай самасвядомасці**: зборнік дакладаў навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай 75-годдзю Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна, 4 лістапада 2010 г. — Магілёў: Магілёўская абласная бібліятэка, 2010. — 29 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 10 экз.

**Библиотека-музей как хранительница региональных и культурно-этнографических традиций**: методические рекомендации по организации деятельности библиотек-музеев / Учреждение культуры «Могилевская областная библиотека им. В. И. Ленина», Отдел маркетинга и библиотековедческой работы; [составитель Г. Н. Дятлова]. — Могилев: Могилевская областная библиотека, 2010. — 35 с. — 35 экз.




## Кнігарня “Слово”, г. Барысаў Кнігі беларускіх выдавецтваў

1. Оксана Котович, Янка Крук. Золотые правила народной культуры. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2010.

2. И. А. Груцо. Сокровища Наполеона. — Минск: Тетрасистемс, 2011.

*Книга посвящена одной из самых интригующих тайн европейской истории XIX века — судьбе национальных реликвий Российского государства, захваченных наполеоновской армией в Москве в сентябре-октябре 1812 года.*

*Книга написана в научно-популярном жанре. Содержит историю сокровищ Наполеона, полный список московских трофеев, различные версии их судьбы, в том числе и авторскую, картографию, результаты поисков и другую достоверную информацию.*

*Адресуется широкому кругу читателей.*

3. Семён Букчин. Клад Наполеона. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2005.

4. Вадим Деружинский. Тайны белорусской истории. — Минск: ФУАинформ, 2010.

5. Александр Алексеев, Олег Лукашевич. Наследие Беларуси. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2011.

*Альбом издан по заказу и при финансировании Национальной государственной телерадиокомпании Республики Беларусь и является частью популярнейшего художественного проекта “Спадчына Беларусі”. Общий тираж альбомов проекта составил 30000 экземпляров. Это беспрецедентный случай в национальном книгоиздании. Профессиональная съёмка, великолепный уровень полиграфии, вкус в подборе иллюстративного материала, отличный сопроводительный текст делают альбомы не только роскошным подарочным изданием, но и книгами образовательного значения.*

6. Беларускія народныя казкі. — Мінск: Харвест, 2010.

7. Наталья Батракова. Территория души. — Минск: Кавалер, 2008.

8. Наталья Батракова. Площадь согласия. — Минск: Кавалер, 2011.

9. Чароўны свет: з беларускіх міфаў, паданняў і казак. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 2010.

10. Юлия Лешко. Ангел в темноте. — Минск: Регистр, 2011.

## Кнігі расійскіх выдавецтваў

1. Валентин Пикуль. На задворках великой империи. — Москва: АСТ, 2005.

2. Антуан де Сент-Экзюпери. Маленький принц. — Москва: Эксмо, 2010.

3. Стефани Майер. Новолуние. — Москва: АСТ; Астрель, 2010.

4. Стефани Майер. Затмение. — Москва: АСТ; Астрель, 2010.

5. Стефани Майер. Рассвет. — Москва: АСТ; Астрель, 2010.

6. Татьяна Устинова. С небес на землю. — Минск: Современная школа, 2010.

7. Александра Маринина. Личные мотивы. — Москва: Эксмо, 2011.

8. Мудрость тысячелетий. — Москва: ОЛМА Медиа Групп, 2010.

9. Екатерина Вильмонт. Артистка, блин! — Москва: АСТ; Астрель, 2010.

10. Екатерина Вильмонт. Танцы с Варежкой. — Москва: АСТ; Астрель, 2010.

## Мастак і кніга

# Чалавек, які стварае каноны

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

На пытанне, кім бы стаў, калі б не стаў мастаком (а ў родзе па бацькоўскай лініі ўсе былі іканапісцамі, а з прадзеда — прафесійнымі мастакамі), Сяргей Анатольевіч напаўжартам адказвае: "Як усе хлопчыкі таго часу, я марыў стаць лётчыкам. І страсць да самалётаў захаваў на ўсё жыццё. Ужо членам Саюза мастакоў, калі працаваў над станковымі работамі, атрымліваў дазвол у штабе акругі і ездзіў у Мачулішчы на самую буйную ваенную авіябазу. Мне нават дазвалялі забірацца ў стратэгічны бамбардзіроўшчык". Наколькі лёгка было рабіць выбар юнаку, дзед і тата якога былі прызнанымі аўтарытэтамі ў мастацтве, адказ нечаканы: "Тата ніколі не даваў у рукі аловак і паперу. Самі, з сястрой Ірынай, не пытаючыся ў таты, знайшлі студыю выяўленчага мастацтва Сяргея Пятровіча Каткова — гурток Мінскага Палаца піянераў". Тры гады займаўся разам з сястрой, пасябраваў з Уладзімірам Пашчасцевым. З першага класа маляваў насценгазету. У сёмым класе, калі мама параіла выбраць політэхнікум, адказаў: "Толькі маляваць!".

"Тата ніколі не прымушаў, ніколі. Гэта наша фамільная рыса. Калі ён сам хацеў стаць мастаком у 1920-я гады і паступіў у Віцебскі мастацкі тэхнікум, дзед прапанаваў: "Можа, пайшоў бы якую-небудзь іншую, выгадную прафесію атрымаў?" Тата не згадзіўся. (Віцебскі тэхнікум даў на той час выбітных мастакоў — яго заснаваў Шагал. Выкладалі спецыяльна запрошаныя выпускнікі Піцерскай акадэміі мастацтваў, што пакінулі горад, ратуючыся ад масавых расстрэлаў інтэлігенцыі, сярод іх былі Міхаіл Керзін і мой дзед)".

У Мінскае мастацкае вучылішча яны паступалі разам: Ірына, Сяргей, за плячыма якога было дзевяць класаў сярэдняй школы, і Уладзімір Пашчасцеў, які скончыў восем класаў. (У сямідзесятыя гады было магчыма атрымаць агульную сярэднюю адукацыю ў школе працоўнай моладзі — так званай вячэрняй.) Прыёмную камісію, запрошаную з нядаўна арганізаванага тэатральна-мастацкага інстытута, узначальваў Валянцін Віктаравіч Волкаў. Сяргей Анатольевіч прыгадвае: "Здзівіўся, што мы сярод абітурыентаў. Паглядзеў мае і Ірыны работы і сказаў: "Іру можна ўзяць, а Сярожу няма чаго займаць чужое месца". І мяне не прынялі. Па просьбе маці на першы курс мяне залічылі вольным слухачом (з усімі абавязкамі навучэнца мастацкага вучылішча і без усялякіх правоў). У канцы года я разам з астатнімі ўдзельнічаў у гадавым праглядзе работ, які ацэньвала тая ж камісія. Здаў экзамены на атэстат у вячэрняй школе (паколькі меў добрую школьную падрыхтоўку, гэта было няцяжка). Дзед, убачыўшы малюнкі, запытаўся: "Гэта на самай справе Сярожавы работы? Тады хай вучыцца".



Не закончыўшы мастацкае вучылішча, мы з Пашчасцевым пасля чацвёртага курса з прадбачліва не здадзенымі ў вучэбную частку школьнымі атэстатамі і рэкамендацыямі нашых педагогаў — Акіма Міхайлавіча Шаўчэнкі і Альберта Адамавіча Малішэўскага — паступілі ў тэатральна-мастацкі. Конкурс быў 16 чалавек на месца на аддзяленне графікі. Аднойчы на другім курсе завітаў да нас на занятак мой дзед, які быў загадчыкам кафедры малюнка. Сеў перад маім мальбертам, узяў у рукі аловак і, не дакрануўшыся ні разу ім да паперы, 45 хвілін чытаў нам лекцыю, што такое малюнак. У суседняй майстэрні, якую ад нас аддзяляла пераборка, што не дасягала столі на 20 сантыметраў, затаіўшы дыханне, яго слухала група, у якой вучылася Ірына. З чаго малюнак пачынаецца, як вызначаецца цэнтр кампазіцыі, як малюецца фігура, прапрацоўваюцца светлацені. Гэту лекцыю я запомніў на ўсё жыццё.

За тры гады ў арміі, куды трапіў з трэцяга курса інстытута, настолькі намаляваўся наглядной агітацыі для клубаў і ленінскіх пакояў, што выхаваў у сябе стойкі імунітэт да ўсялякага афіцыёзу. Даў сабе слова — ніякай халтуры, толькі творчасць. Супрацоўнічаў з часопісамі і выдавецтвамі — не браў ніводнай капейчыны ў бацькоў. Заўсёды быў вольны ў сваіх выказваннях, таму што нідзе не меў аплачваемай пасады.

Падчас працы на студыі "Дыяфільм" пазнаёміўся с буйным спецыялістам па беларускай міфалогіі, кандыдатам навук Алесем Шамаком. Зрабілі дзве часткі пазнавальнага дыяфільма. І ён мяне заахвоціў: "Славянскія міфы больш-менш сістэматызаваныя, сабраны расійскімі даследчыкамі беларускай міфалогіі ў пазамінулым і нашымі ў мінулым стагоддзі, але ў выяўленчай частцы нічога няма. Апрача абрадавых культавых прадметаў, знойдзеных падчас раскопак. Тое, што вы намалюеце, стане канонам". Студыя спыніла сваё існаванне ў канцы 1990-х, у мяне засталося каля 600 малюнкаў да дыяфільмаў. Перагарнуў вялікі пласт матэрыялу, у асноўным, канечне, Рыбакова, расійскага акадэміка і іншых аўтараў. Зрабіў выбарку багоў, якім пакланяліся на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Распрацаваў макет ад пачатку да канца, усе ілюстрацыі. І ў 2004 годзе стаў не толькі мастаком, але і аўтарам кніжкі "Багі і міфы старажытных славян". Яна вытрымала некалькі выданняў. Калі падсумаваць (ужо перапрацаванай і дапоўненай, пад назвай "Чароўны куфэрак"), агульны тыраж — 5 тысяч на фабрыцы каляровага друку ў 2005 і два тыражы яе па 3 тысячы ў "Беларускай Энцыклапедыі" ў 2009 — 2010 гг.

Запыт на добра ілюстраваную дзіцячую кнігу ёсць. Сведчанне таму і беларускія казкі "Самы разумны", выдадзеныя "Беларускай Энцыклапедыяй", якія разышліся імгненна. Ёсць шмат добрых аўтараў, якія пішуць для дзяцей: з задавальненнем ілюстраваў Міхася Пазнякова і гродзенскага паэта Віктара Кудлачова, які ў 9 гадоў згубіў зрок ад гранаты, што выбухнула ў руках (на рахунку гэтага мужнага чалавека каля 15 кніжак — высокамастацкіх і зразумелых для дзяцей).

А вось справы ў дзіцячай кніжнай графікі плачэўныя — пасля таго, як выдавецтва "Юнацтва" зачынілі, не стала мэтанакіраванай праграмы дзіцячага і юнацкага кнігавыдання з высокімі патрабаваннямі да якасці. Зэканомілі... У выніку — крызіс жанру. У "Юнацтве" былі сабраны лепшыя сілы: пісьменнікі, рэдактары, мастакі — выпускнікі Маскоўскага паліграфкамбіната: Аляксандр Шэвераў, Мікалай Казлоў, Віктар Клімянка. У першую чаргу гэта былі мастакі, а не чыноўнікі, і з імі было вельмі добра весці справы. Выдавецтва давала жыццё прыкладна тром сотням найменняў кніг у год, беларуская дзіцячая літаратура тады квітнела, і перакладной літаратуры выдавалася шмат — і прыбалтыйскай, і сярэднеазіяцкай… А сёння дзіцячая беларуская літаратура зрэдку з'яўляецца на міжнародных выстаўках...

***Візітка:***

***Мастак Сяргей Волкаў** нарадзіўся 18 сакавіка 1942 года ў Мінску. Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь (1989), лаўрэат прэміі Васіля Віткі (2004), лаўрэат прэміі Кандрата Крапівы (2006). Скончыў аддзяленне графікі Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (1970). Вучыўся ў Л. Асецкага, П. Любамудрава, А. Кашкурэвіча. Удзельнік выставак з 1971 г. Член Саюза мастакоў Беларусі з 1973 года. Старшыня секцыі графікі ў 1984 — 1989 гг. Член праўлення Саюза мастакоў СССР у 1985 — 1990 гг. З 1989 г. уваходзіць у аб'яднанне "Верасень", старшыня ў 1989 — 1992, 1999 — 2002 гг.*

*Працуе ў кніжнай і станковай графіцы, у тэхніках акварэлі, малюнка, літаграфіі, шаўкаграфіі. Аформіў больш як 300 кніг у выдавецтвах Беларусі і Расіі. Працаваў у часопісах "Вожык", "Вясёлка".*



***На здымках:** ілюстрацыі да быліны "Ілья Мурамец і Салавей-разбойнік" і зборніка вершаў М. Пазнякова "У родным краі".*

## Пад вокладкай

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**




**Іван Шамякін: вядомы і невядомы: успаміны, эсэ, аповесць / уклад. Т. І. Шамякіна. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 272 с.**

Працяг выдавецкага праекта пра "вядомых і невядомых" пісьменнікаў прысвечаны жыццю і творчасці Івана Шамякіна. У гэтым зборніку ўспаміны дачкі суседнічаюць з навукова-папулярнымі артыкуламі пра маладаследаваныя аспекты творчасці народнага пісьменніка Беларусі, эсэістычнымі нататкамі, з якіх І. Шамякін паўстае на фоне эпохі, сяброўскіх і сямейных стасункаў, у яго стаўленні да розных відаў мастацтва. Асобны раздзел выдання складае мемуарная аповесць І. Шамякіна "Слаўся, Марыя!"




**Фальклор Магілёўшчыны: матэрыялы з раёнаў, пацярпелых ад аварыі на ЧАЭС / склад. А. І. Гурскі, А. У. Марозаў, Н. Г. Мазурына. — Мінск: Беларуская навука, 2011. — 530 с.**

Як зрабіць так, каб куры несліся толькі ў сваім двары і каб не дралі агарод? Як даведацца, хто ў каровы народзіцца на наступны год — бычок ці цялушка? Адказы на гэтыя і многія іншыя пытанні па вядзенні сельскай і хатняй гаспадаркі, а таксама абрады, прыкметы, замовы, песні, прыказкі і прымаўкі вы знойдзеце ў гэтым зборніку. Тэксты ў ім падаюцца ў першапачатковым выглядзе з захаваннем адметнасцей стылю і рэгіянальных асаблівасцей гаворак. Да песень прыводзяцца шматлікія нотныя прыклады.




**Талкачова, Т. Наталю сваю смагу світанкам: кніга паэзіі / Тамара Талкачова. — Мінск: Логвінаў, 2010. — 146 с.**

Аўтар сцвярджае: перажытае не знікае. А калі душа перапоўнена ім да краёў, атрымлівае новае ўвасабленне — у песнях, карцінах, вершах. Вандруючы за праменьчыкам шчасця, які прамільгнуў праз мінулыя гады, яна запрашае ў свет сваёй пяшчотнай і шчодрай душы. Чытача чакае падарожжа па восені, што разлілася яркім бурштынам, дзе "сны з жыццём перапляліся", і якая пакіне "сэрцу — гаркоты ад шчасця былога, вуснам — надоўга рабінавы смак".



**Долбилов, М. Д. Русский край, чужая вера: этноконфессиональная политика империи в Литве и Белоруссии при Александре II / Михаил Долбилов. — Москва: Новое литературное обозрение, 2010. — 1000 с.**

Абапіраючыся на хрысціянскія і нехрысціянскія канфесіі ў штодзённых справах кіравання, улады Расійскай імперыі ў той жа час заставаліся сапернікамі з кіраўнікамі рэлігійных груповак за духоўную ляяльнасць насельніцтва. У манаграфіі Міхаіла Далбілава з розных бакоў разглядаюцца асаблівасці канфесійнай інжынерыі, перш за ўсё ў спалучэнні з палітыкай русіфікацыі, што праводзілася ў "Северо-Западном крае" напярэдадні і пасля паўстання 1863 года.

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам "Кніжны салон". Тэл.: 385-60-89.**




# Вуліца Бабушкіна

## *Апавяданне*

У яго прозвішча сапраўды такое — Бабушкін. Толькі, у адрозненне ад рэвалюцыянера, ён быў не Іванам Васільевічам, а Пятром Міхайлавічам, сярод жа сяброў і блізкіх яму людзей меў яшчэ і мянушку — Паштар. Адкуль яна, гэтая мянушка, узялася, спытаецеся? Усё вельмі проста: у свой час, калі Бабушкін жыў у вёсцы, ён працаваў колькі месяцаў паштальёнам, пра што асабліва любіць апавядаць кожнаму стрэчнаму. І хоць ужо даўно гарадскі жыхар, аднак тая мянушка моцна прыліпла да яго: Паштар і Паштар. А Бабушкін і не злуе. "А хто я, калі не ён? Першая прафесія — яна, маркуй так, з табой назаўсёды. Прыемна ўспомніць: во жыццё было — газеты і пісьмы разносіць! Лягчэй лёгкага!.."

Сёння Бабушкін ужо на пенсіі, працаваў да гэтага на заводзе электрыкам, і таму ад няма чаго рабіць іншы раз проста ходзіць па двары шырокім крокам, заклаўшы рукі за спіну. Нібы які начальнік, прыдзірліва акідвае, бывае, позіркам тэрыторыю, як толькі можна ахапіць яе зрокам. Здараецца, яму прапаноўваюць сыграць у складчыну, і тады мужчыны распіваюць у альтанцы пляшку-другую віна, гамонячы пра жыццё.

— Бабушкін, я сёння на тваёй вуліцы быў, — паглядзеў неяк на Пятра Міхайлавіча сусед Ігнатавіч. — Там мой кум хату купіў. Гляджу, і сапраўды напісана на бляхе, што да сцяны хаты прыбіта: вуліца імя Бабушкіна. Ты што, можа, і не ведаў, што тваім імем назвалі вуліцу?

Пятро Міхайлавіч ляніва адбіваецца:

— Ды чуў, чуў! Як не чуў!.. Радыё, няго ж, слухаю таксама!..

— А не прызнаецца, мужыкі! — акідваў позіркам мужчын Ігнатавіч, а сам жа, відаць было, шчыра радаваўся, што да такога даўмеўся розыгрышу. — А чаму, думаеце, маўчыць, не прызнаецца?

— Вядомая справа!..

— Каб не праставіцца!..

— Хвалю за знаходлівасць! — падсумоўваў гаворку Ігнатавіч. — Дык што будзем рабіць, Бабушкін? А? Чаму маўчыш, скнара? Крама, дарэчы, вунь побач, вунь!.. Яна чакае цябе!..

Пасмяяліся, пажартавалі, на тым і згарнулася размова. Ужо крыху пазней Бабушкін вырашыў усё ж з'ездзіць на вуліцу Бабушкіна, і хоць гэта наблізка, за Сажом недзе ў прыватным сектары, — адважыўся. Тут, прынамсі, такая агаворачка: калі б ён зноў не выпіў шклянку віна, мажліва, яго і не пацягнула б на тую вуліцу. А так ён і сапраўды не інакш паверыў, што яна названа іменна ў гонар яго, Пятра Міхайлавіча, і чалавек палічыў ганебным пражыць жыццё і не пабываць на вуліцы, якой ніхто іншы, а ён ахвяраваў сваё прозвішча.

— І не трымайце мяне, і не адгаворвайце!

"Вуліца Бабушкіна", — абвясціў бадзёры голас вадзіцеля аўтобуса.

— О, мая, мая вуліца! — ажывіўся Бабушкін і важна паглядзеў на пасажыраў, якія на яго не звярталі аніякай, вядома ж, увагі, што нават крыху абурыла, таму на гэты раз сказаў больш гучна: — Мая вуліца!.. Бабушкіна!.. Пятра Міхайлавіча!.. — І малайцавата скокнуў на зямлю.

Аўтобус паехаў далей, а Бабушкін застаўся на прыпынку. Стаяў і дзівіўся па баках з выглядам начальніка высокага рангу, які быццам прыехаў на важны аб'ект, а яго ніхто там не сустракае. Непарадак, адным словам. Але ж не стаяць так увесь час. Бабушкін змерыў вуліцу ўздоўж і ўпоперак, а тады распрасцёр рукі, радасна і ўзнёсла прамовіў:

— Дык вось ты якая, мая родная! Ну, прывітанне, ці што? Бачу, няважныя ў цябе справы. Чым дакажу? А тым, што багата хат, а не дамоў паабапал цябе — з двух бакоў — размясцілася. А дзе катэджы? Асабнякі? Ну, тры-чатыры я бачу. І гэта на маёй вуліцы?! Даруй, аднак! Гэта не ты, вуліца, вінавата, а гарадскія ўлады. Яны, яны, скажу табе шчыра, недагледзелі, прамахнуліся. Маглі б даць імя Бабушкіна і вуліцы ў новым мікраёне? Маглі б! Каля Лёдавага палаца, напрыклад. Ідуць на хакей грамадой балельшчыкі і чытаюць: о, дык гэта ж вуліца Бабушкіна! І ім лягчэй ішлося б. Я перакананы ў тым. Для Мазурава, для Чычэрына і ім падобных знайшліся вуліцы ў новым мікрараёне, а мне, атрымліваецца, — шыш. Добра, што хоць дарогу адрамантавалі, калдобін няма… Месцы для прыпынку аўтобуса абсталяваны нічога, казаць не буду… Бач ты іх, на "Цэнтраліце" адлілі шыльды. Пачакай, дык тут жа, па маёй вуліцы, акрамя аўтобусаў, нічога больш і не ходзіць? Ну, так. А дзе тралейбусы? Хто скажа? Дзе, дзе тралейбусы?

Настрой у Бабушкіна зусім сапсаваўся, калі ён даведаўся, што на ягонай вуліцы няма нават ніводнай кропкі, дзе можна было б пасядзець з куфлем піва ці з яшчэ якім больш моцным напоем.

— Канец свету!..

Бабушкін сеў на лаўку і пашкадаваў, што нічога з сабой не ўзяў. Як жа — прыехаў у госці, і з голымі рукамі. А не, каб пачаставаць малечу, што вунь забаўляецца каля дарогі. Ён бы насыпаў ім цукерак у жмені і сказаў: "Гэта вам ад таго дзядзькі, маляўкі, імем якога названая вуліца, на якой вы жывяце і цяпер вось гойсаеце… ці гуляеце, так сказаць, у свой бадмінтон і ў мячык. Ах, вы не верыце? Вам што, пашпарт паказаць? То глядзіце, глядзіце!.." Бабушкін нават уявіў, як дзеці прыліплі да карткі ў ягоным пашпарце, а больш дарослыя, якія ўжо ўмеюць гэта рабіць, чытаюць: Ба-буш-кін!.. Што, атрымалі?!..

Тым часам пад'ехаў чарговы рэйсавы аўтобус, з яго выйшаў усяго адзін чалавек — мужчына сярэдніх гадоў, шчуплы, у светлай сарочцы з доўгімі рукавамі і ў чорнай бейсболцы, картуз якой быў над вухам, і ён шыбаваў да Бабушкіна. Паколькі чалавек той ішоў няўпэўнена, Пятро Міхайлавіч падняўся, падаў каманду:

— Стаяць!

Чалавек знерухомеў, але не мог зразумець, навошта і каму прызначаўся гэты загад, ён паказваў на сябе пальцам і не зводзіў вачэй з Бабушкіна:

— Вы… мне?

— Табе, табе!

— У чым, уласна кажучы, справа?

— Як ідзеш ты па маёй вуліцы? Якім крокам? — Бабушкін наблізіўся да зніякавелага мужчыны. — Ты дзе знаходзішся?

— У чым, уласна кажучы, справа? — зноў паўтарыў пытанне чалавек з няўпэўненай хадою. — Ты хто? Не міліцыянер, звычаем?..

Бабушкін паднёс, як і марыў ён хвілінамі раней, паглядаючы на дзяцей, пашпарт да твару незнаёмца, загадаў:

— Чытай! Прозвішча, прозвішча чытай.

— Ба-буш-кін, — паслухмяна прачытаў той, ікнуў. — А я, можа, Дзедушкін? Х-хі-хі-хі-і!..

— Ты мне тут жарты кінь, — параіў Пятро Міхайлавіч. — А цяпер ідзі сюды. — Ён падвёў яго да хаты, на сцяне якой была прымацавана шыльдачка з назвай вуліцы. — А цяпер чытай тут…

Незнаёмец зноў ікнуў, працёр вочы рукавом, не адразу прачытаў:

— Вуліца імя Бабушкіна. — Ён вытрымаў паўзу, паглядзеў на Бабушкіна, на шыльду, усміхнуўся. — Не, тут нешта не так…

— Усё так, дарагі мой: ты стаіш на маёй вуліцы.

— Ёшкіну маць!..

— А ты як думаў, зямляк? На вуліцы Бабушкіна!..

Незнаёмец похапкам механічна выцер далонь правай рукі аб порткі, падаў яе Пятру Міхайлавічу:

— Будзем знаёмы: Тузікаў Павел Ягоравіч. Тысяча дзевяцьсот…

— Не трэба, далей можаш не гаварыць, — перапыніў яго Бабушкін. — Так што раблю табе строгае папярэджанне: больш у такім выглядзе, як сёння, каб я цябе на сваёй вуліцы не бачыў.

— Як піць даць!

— Я двойчы не паўтараю. Я, можа, маю характар. Ды маю, маю, канечне ж. Калі б я быў слабаком, сардэлькай, які б д'ябал назваў маім імем вуліцу, а?

— Не кажы!.. Хто б назваў?.. Дык як, кажаш, цябе завуць? А, прабач, прабач: Бабушкін. Дык я ж на тваёй вуліцы, аказваецца, і жыву. А не ведаў! Слова даю — не ведаў! Жыву і жыву сабе спакойна. А тут, высвятляецца, ёсць, існуе недзе і чалавек, на вуліцы якога я асеў. Во ён, перад табой. Далёка хадзіць не трэба. Дай я цябе пацалую!

Бабушкін адвёў рукі Тузікава, якія той наставіў на яго растапыранымі пальцамі, падалей ад сябе:

— Калі б я з усімі цалаваўся, то ведаеш, што са мною было б, а?

— Дзівосы, аднак!.. — не мог утаймавацца Тузікаў. — Вунь мой дом. Хадзем, госцем будзеш!

— Паглядзець, як людзі жывуць на маёй вуліцы, трэба. Каб мець уяўленне. Ну, тады пайшлі!..

— Жонка якраз на другой змене. А то і яна б парадавалася.

Неўзабаве яны сядзелі за сталом у пярэдняй, Бабушкін гартаў альбом, а Тузікаў паказваў пальцам, хто зафіксаваны на картцы. Перад гэтым ён не пабаяўся пакінуць госця аднаго ў хаце — а чаго баяцца, калі гэта вунь хто! — і збегаў у краму, прынёс пляшку гарэлкі. Паколькі грошай у яго не мелася, то іх вымеркаваў Бабушкін. "Канечне ж, імем бедняка вуліцу не назавуць, — лагодна думаў Тузікаў, шыбуючы ў краму і з крамы. — Во пашэнціла дык пашэнціла! Хоць раз!.."

Калі выпілі па чарцы, Тузікаў пацікавіўся, якая ў Бабушкіна самая любімая песня. Той спярша задумаўся, для чаго нават зморшчыў лоб, а тады адказаў, бы адсек:

— Я без гармоні не спяваю!

— А калі балалайка?

— Так сабе… Але не пагрэбую, калі будзе хоць які акампанемент.

— У суседа вазьму! — паабяцаў Тузікаў і вышмыгнуў з хаты.

Пакуль ён недзе бегаў, Бабушкін паглядзеў у люстэрка, што вісела на сцяне побач са сталом, зрабіў важны, сур'ёзны выгляд і сам сабе сказаў: "А што, можа, яно так і ёсць… Не ведаю, хто той Бабушкін, аднак жа, па вялікім рахунку калі браць, то якая розніца — хто ён, той Бабушкін? Можа, гэта вуліца ўсіх Бабушкіных, якія жывуць на белым свеце? У Маскве, у Піцеры, у тым жа нашым Гомелі? У Амерыцы, калі ўжо на тое пайшло, а? Наце вам, Бабушкіны, вуліцу! Не, Пятро Міхайлавіч, ты нарадзіўся ў шчаслівай сарочцы. А сусед, Ігнатавіч, так і заявіў: "Я, Пятро, быў на тваёй вуліцы". А ты, Ігнатавіч, пабудзь на сваёй. Што, адхапіў? Дзе яна, твая вуліца? У якім балоце? То-та ж! І не кірхаць мне! Дзе, дзе вы бачылі вуліцу імя Філіна? Імя Сцяпана Ігнатавіча Філіна? А мая — вось яна, родная! Не бяда, што пакуль не ходзяць тралейбусы. Пусцім!"

— Каго "пусцім"? — паказаўся на парозе з балалайкай Тузікаў.

— Гэта я пра сваю вуліцу. Пусцім, кажу, і тралейбусы.

— Пусцім! Абавязкова! З аркестрам! — трасянуў у паветры балайкай Тузікаў. — Гуляй, горад!

Бабушкін паправіў гаспадара хаты:

— Гуляй, вуліца Бабушкіна. Прашу не абагульняць. Дарэчы, і песню напішам. Я папрашу самага вядомага кампазітара…

— Лучанка можна, — прапанаваў Тузікаў. — Ён для нафтаправода "Дружба" ого які гімн стварыў. Яго, яго возьмем за кампазітара.

— А словы самі складзём, — сказаў Бабушкін. — Так, Павел?

— Як піць даць!

— Ляснем! Хай усе чуюць!..

— Хто лепей, чым мы, ведае матэрыял? Я тут жыву. Так? Так. Вунь на тым агародзе… пад грушай… мая пупавіна закапана, можа быць. Ці недзе побач. А ты, Бабушкін, пра сваю вуліцу дык каб не ведаў, якія словы прыдумаць? Х-хе-хе-хе!..

— Знойдзем. Гэта ўсё другасна, браце.

— Пачакай, а што — пярвічна? — Тузікаў, як часта рабіў да гэтага, зноў працёр рукавом кашулі вочы: яны ў яго чамусьці слязіліся.

— Выпіць трэба, — прызнаўся Бабушкін.

— Дык у чым справа?

— Налівай, — прамовіў Пятро Міхайлавіч і, выдае на тое, амаль што пусціў слязу. Яшчэ трошкі, і твар будзе мокры.

— Што, што з табой, брат Вуліца? — насцярожыўся Тузікаў.

— Таму і плачу, што надта добрыя людзі жывуць на маёй вуліцы. Ад шчасця.

— Тут ты на ўсе сто. Угадаў. Лепшых людзей няма ва ўсім белым свеце.

— І гэта ўсё дзякуючы маёй вуліцы! Яна, як магніт, сабрала вас у кучу. Ты верыш мне, Павел?

— Як піць даць!

— А яшчэ плачу, што я рэдка бываю на сваёй вуліцы сам. Заняты вельмі, дзяржаўных спраў хапае. А хочаш, назусім пераеду сюды? Суседзямі будзем — хочаш? Вазьму і пераеду? Хто забароніць? О-го-го!..

— Дай пяць!

Парукаліся.

— А гэта, дарэчы, ідэя. Галава яшчэ кеміць.

— Па табе ж відаць, што не дурань.

— Хоць і мянушка ў мяне — Паштар.

— Во як, а!

— Не звяртай увагі. Пасля школы газеты і пісьмы разносіў. Мяне паштарская сумка і вывела ў людзі.

— Веру!

— Аднаму начальніку прынёс канверт, а ён і давай цікавіцца, хто я і што я. І пасылае мяне вучыцца на эле… Цьфу ты! На элеватар начальнікам. А потым і пайшло-паехала. І закруцілася!..

— І пайшло-паехала — во як!.. Ведай нашых, аднак!.. А Зінка на другой змене, змяя!.. А ў нас — свята!.. З'ела, Зінка? Атрымала?

— Я, Бабушкін, павінен жыць на вуліцы Бабушкіна. І толькі так. Усё, вырашана: заўтра пераязджаю. Прадаю свае апартаменты і купляю тут дом. Ёсць дом для мяне?

— Знойдзем! Хе, праблема!..

Выпілі за пераезд, заспявалі. Песня не пайшла, таму пасядзелі пэўны час моўчкі. Бабушкін нарэшце ўздыхнуў, пахітаў галавой, паклаў руку на плячо гаспадару хаты.

— Я б дабіўся, каб і тваім імем назвалі якую-небудзь вуліцу ў нашым горадзе. Вунь колькі іх, шматпавярховак, узводзяць!..

— Дабіся, друг! Век не забуду! Можна, я цябе пацалую?

— Потым. Не ўсё адразу.

— Дык у чым жа справа?

— Не думай, у мяне, дзе трэба, свае людзі маюцца. А як ты думаў! Ого людзі!.. Аднак жа тваё прозвішча — Тузікаў — да вуліцы ніяк не падыходзіць. Ну, уяві сабе: вісіць шыльда, а на ёй вялікімі літарамі напісана: "Вуліца імя Тузікава"? Хто такі? Адкуль? Ды і ці захочуць людзі жыць на той вуліцы, якая носіць такую сабачую назву? Падумай, Тузікаў!..

— Хочаш, я жончына прозвішча вазьму, Бабушкін? У яе прыгожае прозвішча — Пацяруха. Як, а?

— Тады гэта будзе жончына вуліца. А баб да такіх сур'ёзных спраў дапускаць нельга, а то наламаюць дроў.

— Наламаюць! Як піць даць!.. Дык а як жа быць, шаноўны, а? Сверб нейкі ў мяне з'явіўся, хоць ты што яму!.. Не ўпусціць бы свайго шанцу.

— Будзем думаць. Для чаго ў нас галовы? Усё, думаем!..

Тузікаў сядзеў з надта сумным тварам. Бабушкін супакойваў яго, а потым заснуў. Прачнуўся ён ранкам на канапе. Узняўся, агледзеўся. Не адразу ўспомніў, дзе знаходзіцца, а калі разабраўся, што да чаго, ціхенечка прычыніў за сабой дзверы і патупаў на аўтобусны прыпынак, баючыся, што прачнецца Тузікаў і кінецца ўслед за ім…

Ён стараўся не ўспамінаць учарашняе. Але як не ўспомніш, калі стаіш на вуліцы Бабушкіна — з іншай вуліцы ў горад ніяк не заедзеш: аўтобусы ходзяць толькі па ёй…

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Віктара Кавалёва

**Ці можна, пабываўшы на выстаўцы, прыхапіць з сабою нейкую сімвалічную часцінку эстэтычнага захаплення, якая потым яшчэ доўга будзе абуджаць у вашай памяці яркія імгненні вернісажа, цудоўныя ўражанні ад сустрэч з мастацтвам у цішыні музейнай залы? Можна. І дзеля гэтага зусім неабавязкова набываць у шапіку ёмісты альбом рэпрадукцый або зусім не танны набор маляўнічых паштовак. Часцінкай захаплення, прыемным напамінам пра спатканне з цудам творчасці можа стаць сам уваходны білет.**



# Выбары... народнага білета

Адкрыты конкурс на лепшы дызайн уваходнага білета ў Нацыянальны мастацкі музей Беларусі праводзіцца ў Мінску з 2005 года. Ладзіць яго музей разам са сваім генеральным партнёрам — замежным прыватным прадпрыемствам "Брытыш-Амерыкан Табака Трэйдынг Компані". Днямі ў нашай галоўнай скарбніцы выяўленчага мастацтва прайшла цырымонія ўрачыстага падвядзення вынікаў гэтага штогадовага творчага спаборніцтва, ужо сёмага па ліку.

Паводле традыцыі, госці цырымоніі мелі магчымасць азнаёміцца не толькі з новымі прэтэндэнтамі на перамогу, але і з тымі варыянтамі білета, што вызначаліся як лепшыя на папярэдніх конкурсах і ўводзіліся ва ўжытак у мінулыя сезоны. А ў размовах з арганізатарамі высветлілася, што конкурс, хоць і традыцыйны, быў, як заўсёды, непрадказальны. У розныя гады ў ім удзельнічалі работы і прадстаўнікоў Балгарыі, Польшчы, Расіі, Украіны. Гэтым разам апроч мінчан спаборнічалі аўтары з Гродна і Магілёва. Пазалетась на конкурс паступіла 44 эскізы, летась — 23, а год сёлетні атрымаўся самым ураджайным: увазе журы і наведвальнікаў музея было прапанавана 76 праектаў! Таму нічога дзіўнага, што ў "суддзяў" напярэдадні ўрачыстага падвядзення вынікаў была бяссонная ноч.

Сам конкурс можа камусьці падацца несур'ёзнай справай і выклікаць нараканні на тое, што ажыятаж вакол аднаразовага, надзеленага простай кантрольнай функцыяй, растыражаванага папяровага квітка ўсчынаецца такі, нібыта гаворка датычыць стварэння вялікай мастацкай работы. Аднак і для кіраўніцтва музея, і для спецыялістаў, якія працуюць у журы пад старшынствам дырэктара НММ Беларусі Уладзіміра Пракапцова, і для ЗПП "Брытыш-Амерыкан Табака Трэйдынг Компані" гэтая справа грунтоўная і сур'ёзная.

"У гэтым адкрытым конкурсе, які мы з прыемнасцю падтрымліваем ужо сёмы год запар, удзельнічаюць і прафесіяналы, і студэнты-мастакі, дызайнеры, і тыя, хто проста любіць і ведае мастацтва, — падкрэсліае начальнік аддзела па карпаратыўных сувязях ЗПП "Брытыш-Амерыкан Табака Трэйдынг Компані" Сяргей Буры. — Конкурс, паводле сутнасці, — народны, і ў выніку яго правядзення, можна сказаць, атрымліваецца своеасаблівы народны білет, мініяцюрны твор для масавага выкарыстання на працягу цэлага года, — білет, які хацелася б захаваць пасля наведвання экспазіцыі, які падабаецца і самому музею".

"Не ўсе разумеюць, што функцыя ўваходнага білета можа быць не толькі ў тым, каб даць магчымасць яго ўладальніку прайсці ў музей, — мяркуе член конкурснага журы, кандыдат філасофскіх навук, прафесар кафедры дызайну гуманітарнага факультэта БДУ Алег Чарнышоў. — Наш Нацыянальны мастацкі музей з'яўляецца асяродкам традыцыйнай, г.зн. фундаментальнай, культуры. І патрабавальнае стаўленне да дызайну ўваходнага білета, у якім павінна быць адлюстравана тое высокае пачуццё, што вы перажываеце, пабываўшы ў музеі, — адпавядае атмасферы, створанай у ім".

У адпаведнасці з умовамі конкурсу былі вызначаныя тры ўзнагароды: галоўны прыз (2 млн. беларускіх рублёў), прыз сімпатый гледачоў (1 млн. беларускіх рублёў) і прыз дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі (камплект мастацкіх выданняў). У выніку тайнага галасавання галоўны прыз атрымаў аўтар білета, прадстаўленага на конкурс пад нумарам 7, — Кірыла Скварцоў, 37-гадовы дызайнер з Мінска. Прыз сімпатый гледачоў упершыню давялося падзяліць, бо дзве вядучыя прэтэндэнткі на яго набралі аднолькавую колькасць балаў: такім чынам, студэнткі БНТУ Аліна Ліхадзіеўская ды Марыя Рудакоўская атрымалі па 500 тыс. беларускіх рублёў. Прыз дырэктара музея Уладзімір Пракапцоў уручыў Аксане Чэкет — маладой аўтарцы эскіза пад нумарам 52.

Уваходны білет новага дызайну паводле эскіза Кірылы Скварцова надрукуюць накладам 100 тыс. асобнікаў (столькі людзей наведвае Нацыянальны мастацкі музей Беларусі на працягу года), і, як мяркуецца, ужо восенню ён будзе ўведзены ва ўжытак замест цяперашняга. Работа сёлетняга пераможцы таксама ўпрыгожыць адмысловую картку, што ўручаецца vip-гасцям музея.

"За сем гадоў гэты конкурс зрабіўся адной з адметных падзей у жыцці сучаснага мастацтва нашай краіны, — перакананы Уладзімір Пракапцоў. — Разам з ростам узроўню работ, што на яго падаюцца, мы бачым і рост цікавасці да культурна-гістарычнай спадчыны Беларусі, да беларускага мастацтва ва ўсіх яго праявах — уключаючы і самыя сучасныя плыні, і багатае мінулае нацыянальнай культуры. Сёння цікавасць да мастацтва і наведванне музеяў сталі ў Беларусі натуральным элементам культурнага жыцця гараджан, у краіне адноўленыя дзясяткі гістарычных помнікаў, набылі новае жыццё сотні каштоўных экспанатаў. Мне асабліва прыемна адзначыць, што справа падтрымкі мастацтва робіцца ўсё больш прэстыжнай для кампаній, якія працуюць у Беларусі, у краіне адраджаюцца традыцыі мецэнацтва. Не сакрэт, што вялікую ролю тут адыграў канкрэтны прыклад нашага даўняга генеральнага партнёра — кампаніі "Брытыш-Амерыкан Табака", і мы ўдзячныя кампаніі за яе паслядоўнасць у гэтай справе".



*На здымках: так выглядае білет-пераможца; начальнік аддзела па карпаратыўных сувязях ЗПП "Брытыш-Амерыкан Табака Трэйдынг Компані" Сяргей Буры, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Уладзімір Пракапцоў і ўладальнік галоўнага прыза Кірыла Скварцоў падчас урачыстага падвядзення вынікаў конкурсу.*

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА

Да 9 мая ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь працуе выстаўка "Ван Дэйк і яго эпоха". Экспазіцыя прадстаўляе графічныя і жывапісныя партрэты XVII — XVIII стст. са збору Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея. Сталічныя аматары выяўленчага мастацтва атрымалі рэдкасную магчымасць угледзецца ў дасканалыя работы фламандскага майстра Антоніса ван Дэйка (1599 — 1641), чые гравюры і складаюць асноўную частку выстаўкі. Пераважна гэта партрэты са знакамітай серыі афортаў "Іканаграфія", якая мае высокую мастацкую і гістарычную каштоўнасць. Да стварэння "Іканаграфіі", апроч А. ван Дэйка, спрычыніліся Пітэр Паўль Рубенс, Ёган Каспар Фюслі, Ёган Купецкі, Жан Баціст Гроз ды іншыя еўрапейскія мастакі, чые вытанчаныя графічныя аркушы ўвайшлі ў экспазіцыю. Як адзначаюць спецыялісты, творчасць майстроў еўрапейскага партрэта XVII — XVIII стст. паўплывала на развіццё партрэтнага жанру ў Рэчы Паспалітай, у тым ліку і на беларускіх землях, пра што можна меркаваць па тых жывапісных партрэтах, якія дасталіся нам у спадчыну ад невядомых мастакоў XVIII стагоддзя.



Традыцыйныя міжнародныя дні мандалінна-гітарнай музыкі "Мандалінісіма" прайшлі ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

Іх удзельнікамі былі Маладзёжны мандалінна-гітарны аркестр Цюрынгіі (Германія), Ансамбль салістаў БДФ "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам У. Байдава, Мінскі мандалінны аркестр пад кіраўніцтвам Я. Валасюка, салісты з Германіі, Расіі, Францыі... Фэст "Мандалінісіма" набыў вялікую папулярнасць і ў спецыялістаў, і ў шырокай публікі. А мандаліна і гітара з некалі салонных інструментаў выйшлі на ўзровень сур'ёзнага канцэртнага выканальніцтва.

Монаспектакль "Пяюць начлежнікі" паводле твораў Змітрака Бядулі пакажа сёння ў Вялікай зале БДФ Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зніч". Аўтар інсцэніроўкі і выканаўца гэтай пастаноўкі, прэм'ера якой адбылася летась, — мастацкі кіраўнік тэатра Галіна Дзягілева, рэжысёр — Таццяна Пацай, мастацкае афармленне Ксеніі Бяляевай-Дзягілевай, касцюм створаны Нінай Гурло. У спектаклі выкарыстана музыка ў выкананні беларускіх гуртоў. У другім аддзяленні гэтага вечара, прысвечанага 125-годдзю з дня нараджэння Змітрака Бядулі, удзельнічае сын класіка айчыннай літаратуры — Яўхім Самуілавіч Плаўнік, які прадставіць музыкантаў ды іншых гасцей свята.




*На здымках: гравюра з выстаўкі "Ван Дэйк і яго эпоха"; фрагмент афішнага плаката "Пяюць начлежнікі".*



# Чароўнае падарожжа

**Музей сучаснаснага выяўленчага мастацтва ладзіў выстаўку "Падарожжа шамана". На ёй свае работы дэманстравалі выхаванцы Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў і члены моладзевай секцыі Беларускага саюза мастакоў Валерый Малахаў і Андрэй Ярашэвіч.**

Ідэйй твораў мастакоў з'яўлялася іх зацікаўленасць паганствам і сібіра-мангольскім шаманізмам. У графіцы, скульптурах і інсталяцыях яскрава выяўляліся элементы першабытнай культуры і традыцый таго часу.

Валерый Малахаў адлюстроўвае ў скульптуры і інсталяцыях выявы людзей, багоў і духаў, абрады, звязаныя з продкамі. Праз сваю творчасць ён спрабуе перадаць тую энергетыку і атмасферу, якая прысутнічала ў культуры шаманаў. Гэта чысціня і першароднасць, адсутнасць сацыяльнай залежнасці ў жыцці шамана, але поўная звязанасць з усім прыродным у чалавечым жыцці і целе.

Андрэй Ярашэвіч перадае сваё светаўспрыманне этнасу, а праз уплыў духоўна-філасофскага аспекту на старажытнае мастацтва ён выдае шэдэўры, якія прадставіў на выстаўцы "Падарожжа шамана".

Вечнае і сучаснае лаканічна сумяшчаюцца ў творах Валерыя Малахава і Андрэя Ярашэвіча. Пратарэлігійныя вобразы шаманізму дапамагаюць угледзець новае ў вечным і вечнае ў новым. Старажытныя элементы, уласцівыя ўсім чалавечым этапам развіцця і ўсім эпохам, перадаюцца ў модным напрамку.

Цяжкія металічныя фрагменты, веласіпедныя ланцугі і кавалкі жорсткага сплаву звіты ў атрыбуты шаманізму і чалавечыя постаці. Усе гэта вельмі блізка да роднаснага беларусу паганства. Арнаменты і жывёльныя вобразы, бразготкі, якія лічыліся збіральнікамі дэманічнага і боскага, містыфікуюць і зачароўваюць. Мастакі адлюстравалі асноўныя сімвалы розных культур, перадаючы цэласнасць традыцый.

Аляксандра ЛІЦВІНЧУК,
Марыя ЧАРВІНСКАЯ



**Мастак Яфім Мінін, вучань Ю. Пэна, нарадзіўся 8 кастрычніка 1894 года ў Віцебску.
13 лістапада 1937 года яму былі прад'яўленыя абвінавачванні ў тым, што ён з'яўляецца членам польскай контррэвалюцыйна-дыверсійнай паўстанцкай арганізацыі "ПОВ", а таксама ў правядзенні контррэвалюцыйнай работы — "распаўсюджванні правакацыйных чутак аб будучай вайне і гібелі савецкай улады" (архіў УКДБ Віцебскай вобл., № 4105).**



# «Класавая варожасць» Яфіма Мініна

Людміла НАЛІВАЙКА

Менавіта з пратакола допыту высветліліся многія факты біяграфіі Яфіма Мініна: "Пражываў у Віцебску да 1915 года, вучыўся спачатку ў гарадскім, а потым у камерцыйным вучылішчы. У 1915 г. паступіў у Пецярбургскі лясны інстытут, скончыў адзін курс і ў 1916 г. быў прызваны ў царскую армію, скончыў школу прапаршчыкаў і служыў да студзеня 1917 г. У 1919 г. быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію і служыў да 1922 г. Пачынаючы з 1922 г. працаваў мастаком да дня арышту". Жахлівым было завяршэнне "справы". Пастановай НКУС і пракурора СССР ад 19.11.1937 г. аднаму з вядучых беларускіх творцаў, мастакоў-адраджэнцаў 1920-х гадоў Яфіму Сямёнавічу Мініну была вызначана вышэйшая мера пакарання: расстрэл. Прысуд выкананы 29.12.1937 г. у Віцебску. Месца пахавання невядомае. У 1958 годзе Я. Мініна рэабілітавалі.

У 1920-я гады на творчасці Яфіма Мініна грунтаваліся шматлікія навуковыя даследаванні, аўтары якіх выносілі на шырокае абмеркаванне невераготныя вартасці яго мастацтва. Мінін вызначыўся як пачынальнік беларускай ксілаграфіі XX стагоддзя, заснавальнік беларускага экслібрыса XX стагоддзя — жанру графікі, звязанага з імёнамі вялікіх людзей эпохі Адраджэння. Творчая манера мастака характарызуецца тонкай прапрацоўкай дэталяў і вострай графічнай лініяй — "чорнай штрыхоўкай". Яму давялося ілюстраваць першыя выданні па беларускім народным мастацтве. У 1928-м наш таленавіты суайчыннік удзельнічаў у міжнароднай выстаўцы экслібрыса ў Лос-Анджалесе. Вядучымі мастацтвазнаўцамі Масквы і Ленінграда Я. Мінін быў адразу вызначаны як творца-ўніверсал у галіне ксілаграфіі. Пра гэта сведчаць артыкулы як беларускіх мастацтвазнаўцаў І. Фурмана, М. Шчакаціхіна, М. Каспяровіча, А. Шашалевіча, так і рускіх даследчыкаў беларускага мастацтва 1920-х гадоў: В. Воінава, У. Галербаха, С. Гарадзецкага. А ўжо ў наш час яго творы, якія знаходзяцца ў зборах Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Беларусі, Віцебскага мастацкага музея, у музеях і архівах Масквы, Кіева, Санкт-Пецярбурга, выклікалі ўвагу такіх спецыялістаў, як В. Шматаў, В. Церашчатава, П. Герасімовіч, Я. Ціхановіч, Г. Запартыка, А. Падліпскі ды некаторых іншых.

Вобразныя здабыткі сваіх графічных вырашэнняў у формах экслібрыса мастак затым пераносіў ва ўзоры серыі "Архітэктурныя помнікі драўлянага дойлідства Беларусі" (1927 — 1928). Тэма старажытнага Віцебска вабіла Я. Мініна з дзяцінства, бо дом яго бацькоў знаходзіўся ў межах старажытных гарадскіх муроў. Цікавіўся гісторыяй паходжання роднага горада, для хатняй бібліятэкі набываў найкаштоўныя выданні пра тэхнікі гравюры, майстроў ксілаграфіі; сам стаў добрым знаўцам друкарскай тэхналогіі Францішка Скарыны.



Работы Я. Мініна ўражваюць філасофскай глыбінёй. У творы "Чорная Тройца" мастак дасягае змястоўнага кантрасту паказам старога будынка, да якога вядзе вузкая сцяжынка. Купал сабора ўспрымаецца як дамінанта кампазіцыі, ідэя якой дапаўняецца прыдарожным крыжам і высокім дрэвам, супастаўленым з духоўнай узнёсласцю храма. У кампазіцыі "Драўляная царква на могілках" праз вобраз архітэктуры перадаецца нарастанне драматызму і трывожнага прадчування. Нібы пад ураганным ветрам тых неспакойных часоў моцна сагнуліся дрэвы, а сама царква рэзка схілілася ўлева. Толькі званіца яшчэ цвёрда трымаецца на сваім гістарычным падмурку. "Але ці доўга засталося трываць гэтым помнікам пад суровымі павевамі гісторыі?" — нібы высноўваецца маўклівае пытанне. Сапраўдны шэдэўр яго архітэктурнай графікі — "Успенская царква ў Віцебску". Кампазіцыя вырашаная ў авальнай форме дрэварыту з выкарыстаннем арыгінальнага ходу: від на Успенскую горку нібы адкрываецца з нейкага суседняга ўзвышша. Вельмі выразны фрагмент жылога будынка на пярэднім плане з характэрнымі кантрафорсамі для ўмацавання муроў ад магчымых паводак сведчыць пра гістарычны лёс горада, трываласць Віцебска як фарпоста беларускай культуры. Дзякуючы жывой лініі ствараецца ўражанне, што храм, як светлы вобраз архітэктурнай велічы, узносіцца над зямлёю. Авальная кампазіцыя выкарыстана і ў творы "Касцёл святога Антонія". На ўзгорку да храма нібы туляцца, як да асаблівага апірышча, маленькія домікі, утвараецца своеасаблівая непарушная сувязь архітэктурных форм свецкага і духоўнага характару. У гэтым — дух беларускай культуры ў цэлым і самога Віцебска, маляўнічасць якога перадаў мастак без саладжавасці і надуманасці.

Аналагічна ўспрымаецца і "Від Віцебска з боку Віцьбы", дзе старое дрэва на пярэднім плане сімвалізуе спрадвечнае жыццё горада, які рос на пагорках, старэў, дапаўняўся новымі будынкамі пад "аховай" вежаў сабораў св. Варвары і св. Антонія.



Аптымістычным і пранікнёным духам прасякнуты дрэварыт "Над Віцьбай" — фрагмент пагорка над рэчкаю, на якім утульна і шмат'ярусна месцяцца драўляныя хацінкі з белымі заснежанымі дахамі. Прытым мастак падкрэслівае, што ў такім свойскім асяроддзі і нарадзіўся многія наватарскія ідэі 1920-х гадоў, што надалі гораду вялікае культурнае значэнне. Менавіта ў такіх доміках жылі М. Шагал, А. Ахола-Вало і сам Я. Мінін, які, можна сказаць, адлюстраваў від з яго віцебскай кватэры, адкуль і пачыналася творчая дарога мастака. Рэдкім прыкладам літаграфіі ў творчасці Мініна-ксілографа стала кампазіцыя "Вялікі дом з купалам". Няма сумневу, што гэта — колішні культавы будынак з рысамі даўніх стагоддзяў, які мог быць ці сінагогай, ці кірхай, ці храмам іншай канфесіі. Мяккія літаграфскія штрыхі дазваляюць мастаку перадаць свае чулыя адносіны да помніка, да якога набліжае нас дарога з плотам-слупамі паабапал ды расчынена брамай наперадзе.

Адным з першых найвыдатных партрэтных вобразаў у яго ксілаграфіі з'яўляецца "Стары", з якога мастак планаваў распачаць серыю партрэтаў. Але і адной работы аказалася дастаткова, каб дасягнуць вялікай глыбіні пранікнення ў нацыянальны беларускі характар. (Невыпадкова, што гэты твор мастацтвазнаўцы параўноўваюць з аналагічным партрэтам старога ў спадчыне вялікага нямецкага мастака XVI стагоддзя Альбрэхта Дзюрэра.) Моц яго духу і неабмежаванага інтэлекту чытаецца ў кожнай рысе твару, у сканцэнтраваным і задуменным позірку. Пра што гэтак глыбока задумаўся беларускі мудрэц? Немагчыма адказаць адназначна, але несумненна, што "Стары" Я. Мініна яскрава і вобразна выказвае ўсе тыя праблемы, што ўжо адчуваліся мастаком у 1926 годзе і былі звязаныя з няпростымі для развіцця беларускай культуры палітычнымі абставінамі. У гэтым вобразе бачыцца герой многіх пакаленняў — зберагальнікаў традыцый, вучоных-даследчыкаў, якія адрадзілі Беларусь для XX стагоддзя. Ды гэтае стагоддзе не прынесла для беларускай культуры лёгкага развіцця, таму ў вачах старога нібыта сумяшчаюцца святло і цень: вера ў неўміручасць беларускай нацыі ды смутак прадчування цяжкіх яе выпрабаванняў. Але ніколі адчай, бязвер'е не запануюць у думках мысляра. Для светлай веры ў партрэце значна больш месца... Чалавек, які пажыў шмат і гэтак шмат пабачыў за свой век, пра што сведчыць высакародная сівізна, можа ўспрымацца прарокам, які прадбачыць і вельмі светлы час, да якога можна дайсці, але праз веру, надзею і цярплівасць.

Аднак ад сённяшніх мастацтвазнаўчых разваг вернемся да рэалій 1930-х гадоў, калі шчыравалі прадстаўнікі "вульгарнага сацыялагізму", як цяпер называюць тых крытыкаў, што былі кінутыя рэжымам цкаваць творцаў-адраджэнцаў. Цкаваць за імкненні выказаць свае адносіны да Адраджэння беларускай гісторыі, да лепшых прадстаўнікоў навукі, культуры і мастацтва, любоў да роднага краю і той спадчыны, што засталася ад продкаў. Вось асобныя выказванні А. Касцялянскага пра творы Я. Мініна: "У гравюрах Мініна "Цыкл вайны" адчуваецца ўплыў экспрэсіяніcцкай чырвонай групы Нямеччыны і ёсць небяспека рэмарківізму". ("ЛІМ", 15.12.1932.); "Сярод мастакоў БССР былі класава варожыя выступленні, як эксперыментаванні віцебскага мастака Мініна на V Усебеларускай выстаўцы экслібрысу для Віцебскага музею, у якім маецца яскравая ідэалізацыя панскага мінулага ў Беларусі". ("ЛіМ", 6.11.1933.). У 2007 г. на старонках газеты "Народнае слова" А. Падліпскім было прадстаўлена дасканалае даследаванне неабгрунтаваных прэтэнзій да творчасці Мініна з боку вядомага прадстаўніка крытыкі 1930-х В. Вольскага, які ў часопісе "Мастацтва і рэвалюцыя" (1933, № 1 — 2) пісаў: "У сваіх выдатных па мастацкай тэхніцы гравюрах Мінін выяўляў, галоўным чынам, аблічча старога Віцебска — касцёл св. Антонія і інш., выконваючы гэтым загады сваіх ідэйных натхняльнікаў — нацдэмаўскіх тэарэтыкаў мастацтва Шчакаціхіна, Каспяровіча і іншых".

Прайшло шмат часу, можна было б і забыцца пра жудасную сістэму сталінскага тэрору… Але трэба аддаць даніну пашаны апосталам нацыянальнай ідэі Я. Мініну, П. і Я. Даркевічам, Г. Змудзінскаму, Р. Семашкевічу, І. Гаўрысу, навукоўцам і мастацтвазнаўцам М. Шчакаціхіну, М. Каспяровічу, Д. Даўгялу, В. Ластоўскаму, І. Цвікевічу ды іншым, хто не мог здрадзіць ідэалам 1920-х. Яны так магутна перажылі тыя гістарычныя часіны, так глыбока ўдыхнулі паветра творчай свабоды, што не маглі зрабіцца прыстасаванцамі і адцурацца ад сваіх шчырых памкненняў.

***На здымках: Яфім Мінін (фота 1920-х), яго экслібрысы і ксілаграфія "Над Віцьбай" (1926).***

## Слова краязнаўцы



**Мікола Багадзяж, гісторык і пісьменнік разважае пра тое, як краязнаўства дапамагае пазбаўляцца “белых плям” у гісторыі:**

— Доўгі час статусы краязнаўцаў і гісторыкаў былі рознымі. Гісторыкі — прафесіяналы, якія рухаюць наперад вялікую навуку. Праўда, краязнаўцы не з’яўляліся даследчыкамі толькі гісторыі свайго куточка. Яны збіралі паданні і легенды, песні і казкі, займаліся даследаваннямі моўных асаблівасцей рэгіёна. А таксама вывучалі прыроду краю, тапаніміку, склад насельніцтва рэгіёна. І з гэтага пункта гледжання сфера іх цікавасці была больш шырокай, чым у гісторыкаў.

Сёння ж краязнаўства і наогул узнялося. Паспрыяла гэтаму атрыманне Беларуссю статусу незалежнай дзяржавы і заканамерны зварот пасля гэтага да глыбіннага вывучэння нацыянальнай самабытнасці, культуры і гісторыі. У гісторыкаў аказалася безліч спраў. Шмат дзе даследчыкі ішлі па цаліне. Шмат якія звесткі аказаліся страчанымі. Гісторыя нашай дзяржавы — асабліва ў тым, што датычыць біяграфічных звестак пра тых ці іншых не герояў — аказалася спрэс пакрытая “белымі плямамі”. І тут нечакана прыйшлі на дапамогу краязнаўства і краязнаўцы. Сабраныя імі легенды і паданні, быліны і сказанні, як высветлілася, цудоўна дапаўняюць летапісныя і хранікальныя дадзеныя. І сапраўды, што б мы рабілі, пішучы пра таго ж Усяслава Чарадзея, калі б не мелі пад рукою быліну “Волх Усяслаў”? А дадзеныя ж, што прыводзяцца ў ёй, яшчэ да канца і не вывучаны! Што б ведалі мы пра князя Тура акрамя таго, што быў ён братам Рагвалода, каб не цэлы цыкл бліскучых палескіх паданняў?

Ці то вось яшчэ прыклад. Ёсць у рускіх летапісах цьмянае такое, надта падазронае паведамленне пра бітву славян з татарамі пад Крутагор’ем і пра хана Койдана, які быў там разбіты. Гісторыкі былі ўсумніліся: ці не блытаніна якая выйшла? Але быў такі татарскі набег на нашу радзіму. І пра тое сведчаць паданні, сабраныя руплівымі даследчыкамі ў розных гарадах і вёсках басейна Прыпяці. І, складзеныя адно да аднаго, дазваляюць яны ў агульных рысах адрадзіць шлях Койдана і яго паплечніка хана Гуюка, якія спалілі Столін, падышлі да Пінска і былі разбіты аб’яднаным войскам палешукоў.

Кажуць, што легенды і паданні — гэта “ізусны” летапіс народа. Пэўна, так яно і ёсць. Таму цяжка сёння знайсці гістарычную працу, прысвечаную Беларускаму сярэдневеччу, дзе б не прыгадваліся факты, пачэрпнутыя з прац краязнаўцаў.

## Музейны ўнікат

# Прыгоды рэліквіярыкаў

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

**Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры прадстаўляе сваім наведвальнікам унікальны, дагэтуль невядомы экспанат: рэліквіярыкі Ганны Багушэвіч, сястры Францішка Багушэвіча, аднаго з пачынальнікаў новай эпохі ў беларускім прыгожым пісьменстве.**



У святле вывучэння жыцця і творчасці Багушэвіча з’яўленне ў калекцыі такіх экспанатаў бачыцца невыпадковай з’явай. З аднаго боку, у мінулым годзе літаратурная грамадскасць урачыста адзначыла 170-годдзе з дня нараджэння пісьменніка. Сёлета спаўняецца 120 гадоў з часу выхаду яго легендарнага зборніка “Дудка беларуская”. З другога боку, у біяграфіі творцы па-ранейшаму хапае “белых плям”.

Як вядома, будучы пісьменнік з’яўляўся адным з удзельнікаў паўстання 1863 года, пасля якога быў вымушаны надоўга пакінуць Беларусь. Ганна Багушэвіч, якая таксама ўдзельнічала ў вызваленчай барацьбе, у адрозненне ад брата, была арыштаваная. Яе заключылі ў турму, куды дзяўчына ўзяла з сабой самаробныя рэліквіярыкі — некалькі медальёнаў, унутры якіх знаходзіліся мошчы святых. Пасля, ужо праз гады, рэліквіярыкі перайшлі па спадчыне да яе дачкі Марыі, якая ўзяла шлюб з Янкам Тарчэўскім. Іх сын, таксама Янка, з’ехаў пасля Вялікай Айчыннай вайны ў Польшчу. Ён жыў пад Шчэцінам, дзе і знаходзіліся каштоўнасці.

У 1980-я гады Тарчэўскі пазнаёміўся з Уладзімірам Содалем, вядучым беларускім даследчыкам творчасці Ф. Багушэвіча. Завязалася ліставанне. У 1987 годзе стрыечны ўнук пісьменніка даслаў у Мінск фотаздымкі рэліквіярыкаў, а ў пачатку 1990-х гадоў перадаў іх асабіста У. Содалю са спадзяваннем у далейшым убачыць іх сярод экспанатаў музея. Даследчык пэўны час захоўваў экспанаты ў сябе, а потым перадаў іх у Чырвоны касцёл ксяндзу Уладзіславу Завальнюку. Апошні ў знак удзячнасці паспрыяў выданню кнігі У. Содаля “Святы той куточак фальварак Свіраны”, прысвечанай месцу нараджэння Ф. Багушэвіча.

Між тым сярод супрацоўнікаў музея гісторыі беларускай літаратуры расла ўпэўненасць у мэтазгоднасці захоўвання рэліквіярыкаў у музеі (дом Ф. Багушэвіча ў Кушлянах з’яўляецца філіялам установы). Тым больш у гэтым павінна была рэалізавацца воля сваякоў пісьменніка. Таму ў мінулым годзе прадстаўнікі ўстановы звярнуліся з афіцыйным лістом да ксяндза Завальнюка. Ён пайшоў насустрач і перадаў рэліквіярыкі ў музей.

Знаходка сямейнай рэліквіі роду Багушэвічаў з’яўляецца не адзіным поспехам даследчыкаў. Так, параўнальна нядаўна Алесь Жамойцін, загадчык літаратурна-мемарыяльнага музея Ф. Багушэвіча ў вёсцы Кушляны, знайшоў на двары сядзібы чыгунную пліту, якая выкарыстоўвалася гаспадарамі ў якасці сонечнага гадзінніка. Хутка ў Кушляны вернуцца і рэліквіярыкі, захаваныя для нашчадкаў дзякуючы клопатам Янкі Тарчэўскага, Уладзіміра Содаля і ксяндза Завальнюка. Пакуль жа каштоўнасці экспануюцца ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры.

# Аблогі

Уладзімір ЦІШУРОЎ

Сёння пра такую мясціну, як Аблогі на Кругляншчыне, найперш пачуеш з вуснаў старажылаў. Назва мясціны — выдатны арыенцір для вяскоўцаў. “Дзе грыбы збіраў?” — спытае вясковец у другога, а той адкажа: “Ды за Аблогамі”. Той, хто спытаў, адразу ўяўляе названую мясціну: высокі пасляваенны хвойнік, за ім меліярацыйны канал, прылюджаны луг, выраўнены тымі ж меліяратарамі. Лугавая паласа пад назвай Аблогі мае глебы трох якасцей — тарфяністую, падзолістую і супесь. Раней, да прыкладу, у 1960-я на Аблогах пасвілася некалькі статкаў кароў, калгасных і свойскіх.

За Аблогамі ўзвышаўся і цяпер узвышаецца змешаны лес. Ёсць там свае лясныя дрэўныя мікрараёны, да прыкладу, вольхаў, сасны і вельмі зацемненага хвойніку. На краі заабложанага лесу, які завецца Ляснянскі, на пачатку восені запальваюцца цёмна-ружовыя зоркі кветак верасу.

З правага боку за Аблогамі высіцца Ляснянскі лес, з левага, за каналам, узвышаецца пасляваенны бярэзнік. Раней, як казалі старыя, тут стаяў Герасімаў хутар. Зразумела, што стаяў толькі да калектывізацыі, якая пачалася ў 1929 годзе. Кожны хутаранін жадаў мець як мага больш ворыўнай зямлі, сенажацяў. Мусіць, і Герасім няеж паспрабаваў узараць гэтую падзолістую паласу зямлі блізу Ляснянскага лесу. Зразумела, на такой глебе высокага ўраджаю не атрымаеш. З прычыны малой урадлівасці Герасім рашыў адцурацца гэтае паласы. Залужыў зямлю (так кажуць сяляне пра такі пераходны працэс у землекарыстанні), зрабіў лугам. Тубыльцы слова луг вымаўляюць “лог”. Такое вымаўленне і лягло ў назву мясціны — Аблогі.

## Беларускія прыватныя гербы

# Знакі годнасці і гонару



*Герб “Знін”*



*Герб “Леварт”*



*Герб “Прус”*

### Герб “Знін”

Гербам карысталіся: Аўгустовіч, Аўгутовіч, Банькоўскі, Барташэвіч, Барычэўскі, Бянткоўскі, Бярнацкі, Бетыгольскі, Ганевіч, Германовіч, Гірын, Дзядровіч, Кунцэвіч, Ланткевіч, Лістападскі, Ляўшэвіч, Некраш, Пашакінскі, Прымульскі, Пяткевіч, Тарашкевіч, Трускоўскі, Шчэрба, Ясінскі.

### Герб “Леварт”

Гербам карысталіся: Бранеўскі, Вайткевіч, Дуброўскі, Граф, Княжышча, Крупскі, Левандоўскі, Лявінскі, Такарскі, Тычына, Фірлей, Эверт, Эверцкі.

### Герб “Прус”

Гербам карысталіся: Анджаеўскі, Арлоў, Аттовіч-Валоўскі, Баброўскі, Бавар, Багуслаўскі, Бадзяноўскі, Барэвіч-Прус, Гасцевіч, Гасцёвіч, Гаўцэвіч, Главацкі, Грыбоўскі, Давэйка, Данілевіч-Прус, Дарошка, Залескі-Хамянтоўскі, Крыжэвіч, Ланткевіч-Прус, Лісіцкі, Лункевіч, Малахоўскі, Міткевіч, Міхалевіч-Прус, Мразоўскі, Мразеўскі, Нарубовіч, Невядомскі, Неліковіч, Неліповіч, Немчыновіч, Нядзінскі, Пельгрымоўскі, Петрулевіч, Пікель, Піятроўскі, Поль, Прышкевіч, Пурышка, Пурышкевіч, Пшаўлоцкі, Рапейка, Рудзінскі, Свентахоўскі, Стрункевіч, Стульгінскі, Сядлецкі, Сянкевіч, Сяўрымовіч, Федаровіч, Яжоўскі, Язерскі, Янкевіч.

### Герб “Сарвікаптур”

Гербам карысталіся: Каспяровіч, Падбіпента, Палупента, Цінкевіч, Цішкевіч, Цяшкоўскі.

### Герб “Пакора”

Гербам карысталіся: Галімунтовіч,Ківілеўскі, Кянстовіч, Ламановіч, Палянскі, Пунтус.

### Герб “Рак”

Гербам карысталіся: Гнаінскі, Закрэцкі, Зарэцкі, Кулей-Жаўняроўскі, Рак, Рапацкі, Цвірка.



*Герб “Сарвікаптур”*



*Герб “Пакора”*



*Герб “Рак”*

# Узвышаўскія чытанні

Чэслава ПАЛУЯН

Да 10 мая прымаюцца заяўкі на ўдзел у XI Узвышаўскіх чытаннях, што пройдуць 26 мая ў Мінску, у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Падчас канферэнцыі плануюцца для абмеркавання два тэматычныя кірункі: эпоха “Узвышша” як феномен культурнага ўздыму; літаратура выгнання: пошукі крыніц і сучаснае асэнсаванне.

Заяўкі на ўдзел з указаннем тэмы, прозвішча, навуковай ступені, пасады, месца працы аўтара і адрасам арганізатары просяць дасылаць на адрас: **БДАМЛіМ, вул. Кірыла і Мяфодзія, 4, 220030, Мінск, альбо на электронны адрас: bdamlim@tut.by**

Літаратура і мастацтва № 17 29 красавіка 2011 г.





# Генерал Свабоды

**27 кастрычніка 1796 года ў Мармуровым замку графа Арлова з самай раніцы ўзнялася мітусня. Чакалі прыбыцця імператара Паўла I. Атрымаўшы прастол пасля смерці маці сваёй, самаўладнай Кацярыны II, усяго 10 дзён таму, новы правіцель Расіі адразу ж пажадаў сустрэцца з вязнем Мармуровага замка. Вось ужо два гады тут жыў пад аховай генерал-паўстанец Касцюшка. Калі імператар у атачэнні світы пераступіў ганак пакоя, у якім трымалі Касцюшку, той нават не ўзняў галавы.**

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,**
**Мікола БАГАДЗЯЖ**

— Вы можаце атрымаць волю, калі прысягнеце мне, — сказаў пасля доўгага маўчання імператар.

Палонны генерал павольна ўзняў вочы на Паўла I.

— Дайце волю ўсім звязненым маім паплечнікам, і я прысягну.

Цяпер замоўк імператар.

— Я паважаю вас і ўмею цаніць высакароднасць, — вымавіў ён нарэшце. — Вашы паплечнікі выйдуць на свабоду адначасова з вамі…

12 снежня 1796 года быў падпісаны ўказ аб вызваленні 20 тысяч палонных паўстанцаў, у тым ліку 14 тысяч — з Сібіры. Гэта была чарговая перамога Андрэя Тадэвуша Касцюшкі, чалавека, якога называлі Генералам Свабоды.

Ён нарадзіўся 4 лютага 1746 года ў маёнтку Сехнавічы Кобрынскага павета. Прадстаўнік старажытнага беларускага шляхецкага роду. Юнак марыў стаць ваенным інжынерам. І мара яго здзейснілася. Пасля заканчэння Рыцарскай школы кадэтаў у Варшаве стараннямі дырэктара гэтай установы і князя А. Чартарыйскага Андрэй Тадэвуш атрымаў стыпендыю для пяцігадовага навучання ў Парыжы. Гэтак сын збяднелага шляхціца капітан Касцюшка трапіў у ваенную школу Мэрсер пры Луўры.

Поўны светлых мар і спадзяванняў, вярнуўся ён праз пяць гадоў на радзіму. І мог адразу ж атрымаць месца ў Корпусе артылерыі, але патрэбны былі сродкі, каб гэтую пасаду выкупіць. Іх не аказалася. Давялося асесці ў Сехнавічах і бавіць час, даючы ўрокі малявання дочкам суседа, гетмана польнага Юзафа Сасноўскага. Урокі гэтыя скончыліся тады, калі высветлілася, што настаўнік закахаўся ў адну са сваіх вучаніц, Людвісю, і дзяўчына адказвала яму ўзаемнасцю. Сасноўскі не пажадаў такога шлюбу, маладыя спрабавалі збегчы і абвянчацца таемна, але іх намеры былі выкрыты. Над Касцюшкам навісла пагроза суда. За такое "злачынства", як выкраданне нявесты, ён мог быць нават пакараны смерцю. Таму Андрэй Тадэвуш мусіў у 1775 годзе бегчы за мяжу. Спачатку ў Парыж, пасля ў Амерыку — дапамагаць барацьбітам за незалежнасць.

Ён быў залічаны ў амерыканскую армію ў жніўні 1776 года. Адразу палкоўнікам, бо прафесійных ваенных тут было мала. Аднак камандаванне хутка высветліла, што Касцюшка яшчэ больш карысны спецыяліст, чым ім бачылася спачатку. Ваенны інжынер! Сярод учарашніх фермераў і звычайных гараджан! Яго неадкладна далучылі да прац па ўзвядзенні ўмацаванняў на рацэ Дэлавэр. Касцюшка сам спраектаваў іх, а пасля кіраваў будаўніцтвам. Гэтыя ўмацаванні прыкрывалі Філадэльфію, якая на той час была сталіцай паўстанцаў. Андрэем Тадэвушам быў распрацаваны і праект тыповага форта, прыстасаванага да прыродных умоў Амерыкі. Такія форты атрымалі пазней шырокае распаўсюджанне ў ЗША.

Касцюшкам зацікавіўся сам Джордж Вашынгтон, прызначыў сваім ад'ютантам і ўзвёў у чын інжынера-палкоўніка. Вясной 1777 года наш зямляк быў накіраваны ў форт Цікандэрога, які быў апорным пунктам амерыканцаў на поўначы штата Нью-Ёрк, пад камандаванне генерала Гарацыа Гейтса і маркіза Лафайета галоўным інжынерам Паўночнай арміі. Даручэнне было надта адказным. З Канады наступалі моцныя англійскія войскі. Калі б спецыяльна створаная для стрымання іх Паўночная армія амерыканцаў не вытрымала ўдару, зыход вайны быў бы вырашаны. Трэба было ўзвесці фартыфікацыйныя ўмацаванні, прычым у кароткі тэрмін. Касцюшка агледзеў мясцовасць і вырашыў, што паўстанцкая армія мусіць замацавацца ў горадзе Саратога на рацэ Гудзон. Восенню англічане прыйшлі пад Саратогу. Тут адбылася бітва, якая ўвайшла ў гісторыю як першая значная перамога амерыканцаў у вызваленчай вайне. 17 кастрычніка англійскі генерал Джон Бургойн капітуляваў. У палон здаліся 6 тысяч англічан.

Пасля гэтай перамогі Касцюшку ўжо лічаць амерыканскім героем. Вашынгтон давярае Андрэю Тадэвушу, якога называе сваім сябрам, будаўніцтва цвержы Вест-Пойнт. Тут плануецца размясціць штаб амерыканскай арміі. Праект, прапанаваны Касцюшкам, быў адобраны адразу ж. Цытадэль, чатыры форты і сем рэдутаў — нічога лішняга, і пры ўсім гэтым — гарантаваная непрыступнасць. Два з паловай гады вялося будаўніцтва. Вест-Пойнт паўстала самай магутнай і самай вялікай крэпасцю Амерыкі.

Як толькі ваенны аб'ект быў здадзены, Андрэй Тадэвуш атрымаў новае прызначэнне. Яго накіравалі галоўным інжынерам Паўднёвай арміі генерала Натаніэля Горна. Палкоўнік Касцюшка правёў цяжкую аперацыю супраць англійскага генерала Чарльза Карнуолеса. Двойчы давялося яму ратаваць амерыканскія войскі, своечасова наладзіўшы пераправы праз рэкі. Пазней Андрэй Тадэвуш прымаў удзел у асадзе горада Чарльстона ў Караліне, апошняга аплоту англічан, якія капітулявалі ў канцы 1782 года.

У 1783 годзе Кангрэс за заслугі перад амерыканскім народам прысвойвае Касцюшку званне генерала і ўручае найвышэйшую ўзнагароду краіны — ордэн Цынцыната. Андрэю Тадэвушу кажуць, што Амерыка можа стаць яго другой Айчынай. Зямельны надзел, пажыццёвая пенсія, асабістая дружба з Вашынгтонам, Джэферсанам, Горнам. Што яшчэ патрэбна! Але Касцюшка невылечна хворы. І імя гэтай славянскай хваробе — настальгія.

У 1784 годзе генерал Касцюшка вярнуўся на радзіму, дзе яго амерыканскія заслугі нічога не важылі, і толькі праз вялікія намаганні дабіўся кіраўніцтва дывізіяй, расквартараванай на поўдні Брэсцкага ваяводства.

3 мая 1791 года Чатырохгадовы Сойм зацвердзіў Канстытуцыю Рэчы Паспалітай. Складальнікаў Канстытуцыі натхнялі падзеі, якія якраз у гэты час адбываліся ў Францыі. А там была рэвалюцыя, усенародны ўздым, адмена саслоўных адрозненняў. Аднак прыхільнікі Канстытуцыі забыліся пра тое, што іх краіна мае вялікую залежнасць ад суседняй Расійскай імперыі. Імператрыца Кацярына II была раз'юшаная. Ці не скончыцца ў Рэчы Паспалітай усё рэвалюцыяй, як у Францыі? І чым можа пагражаць рэвалюцыйная рэспубліка, што апынецца на мяжы з пакорлівай толькі да пэўнага моманту манархічнай Расіяй?

Праз дыпламатаў і паслоў манархіня падтрымала ў Рэчы Паспалітай памочнікаў. Расійскія грошы аб'ядналі незадаволеных Канстытуцыяй магнатаў Рэчы Паспалітай у Таргавіцкую Канфедэрацыю. Канфедэраты афіцыйна звярнуліся да Кацярыны з просьбай увесці войскі і "ўратаваць" іх краіну. І тады яна накіравала на Рэч Паспалітую статысячную армію. Амаль адначасова поўнач Польшчы акупіравалі войскі караля Прускага.

У такой нялёгкай сітуацыі генерал Касцюшка вырашыў да канца заставацца на баку прыхільнікаў Канстытуцыі. Аднак нішто ўжо не магло ўратаваць дзяржаву. Пасля першых жа паражэнняў свайго войска кароль Рэчы Паспалітай Панятоўскі паспешліва заявіў… пра свой пераход на бок таргавіцкіх канфедэратаў. Сойм ён распускае, Канстытуцыю адмяняе.

Касцюшка разам з шэрагам іншых афіцэраў 30 ліпеня 1792 года дэманстратыўна падае прашэнне аб адстаўцы. І неўзабаве апынаецца за мяжой, у Лейпцыгу. Тут ён перажывае новае ўзрушэнне — другі падзел Рэчы Паспалітай (першы адбыўся ў 1772 годзе). Генерал Свабоды Касцюшка пачынае збіраць сілы дзеля змагання. Спадзяванні на дапамогу рэвалюцыйнай Францыі аказаліся марнымі. Дзейнічаць давялося ў адзіночку. Паўстанне пачалося ў Кракаве 23 сакавіка 1794 года. Кіраўніком урачыста абвясцілі Касцюшку. Праз некалькі дзён адбылася і першая бітва. Пад Рацлавіцамі былі разбіты рускія войскі генерала Тармасава. Хто б мог падумаць, перамога гэтая здабыта шмат у чым дзякуючы атацы ўзброеных косамі сялян на пазіцыі артылерыі! Траіх самых бясстрашных з іх Касцюшка неадкладна прызначыў афіцэрамі.

Праз два тыдні пасля першай пераможнай бітвы вызвалена Варшава. Колькасць паўстанцаў павялічвалася на вачах. Сярод прадстаўнікоў розных слаёў шляхты цяпер было нямала сялян-касінераў. Гэтаму садзейнічаў выдадзены Касцюшкам "Маніфест", паводле якога ўдзельнікі паўстання вызваляліся ад прыгону.

Неўзабаве полымя паўстання перакінулася на Літву і Беларусь. 22 красавіка вызвалена Вільня. Потым — Гродна, Ваўкавыск, Навагрудак, Пінск. Аднак супраць паўстанцаў былі кінуты надта вялікія сілы. Расія і Прусія аб'ядналі свае арміі. У барацьбу на іх баку ўступіла Аўстрыя.

10 кастрычніка 1794 года пад вёскай Мацеевічы корпус, якім кіраваў Касцюшка, сутрасцца ў войску генерала Ферзена. Бітва пачалася раніцай. У сярэдзіне дня Андрэй Тадэвуш зразумеў, што праціўнік перамагае з-за перавагі ў сілах. Урэшце паўстанцы пабеглі. Пад генералам Касцюшкам забілі каня. Не жадаючы патрапіць у палон, ён спрабаваў застрэліцца. Але пісталет даў асечку. І тады на паўстанцкага генерала наляцелі казакі…

> *Касцюшка быў залічаны ў амерыканскую армію ў жніўні 1776 года. Адразу палкоўнікам, бо прафесійных ваенных тут было мала. Аднак камандаванне хутка высветліла, што Андрэй Тадэвуш яшчэ больш карысны спецыяліст, чым ім бачылася спачатку. Ваенны інжынер! Сярод учарашніх фермераў і звычайных гараджан! Яго неадкладна далучылі да прац па ўзвядзенні ўмацаванняў на рацэ Дэлавэр. Касцюшка сам спраектаваў іх, а пасля кіраваў будаўніцтвам. Гэтыя ўмацаванні прыкрывалі Філадэльфію, якая на той час была сталіцай паўстанцаў.*

Чатыры колатыя раненні пікай, сур'ёзная агнястрэльная рана ў бядро, але самая небяспечная — у галаву. Гусарскі карнет, што прыйшоў на дапамогу казакам, ударыў Касцюшку палашом. Але ён быў усё яшчэ жывы…

Непрытомнага кіраўніка паўстанцаў пад чужым імем, таемна, па начах везлі праз усю Беларусь у Санкт-Пецярбург. 10 снежня 1794 года апоўначы Генерал Свабоды быў дастаўлены ў Петрапаўлаўскую крэпасць. Толькі там ён апрытомнеў. І адразу ж патрапіў на допыт. Яму паведамілі пра канчатковае падаўленне паўстання і патрабавалі назваць імёны ўсіх кіраўнікоў. Следства цікавіла таксама, ці не пагражае Расіі вайна з рэвалюцыйнай Францыяй? Касцюшка маўчаў. Калі яму прыгразілі смерцю, ён адмовіўся прымаць ежу. Тады генерала-паўстанца спешна перавялі ў Мармуровы палац і прыставілі да яго ўрача. У палоне Касцюшка даведаўся пра трэці і канчатковы падзел яго краіны паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй. Рэч Паспалітая перастала існаваць.

Вызваліўшы Касцюшку, пераемнік Кацярыны II, імператар Павел I, хацеў падарыць яму маёнтак з тысячай душ сялян. Андрэй Тадэвуш ад такога падарунка адмовіўся. Ён не жадаў заставацца ў Расіі.

У жніўні 1797 года ён зноў ступіў на прычал Філадэльфіі. І амерыканцы — знаёмыя і зусім незнаёмыя — са слязьмі радасці кінуліся да свайго героя. Мясцовая газета ў тыя дні напісала: "Такога гонару тут не ўдастойваўся ніводзін прэзідэнт". Усе думалі, што Андрэй Тадэвуш застанецца ў Амерыцы назаўжды. Аднак у маі 1798 года ён раптам пачаў збірацца ў дарогу. Толькі віцэ-прэзідэнту Джэферсану Касцюшка растлумачыў, што едзе ў Францыю, дзе з эмігрантаў Рэчы Паспалітай ужо фарміруюць легіёны для французскай арміі. Консул Напалеон Банапарт абяцае ім, што Рэч Паспалітая будзе адноўлена.

Аднак у Парыжы Касцюшку чакалі толькі расчараванні. Напалеон не збіраўся насамрэч змагацца за аднаўленне Рэчы Паспалітай. "Польскія легіёны" ён выкарыстоўваў у самых небяспечных аперацыях у іншых краінах. А пасля таго, як у 1799 годзе Банапарт абвясціў сябе імператарам, Касцюшка адкрыта назваў яго магільшчыкам рэспублікі.

Паражэнне Напалеона ў вайне 1812 года адрадзіла было спадзяванні Андрэя Тадэвуша на аднаўленне Рэчы Паспалітай. Няхай бы і пад пратэктаратам Расіі. Тым больш што расійскі імператар Аляксандр I нечакана прапанаваў Генералу Свабоды перайсці да яго на службу. Касцюшка напісаў рускаму манарху пісьмо, у якім паведаміў пра ўмовы яго супрацоўніцтва: амністыя для ўсіх тых палякаў і ліцвінаў, хто ўдзельнічаў у вайне на баку Напалеона; вызваленне ад прыгоннай залежнасці для салдат; вызваленне ад прыгнёту на працягу дзесяці гадоў сялян; стварэнне па ўсёй Расійскай імперыі сялянскіх школ. Касцюшка прапанаваў таксама Аляксандру I каранавацца на прастол Рэчы Паспалітай і гэткім чынам адрадзіць яе.

Аляксандру Касцюшка быў патрэбны як сведчанне яго цярпімасці і ліберальнасці. Імператар згадзіўся на амністыю. Паводле рашэння Венскага кангрэса частка тых тэрыторый Польшчы, якія былі захоплены Прусіяй і Аўстрыяй, адышла да Расіі. На гэтых землях Аляксандр утварыў Каралеўства Польскае. Ён сапраўды каранаваўся польскай каронай. І хаця гэтая дзяржава ніяк не магла сапернічаць з некалі магутнай і вялікай Рэччу Паспалітай, усё ж гэта была перамога.

Калі стары генерал Касцюшка зразумеў, што больш Аляксандр нічога прагрэсіўнага не зробіць, ён, спаслаўшыся на ўзрост, пакінуў царскую службу. Апошнія два гады жыцця правёў у Швейцарыі, у горадзе Салюрне, з сям'ёй сваіх сяброў Цэльтнэраў. Навучаў іх дачку, сваю хрэсніцу Эмілі, розным навукам. Тут яго ўсе ведалі і любілі. А мясцовая бедната літаральна малілася на яго. Бо стары генерал заўжды гатовы быў пакласці ў працягнутую руку манетку.

Ён памёр 15 кастрычніка 1817 года, аплаканы ўсёй прагрэсіўнай грамадскасцю Еўропы. Будучы прэзідэнт ЗША Г. Грант ушанаваў яго памяць у Кангрэсе словамі: "Касцюшка — пакутнік свабоды… Слава яго будзе жыць да тых часоў, пакуль свабода ўладарыць над светам".

А пасля Джэферсан прачытаў завяшчанне героя: "***…Сваю амерыканскую маёмасць перадаю майму сябру Томасу Джэферсану, каб ён поўнасцю выкарыстаў яе на выкуп неграў… і на дараванне ім свабоды ад майго імя…***"

# Чаго нам не пазбегнуць

**Першы мінскі міжнародны дзіцячы тэатральны форум “Крокі” прайшоўся па сталіцы.**

*Жана ЛАШКЕВІЧ*

**Уплыў “экранных мастацтваў”, асабліва серыяльных і “ў рэжыме рэальнага часу”, яшчэ гадоў дваццаць таму спарадзіў прафесійныя спрэчкі ў тэатральным асяроддзі. На пытанне рубам: “Як пазбыцца згубнага тэлевізійнага ўплыву?” адказвалі не жартам: “Хіба што перасяліцца ў тэатр”. І знайшліся-такі ідэалісты...**



Мінская тэатральная школа № 1 літаральна жыве ў тэатры — Новым драматычным. З першага дня ўтварэння ў 2003 годзе. Вядома, дзеці навучаюцца, іграюць і глядзяць рэпертуарныя спектаклі; у спектаклях для раўналеткаў час-почас бяруць удзел. З гэтае нагоды старэйшыя цытуюць праўдзівую выснову пра тое, што “для дзяцей трэба працаваць так, як для дарослых, — толькі лепш”. А для сябе? Самім для сябе як працаваць?

Тры дні на новае пытанне рубам адказваў дзіцячы тэатральны форум “Крокі”, утвораны Новым тэатрам і тэатральнай школай: дзеці працавалі для дзяцей. Беларусы распавядалі “Праўдзівую гісторыю пра Марыю і Пушка” Б. Мар, тэатральная школа-студыя з Кіева ўвасабляла “Малітвы тых, хто не моліцца” Я. Корчака, дзіцячы музычны тэатр “Арфей” з Бранска шукаў “Крыштальны туфлік” Ш. Перо, Каўнаскі дзіцячы і маладзёжны тэатр “Вілколакіс” даў паспытаць салодка-салёную гісторыю “Друскіле” С. Іванаўскайтэ: чатыры конкурсныя спектаклі. Чатыры тэатральныя школы чатырох краін — паводле гаспадара форуму, “вартыя і непазбежна патрэбныя адна адной”. А гаспадаром мінчукі вывелі на сцэну... Ігната Буйніцкага ў выкананні Ігара Падлівальчава. Зухаваты, дасціпны і апантаны дзядзька Ігнат увасобіў існыя памкненні тых, хто “гуляе ў тэатр з дзяцінства”: творчую несупакоенасць, прагу дасканаласці, адметную годнасць і незалежнасць.

Першы спектакль форуму зрабіўся насамрэч першым у прафесійным спаборніцтве: “Праўдзівая гісторыя пра Марыю і Пушка” (паводле літоўскай актрысы і пісьменніцы Бірутэ Мар), якую ўвасобілі рэжысёры-педагогі Віргінія Тарнаўскайтэ і Антаніна Міхальцова. Гісторыя пра тое, што жывы навакольны свет поўны цудаў, якія можна сустракаць альбо адчуваць: старэйшая сястра, летуценніца Марыя, бачыць свайго анёлка-ахоўніка на імя Пушок і часта-часта з ім размаўляе. Пад яе ўплывам малодшая падшыванка Аўдра вучыцца бачыць, успрымаць, цярпець, чакаць... А разам з анёлкам дзеці здатныя выхоўваць сабе бацькоў!

У спектаклі няма звыклай інтрыгі, але ёсць шэраг значных падзей, якія мусяць годна пражыць персанажы. Ступень годнасці (пераканаўчасці) залежыць ад выканаўцы. Якраз пераканаўчасцю ў ролі Аўдры ўразіла журы Лера Сакалова (прыз за лепшую жаночую ролю), а натуральнасцю і голасам — Даша Валадзько ў ролі Спяваючага Анёла. (Магчыма, каб удасканаліць спектакль, варта аддаць бацькоўскія ролі старэйшым акцёрам?..) Спектакль назвалі першым і за выбар літаратуры, і за драматургічны эксперымент, і за творчую працу з выканаўцамі, якія цярпліва чакалі ў чарзе, каб... захоплена павіснуць на шыі ў Віргініі Тарнаўскайтэ... І віснулі. Кожны са сваім адмысловым пажаданнем, сакрэтна шаптаным на вуха педагогу.



Дзіцячыя тэатры трэба ствараць хоць бы й таму, што яны адцягваюць дзяцей ад усяго, ад чаго трэба адцягваць сучасных дзяцей. Калі гэта ставіць найпершай мэтай, дык узорны “Арфей” з Бранска яе дасягнуў. Дзеці рухаліся, спявалі, танчылі, і па ўсім было відаць, колькі моцы і часу спатрэбілася для такой спанатранасці! Але мастацкая ідэя сцэнічнага твора, падтрыманая рэжысурай, надала гэтым адметным высілкам шараговае сціпласці...

Акцёр з Літвы Паўлюс Кавалюнас атрымаў прыз за лепшую мужчынскую ролю, дакладней, адразу за дзве — двух Каралёў (чалавечага і павучынага) у спектаклі “Друскіле”, своеасаблівай дзіцячай версіі “Караля Ліра”, дзе малодшая дачка вяртае бацьку, ператворанаму ў павука, чалавечае аблічча з дапамогай... солі. Каўнасцы ўразілі сцэнічнай культурай, харэаграфіяй і пластыкай Лігіты Віршулітэ, а таксама сцэнаграфіяй Рэгіны Лабазавене. Выхаваўчыя матывы ўласнай п’есы Стасе Іванаўскайтэ прыхавала. Як рэжысёр-педагог яна вылучыла пераўтварэнні персанажаў (з людзей у насельнікаў павучынага каралеўства) і падкрэсліла, што яны абумоўленыя ўнутранымі (чалавечымі) якасцямі. І часам варта паспытаць “прыемнасцей” жывёльнага аблічча, каб выявіць уласнае чалавечае...

Высокімі літаратурнымі запатрабаваннямі здзівілі і ўкраінцы з Дзяржаўнай тэатральнай школы-студыі Галасееўскага раёна Кіева. Знаны драматург Аляксандр Ірванец пераклаў для іх “Малітвы тых, хто не моліцца” Януша Корчака — таемныя маналогі, якія вынікаюць з глыбіні душы як споведзь самому сабе і ўдзячнасць Богу за паразуменне. Дзейных асоб шмат. Па тым, як яны падымаліся на сцэну і ўслухоўваліся ў сцэнічную прастору, можна было меркаваць пра задачы педагогаў Анатоля Суханава і Тамары Шастаковай. Спектакль статычны, разлічаны на моцнае ўнутранае пражыванне, якому навучыцца нялёгка, але вучыцца трэба. Як і годнаму валоданню родным словам. Выхаванцы школы-студыі з Кіева паставілі сабе высокія мэты і як мага ўзнялі ліштву патрабаванняў да саміх сябе, адказна спавядаючы тэатр... як лад жыцця. Настолькі, што... “тэатра ім не пазбегнуць” , — як дасціпна прагучала ў абмеркаваннях.

...Мяркуючы па тым, што для дзяцей трэба працаваць усё лепш і лепш, па колькасці і якасці нашых веснавых тэатральных фестываляў, а яшчэ па іх зацікаўленых (ідэальных?) гледачах, тэатра нам не пазбегнуць. Напраўду.

***На здымках: у Новым драматычным тэатры — “Крокі”.***

# Фестываль. Самы той

*Жана ЛАШКЕВІЧ*

Адмысловыя пластычныя відовішчы, сучасны балет, танец бута, тэатральныя імпрэзы на гарадскім пляцы і нават драматычныя спектаклі (у выкананні юнакоў і дзяўчат школьнага ўзросту) паабяцаў “Той самы фестываль”, а менавіта — Першы міжнародны фестываль эксперыментальных тэатраў, які днямі прайшоў у Мінску. Паабяцаў — і захапіў аж сем сцэнічных пляцовак сталіцы. Праграма ўключала васямнаццаць спектакляў і бескаштоўныя заняткі па розных тэхніках сучаснага выканання. Граць і навучаць, граць і навучацца мусілі амаль паўтары сотні удзельнікаў. А калі нароўні з удзельнікамі кантактная імправізацыя альбо драматургія пляцавага відовішча захапляла і гледачоў... Яны далучаліся да заняткаў — з сябрамі, знаёмымі і журналістамі... Адметна. Лепшага і чакаць няможна.

Відавочна, у дзяржаўных структурах фестываль ухвалілі. Але на афіцыйным узроўні пакуль што не падтрымалі. Таму для адмысловае ўрачыстаці адкрыцця арганізатары тэрмінова шукалі... скутар з добрым кіроўцам, “імклівым, як думка і прыгожым, як Апалон”, а для замежных гасцей з сямі краін — прыстойнае жытло. За пяць фестывальных дзён удзельнікі перазнаёміліся і паразумеліся прафесійна, не шкадуючы досведу, здабытага ў змаганні за сучасныя тэатральныя кірункі, і, пэўна, пасябравалі з арганізатарамі — тэатрам-студыяй “Ронд”, Беларускай дзяржаўнай акадэміяй мастацтваў, Муніцыпальнай установай па культуры з Бона (Германія) і Цэнтрам беларускай драматургіі і рэжысуры.

Беларускі бок у сваёй пластычна-харэаграфічнай прaяве выглядаў разнастайным, дасведчаным і ўжо ганараваным у розны час разнастайнымі фэстамі сучасных кірункаў: тэатр “ІнЖэст” на чале з Вячаславам Іназемцавым, Тэатр сучаснай харэаграфіі “D.O.Z.SK.I.” з Вольгай Скварцовай-Кавальскай і Дзмітрыем Залескім, Яўген Карняг і ягоны КарнягТэатр, а таксама тэатр танца “Каракули” (перакладаецца як “Крымзолі”). Наймаладзейшыя ўдзельнікі з драматычнымі спектаклямі — тэатр-студыя “Ронд” і “Клас А” гімназіі № 74 — маюць адметных рэжысёраў-педагогаў у абліччах Ірыны Маркавай і Таццяны Шылавай. Дадамо, што беларускія крытыкі і журналісты пэўна ж не пакінуць “Той самы фестываль” без абмеркаванняў ды водгукаў. І зробяць агульную выснову кшталту: “Фестываль? Самы той”.

# Як размясціць мозг у соцыуме?

**На эксперыментальнай сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа прайшлі чарговыя сцэнічныя чытанні “Школьны тэатр-15”.**

*Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ*

Фестываль школьных тэатраў, які штогод вясной ладзіцца ў Віцебску, — унікальная з’ява для нашай краіны. Па-першае, сёлетні фестываль быў пятнаццаты па ліку. Такіх тэатральных форумаў-доўгажыхароў і сярод прафесійных, міжнародных фэстаў у Беларусі набярэцца столькі, што пяці пальцаў на руцэ будзе зашмат, каб іх пералічваць. А пра дзіцячыя ўвогуле казаць няма чаго: іншых фестываляў, якія б гэтак жа сістэматычна і паслядоўна на належным узроўні аб’ядноўвалі дзіцячыя аматарскія калектывы, у нас, на жаль, не праводзіцца. Варта адзначыць, што асноўная ўмова “доўгажыхарства” — асабістая зацікаўленасць чытаннямі загадчыцы літаратурнай часткі Коласаўскага тэатра Святланы Дашкевіч, якая пятнаццаць гадоў застаецца нязменным арганізатарам фестывалю, і рэжысёра чытанняў, заслужанага артыста Беларусі Вячаслава Грушова. Другая прычына ўнікальнасці — выкарыстанне выключна беларускай літаратуры для стварэння спектакляў. І ў гэтым годзе РВУ “Літаратура і Мастацтва” спрычынілася да папулярызацыі беларускамоўных твораў сярод школьнікаў, зацвердзіўшы спецыяльныя прызы для калектываў — зборнікі сучаснай беларускай падлеткавай прозы “Дзікі голуб”.

Дарэчы, пра вызначэнне пераможцаў і прызы: “Школьныя чытанні” адметныя яшчэ і тым, што вердыкт на іх выносіць прафесійнае журы, у якое ўваходзяць рэжысёры, артысты, тэатразнаўцы, педагогі. Сёлета на сцэнічных чытаннях журы ўзначаліла доктар мастацтвазнаўства, прафесар Таццяна Катовіч. Прагледзеўшы работы адзінаццаці калектываў, прафесійныя гледачы прынялі рашэнне: Гран-пры атрымаў тэатр гімназіі № 2 г. Віцебска за пастаноўку ўрыўка з рамана Алега Лойкі “Францыск Скарына, або Сонца маладзіковае” (рэжысёр — настаўніца беларускай мовы і літаратуры Эла Петрачэнка).

Пяць хлапцоў у касцюмах, пры гальштуках ля пяці крэслаў. У манеры сучаснага еўрапейскага тэатра — аскетычна ва ўсім (рухі, выяўленне эмоцый, сцэнаграфія), акрамя непасрэдна тэксту, — стварыўшы гэтак званы грамадзянскі хор, распавядаюць пра зняволенне Францыска Скарыны.

“Спектакль можна разглядаць не толькі як факт біяграфіі Скарыны, — зазначыла Таццяна Катовіч. — Гэта факт біяграфіі нашага мінулага ўвогуле: факт біяграфіі Якуба Коласа, які сядзеў у астрозе, факт біяграфіі акадэміка Сахарава, Салжаніцына. Калі творчы чалавек трапляе ў стан няволі, калі на яго ўзвялі паклёп, калі чалавек не можа рухацца ў стане ўнутранай клаўстрафобіі, што адбываецца з ім? Што адбываецца з ім, калі кайданы здымаюць?”

Таццяна Катовіч таксама звярнула ўвагу на даўнія традыцыі школьных тэатраў у Беларусі, што бяруць пачатак з часоў езуіцкіх калегіумаў, і адзначыла іх неабходнасць для сучаснага грамадства: “Тэатр — гэта сур’ёзная школа для таго, хто выбірае публічную прафесію. І ў сучасным жыцці менавіта гэта з’яўляецца прыярытэтным, а не тое, што дзеці вырастуць выхаванымі гледачамі ці прафесійна зоймуцца тэатрам. Зусім не абавязкова. А вось уменню размясціць сваё цела ў пласторы і мозг у соцыуме аматарскі тэатр абавязкова навучыць усіх з дзіцячага ўзросту”.



**Даніэль Дэфо (Defoe Daniel, 1661 — 1731) — найбольш яркі прадстаўнік англійскага Асветніцтва. З яго імем звязана ўзнікненне еўрапейскай прыгодніцкай літаратуры. Д. Дэфо быў адным з прафесійных журналістаў і заснавальнікам у 1704 годзе газеты “The Review”.**

# Рабінзон эпохі Асветніцтва

**Іван САВЕРЧАНКА,**
**доктар філалагічных навук**

Нарадзіўся Д. Дэфо ў Лондане, у сям'і камерсанта, атрымаў бліскучую адукацыю. Доўгі час займаўся прадпрымальніцтвам, якое паспяхова спалучаў з палітычнай дзейнасцю і вострымі публіцыстычнымі выступленнямі.

Першы значны літаратурны твор і адначасна сацыяльна-філасофскі трактат Д. Дэфо — “Эсэ аб праектах” (An Essay upon Projects, 1697), у якім ён абгрунтаваў пільную патрэбу ўнармавання літаратурнай мовы, прапанаваў шляхі ўдасканалення банкаўскай сістэмы, паказаў грамадскую неабходнасць заснавання акадэміі, развіцця адукацыі для жанчын, акрэсліў напрамкі рэфармавання дзяржаўных інстытутаў.

Наступны значны твор Д. Дэфо — “Чыстакроўны англічанін” (1701). У паэтычнай форме пісьменнік высмейвае ганарлівасць арыстакратаў, на прыкладах з гісторыі адкідвае неабгрунтаванасць прэтэнзій брытанскай знаці на сацыяльную выключнасць.

На працягу жыцця Д. Дэфо напісаў некалькі раманаў: “Рабінзон Крузо” (1719 — 1721), “Капітан Сінглтан” (1720), “Мемуары кавалера” (1720), “Моль Флэндэрс” (1722), “Палкоўнік Джэк” (1722), “Раксана” (1724).

Вяршыннай праявай творчасці Д. Дэфо справядліва лічыцца раман “Рабінзон Крузо” (The Life and Strange Surprising Adventures of Robinson Crusoe), які прынёс аўтару сусветную славу.

Кампазіцыйна-структурная будова рамана неаднародная. Твор складаецца з трох частак. Першая частка — ад'езд галоўнага героя Рабінзона Крузо з дому, падарожжа ў Афрыку, цяжкі палон і ўцёкі з яго, жыццё ў Бразіліі. Другая, найбольш удалая ў літаратурна-мастацкім плане, прысвечана жыццю Рабінзона Крузо на бязлюдным востраве. Трэцяя — камерцыйнае падарожжа героя ў Індыю, Кітай і Сібір.

Д. Дэфо — бліскучы расказчык. Аповед у рамане вядзецца ад імя галоўнага героя. Дзеянні разгортваюцца пераважна ў храналагічнай паслядоўнасці. Пісьменнік дакладна ўказвае дату пачатку свайго падарожжа — 1 верасня 1659 года. Адметнай праявай мастацкага часу ў творы з'яўляецца ўвядзенне календара Рабінзона — у выглядзе засечак на дрэве, якімі герой абазначаў буднія дні, нядзелі і месяцы, пачынаючы ад 30 верасня 1659 года. У дзявятым раздзеле рамана пісьменнік звяртаецца да формы дзённіка як асаблівага кампазіцыйнага прыёму, які дазваляў яму яшчэ раз нагадаць прыгоды героя. Зрэдчас пісьменнік адмаўляўся ад дзённікавай дакладнасці і карыстаўся агульнай фіксацыяй часу, напрыклад: “Мінула яшчэ некалькі месяцаў” або “прайшло два гады з таго моманту”. Аўтар таксама фіксуе месяцы геаграфічнага знаходжання героя ў пэўныя моманты. Такім чынам, Д. Дэфо ўмела эксперыментаваў з мастацкім часам, шукаў найбольш прыдатныя яго формы.

Пісьменнік пабудаваў захапляльны сюжэт з прыгодамі і нечаканымі здарэннямі. Прыгодніцкая дамінанта рамана выявілася ў нечаканых паваротах, геройчных учынках персанажа і драматычных сцэнах. Падзеі часам змяняюцца з калейдаскапічнай хуткасцю. Прыгодніцкі стрыжань відавочна стаўся найбольш прыдатным для ўвасаблення творчай задумы аўтара.

Раман Д. Дэфо “Рабінзон Крузо” — выключна алегарычны твор. Аўтар абраў мастацка-сімвалічную форму, каб выкласці ўласную *філасофію гісторыі*, паказаць асноўныя этапы станаўлення цывілізацыі, у спрэсаваным выглядзе раскрыць складаную эвалюцыю чалавецтва ад першабытнага ладу да Новага часу.

Незлічоныя прыгоды і актыўная дзейнасць галоўнага героя рамана — *Рабінзона Крузо* — мастацкая ілюстрацыя шматлікіх бар'ераў і перашкод, вялікай колькасці праблем, з якімі людзі сутыкаліся на працягу тысячагоддзяў і якія яны няспынна вырашалі і пераадольвалі, каб выжыць і прадоўжыць чалавечы род.

На прыкладзе канкрэтнага героя Д. Дэфо паказаў, што чалавек мусіў прарабіць тытанічную працу, здзейсніць тысячы розных адкрыццяў і вынаходніцтваў, каб ад збіральніцтва і простага палявання дасягнуць цывілізаванага ўзроўню жыцця. У мастацка-сімвалічнай форме пісьменнік раскрыў найбольш значныя адкрыцці чалавецтва. Так, чалавеку спатрэбіліся неверагодныя высілкі і майстэрства, каб вырабіць неабходныя прылады для палявання, апрацаваць дрэва, узвесці жыллё, падрыхтаваць глебу і вырасціць ураджай, прыручыць дзікіх жывёл, навучыцца апрацоўваць скуру, гатаваць хлеб, аваладаць рамяством шыцця адзення і абутку, выраблаць побытавыя прылады з гліны. Аўтар паказаў, колькі неверагодных высілкаў і няўдалых спроб давялося зрабіць людзям дзеля дасягнення пастаўленай мэты. Чалавек мусіў аваладаць больш як сотняй рамёстваў і прафесій, набыць неабходныя навыкі, умельства і спрыт.

Аўтар звяртае ўвагу на неспатольную прагу людзей да падарожжаў, спатканні з незнаёмым, пазнання новага свету і знаёмства з іншымі людзьмі. Асаблівым сімвалічным сэнсам у творы напоўнена сцэна сустрэчы Рабінзона з Пятніцам. Іх дачыненні — гэта яркі мастацкі вобраз гістарычнага спаткання еўрапейскіх перасяленцаў з індзейцамі.



Галоўны персанаж рамана — Рабінзон Крузо — пастаўлены пісьменнікам у надзвычайныя абставіны. Герой выяўляе выключную вынаходлівасць, пераадольвае ўсе складанасці, спраўляецца з цяжкасцямі. Пісьменнік засяроджваецца на працэсах вырабу героем шматлікіх прылад працы і побытавых рэчаў, пабудовы ім жылля і гаспадарчых збудаванняў.

Д. Дэфо паказаў Рабінзона Крузо ў розных сітуацыях, зрабіў акцэнт на зменах яго эмацыйнага стану і пачуццяў. Так, калі герой вызваляецца з палону, ён перажывае надзвычайны ўздым і невымоўную радасць. Пісьменнік раскрыў унутраныя перажыванні героя, яго дэпрэсію, роспач і адчай, калі ён усвядоміў, што апынуўся на бязлюдным востраве. Д. Дэфо яскрава апісвае жах Рабінзона падчас моцнай навальніцы: ад маланкі мог выбухнуць порах.

Майстар слова неаднаразова паказваў незвычайную ўсхваляванасць і радасць героя, калі той вырашаў чарговую няпростую задачу. Так, калі закалясіліся сцяблінкі выпадкова рассыпанага ім ячменю і рысу, Рабінзон быў на сёмым небе ад шчасця. Пісьменнік акцэнтаваў увагу на шматлікіх паляўнічых прыгодах Рабінзона, назіраннях за дзікімі жывёламі і птушкамі, асаблівасцях прыгатавання ежы. Як выдатны майстар партрэта Д. Дэфо падрабязна перадае знешні выгляд героя, яго целасклад, колер скуры, вочы, вусны, рукі. Асаблівы прадмет пісьменніцкай увагі — вопратка Рабінзона. На яго галаве — шапка з казлінага футра, камзол да каленяў, штаны са скуры старога казла, скураная перавязь цераз плячо.

На старонках рамана пісьменнік стварыў мноства яркіх *сцэн*, вельмі відовішчных і каларытных. Ён выяўляў надзвычайную ўважлівасць да дэталяў, разнастайных дробязей і нюансаў. Вельмі красамоўная сцэна пабудовы героем плыта для дастаўкі правізіі з пашкоджанага карабля, у якой пісьменнік фіксуе кожны крок героя. Таксама надзвычай дэталізаваны працэс перавозкі рэчаў на бераг, іх карпатлівая расфасоўка, асабліва пораху. Адна з цэнтральных сцэн рамана — узвядзенне Рабінзонам жылля на бязлюдным востраве. Пісьменнік фіксуе паслядоўнасць дзеянняў героя, кожную дэталь і кожны элемент будаўнічага працэсу.

Д. Дэфо — выдатны *пісьменнік-пейзажыст*. Цэнтральнае месца на старонках рамана займаюць апісанні акіянаў і мораў, а таксама экзатычных экватарыяльных мясцін. Пейзажныя замалёўкі шчыльна знітаваны з мастацкай логікай разгортвання сюжэта. Асабліва каларытна ў творы перададзены шторм і бура на моры. Вельмі рэалістычны ў рамане малюнак землятрусу. Герой адчувае тры моцныя штуршкі, зямля пачынае жудасна хадзіць пад нагамі, вяршыня скалы з неверагодным грукатам падае ў мора. Узнікае ўражанне апакаліпсісу.

Адна з улюбёных тэм — сезон дажджоў. Майстра слова маляўніча і каларытна апісвае частыя дажджы, якія ўплывалі на стан героя. З дакладнасцю батаніка пісьменнік распавядае ў творы пра рэдкія расліны і дрэвы — какосавыя пальмы, апельсінавыя і лімонныя дрэвы, цукровы трыснёг, альяс, кажа пра іх уласцівасці, прыдатнасць для ўжывання ў ежы ці выкарыстання ў гаспадарцы. Вельмі часта Д. Дэфо падаваў падрабязныя звесткі пра дзікіх звяроў і экзатычных птушак, падкрэсліваў іх біялагічныя адметнасці.

Такім чынам, творчасць Д. Дэфо — яркая з'ява літаратуры эпохі Асветніцтва, унікальны мастацка-эстэтычны феномен і, бадай, найбольш удалы прыклад увасаблення значных філасофскіх ідэй у літаратурна-мастацкай форме, з захапляльным сюжэтам, рэалістычнымі сцэнамі і малюнкамі.

Д. Дэфо ўмела скарыстоўваў мастацкія дасягненні папярэдніх эпох і эстэтычных стыляў, арганічна сінтэзаваў аб'ёмнасць Антычнасці, манументальнасць Готыкі, інтэлектуалізм і гуманістычную разняволенасць Рэнесансу, стракатасць і дэкаратыўную квяцістасць Барока.

У творах Д. Дэфо вельмі выразна відаць і праявы новага стылю — сентыменталізму. Сведчаннем таму з'яўляюцца надзвычайная пачуццёвасць галоўнага героя Рабінзона Крузо ў дачыненнях з бацькамі, сардэчнасць і адкрытасць з капітанам карабля, што дапамог яму вызваліцца з рабства, чуллівы клопат пра свайго спадарожніка Пятніцу, старанны дагляд падстрэленага дзікага казляняці.

Абапіраючыся на творчы досвед папярэднікаў, Д. Дэфо значна ўзбагаціў англійскую і сусветную літаратуры ўласнымі мастацкімі знаходкамі і адкрыццямі, заклаў трывалы падмурак развіцця прыгодніцкага жанру, умела сінтэзаваў філасофскі і літаратурны дыскурсы.

Удала выбраная мастацкая форма, у якой арганічна спалучаліся элементы сенсацыйнасці, дэтэктыўнасці і рэпартажу, заслужана прынесла Даніэлю Дэфо сусветную славу і несмяротнасць.



## Любіла вёску, бацькоўскі дом...

17 сакавіка 2011 г. у сваёй роднай вёсцы Гусакі, што на Нясвіжчыне, адышла ў вечнасць Аляксандра Мікалаеўна Гесь — вядомы гісторык-архівіст. Яна любіла вёску, бацькоўскі дом, землякоў. Пры першай магчымасці пакідала тлумны Мінск і ехала ў Гусакі. Яна шанавала матчыну мову, землякам у падарунак прывозіла беларускі адрыўны каляндар і беларускія кнігі. Яе бацька загінуў у Вялікую Айчынную вайну на фронце. Аляксандра зведала паваенную нішчымніцу, вучылася ў педвучылішчы, працавала настаўніцай пачатковых класаў у Столінскім раёне.

Вельмі любіла кнігу, нават паступала на бібліятэчны факультэт педінстытута, каб і першай чытаць кнігі. Але паступіла на гістарычны факультэт БДУ. З цеплынёю ўспамінала пра Лаўрэна Абэцэдарскага, які быў навуковым кіраўніком яе курсавой працы па гісторыі Клецкай бітвы. За працу, напісаную па-беларуску, яна атрымала “выдатна”.

Атрымаўшы дыплом выкладчыка гісторыі, працавала настаўніцай, намеснікам дырэктара, з 1970 г. — дырэктар сярэдняй школы ў вёсцы Мядзведзічы Ляхавіцкага раёна, у тых самых Мядзведзічах, дзе ў 1919 г. таксама настаўніцай працавала знакамітая Паўліна Мядзёлка. Аляксандра Мікалаеўна была выдатным педагогам-гісторыкам: сярод яе вучняў у Сямігосцічах быў Аляксей Літвін, а ў Мядзведзічах — Анатоль Жытко. Яны сталі дактарамі гістарычных навук, прафесарамі. У 1975 г. Аляксандра Мікалаеўна прыехала ў Мінск і стала навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, затым працавала ў Беларускім навукова-даследчым інстытуце дакументазнаўства і архіўнай справы, Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі.

Была адным са складальнікаў шматлікіх зборнікаў дакументаў і матэрыялаў, у тым ліку “К. Каліноўскі. З друкаванай і рукапіснай спадчыны”, “Антон Луцкевіч: матэрыялы следчай справы НКУС Беларусі”, “Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакументах і ўспамінах”, “1 студзеня 1919 г. Часовы рабочасялянскі савецкі ўрад Беларусі”, дакументальнай часткі 9-га тома Поўнага збору твораў Янкі Купалы. Дзякуючы руплівай працы з унікальнымі дакументамі Нацыянальнага архіва, выдатна ведала беларускую эпапею 20 — 30-х гадоў мінулага стагоддзя, вярнула з нябыту шмат светлых імёнаў. Увяла ў навуковы абыходак невядомыя архіўныя дакументы пра жыццё і дзейнасць Янкі Купалы, Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх, Усевалада Ігнатоўскага, Язэпа Лёсіка, Уладзіміра Пічэты, Уладзіміра Тэраўскага, Міколы Каспяровіча, выступала на навуковых канферэнцыях, актыўна друкавалася ў перыядычных выданнях. На жаль, сабраць артыкулы ў асобную сваю кніжку Аляксандра Мікалаеўна не паспела.

**Віталь СКАЛАБАН**

**Галіна СУША,**
**член Беларускага саюза майстроў народнай творчасці**

# Брама скарбаў Ларысы Лось

**Царская брама — двухстворкавыя дзверы ў цэнтры іканастаса насупраць алтара, галоўная брама іканастаса ў храме. Яна вядзе ў алтар храма і сімвалізуе вароты ў рай.**

Царскія брамы з саломкі — гэта выключна беларускі твор мастацтва. Іх няма ні ў адной краіне свету, нават у суседніх Расіі і Украіне. І калі б не музейныя экспедыцыі, якія актыўна праводзіліся ў сярэдзіне мінулага стагоддзя, магчыма, не было б ужо і ў нас. Навукоўцы, даследчыкі знайшлі і зафіксавалі гэтыя ўнікальныя творы народнага мастацтва.

Цяпер толькі дзве аўтэнтычныя саламяныя царскія брамы захоўваюцца ў музеях: у філіяле Нацыянальнага мастацкага музея ў Раўбічах — Царская брама, знойдзеная ў 1956 годзе ў в. Лемяшэвічы Пінскага раёна Брэсцкай вобласці, і Вавуліцкая Царская брама, якая знаходзіцца ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі.

Саломка — не надта трывалы матэрыял, і невядома, колькі яшчэ змогуць захоўваца арыгіналы. І выдатна, што праводзіцца рэстаўрацыя і ствараюцца дакладныя копіі гэтых цудоўных твораў народнага мастацтва. Такой складанай і адказнай працай займаецца народны майстар Беларусі, мастачка Ларыса Лось.

Ларыса Лось вучылася ў Мінскім мастацкім вучылішчы на адным курсе з Леанідам Шчамялёвым, Маем Данцыгам, Георгіем Паплаўскім. Народны мастак Беларусі Віталь Цвірка, яе настаўнік, прадказваў ёй добрую будучыню "жывапісца ў прыкладным мастацтве". Лёс склаўся так, што заўчасна памёр муж, засталася з трыма дзеткамі. Працавала ў арцелі 3-й пяцігодкі, распісвала хусткі, сцягі, купоны. А потым гэтая арцель ператварылася ў Мінскую мастацкую скургалантарэйную фабрыку, што была ў раёне Камсамольскага возера. Там Ларыса Мікалаеўна працавала галоўным мастаком. Па сумяшчальніцтве ў Палацы піянераў вяла гурток саломапляцення. Яшчэ пэўны час была мастаком газеты "Зорька".

У канцы 1960-х гадоў Ларыса Лось пачала распрацоўваць сувеніры з саломкі. Першымі сувенірамі былі саламяныя лялькі. Каб вывучыць асаблівасці вырабу традыцыйнай беларускай саламянай цацкі, Ларыса Мікалаеўна ездзіла ў этнаграфічныя экспедыцыі па Беларусі, сустракалася з сельскімі жыхарамі, выпытвала ў іх сакрэты народнага рамяства.

Самымі знакавымі работамі Ларысы Лось з'яўляюцца рэканструкцыя Царскай брамы.

***Як правіла, у храме на Царскай браме намаляваны чатыры евангелісты і Звеставанне — як знак таго, што брама Раю зноў стала адкрытаю для людзей. З правага боку Царскай брамы звычайна малюецца абраз, якому прысвечаны храм.***

Царскія брамы зазвычай выраблялся з дрэва. Знакамітая беларуская полая разьба з пазалотаю была выканана беларускімі разьбярамі і ўпрыгожыла іканастас маскоўскага Крамля і іншыя расійскія храмы. Па традыцыі брама аздаблялася золатам і каштоўнымі каменьчыкамі, але тры стагоддзі таму беларускія майстрыхі замянілі разьбяную пазалоту Царскай брамы карункавым пляценнем з саломкі, а замест каштоўных уставак выкарыстоўвалі кавалачкі чырвоных і сініх лапікаў тканіны — менавіта з гэтых колераў складалася гама беларускага народнага адзення. Мастацкія творы з саломкі — гэта, можна сказаць, адмысловы брэнд Беларусі. На ўсіх міжнародных выстаўках, калі трэба прадставіць краіну, абавязкова экспануюцца вырабы з саломкі. У многіх еўрапейскіх краінах працуюць майстры, якія плятуць з гэтага прыроднага матэрыялу сувеніры, але толькі ў нас майстэрства саломапляцення ўзнялося на такі ўзровень, калі работы майстроў выстаўляюцца ў галоўным мастацкім музеі краіны. Не так даўно нашы майстры зрабілі нават саламяную мітру для Уладыкі Філарэта. Такую ж мітру падарылі падчас візіту ў Беларусь патрыярху Алексію. Глядзяцца яны не горш, чым залатыя.

***Царская брама мае вялікае сімвалічнае значэнне ў праваслаўным набажэнстве. Назва "Царская брама", ці "Святая брама", звязана з тым, што праз яе ўваходзіць Цар Славы Бог Ісус Хрыстос у Святых Дарунках і сыходзіць імі падчас прычашчэння парафіян. Падчас набажэнства ў Царскую браму не можа ўваходзіць ніхто, акрамя святароў.***

На жаль, саломка — матэрыял не вечны, з часам Царская брама цямнела, пакрывалася пылам і воскам, страчвала бляск. Каб уратаваць гэтыя ўнікальныя творы старадаўняга беларускага рамяства, Ларыса Лось у 1976 годзе была накіравана ў Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей, дзе працавала над рэстаўрацыяй Царскай брамы з Барысаглебскага манастыра. Разам з дачкой Аленай аднавілі Царскія брамы з палескіх вёсак Лемяшэвічы і Вавулічы.

Дакладнае аднаўленне, вяртанне з нябыту вялося вельмі складана. Ларыса Мікалаеўна ўспамінае:

— Далі мне рэстаўраваць гэтую Царскую браму, скручаную, вяроўкай перавязаную, асабліва Лемяшэвіцкая была разбураная. Нам выдзелілі месца ў музеі, мы асцярожна вычысцілі, зрабілі копію. Ва ўсіх брамах больш за ўсё былі разбураныя і рассыпаліся злучэнні элементаў, якія былі сшыты льнянымі ніткамі. Дрэнная захаванасць брамы дазваляла аднаўляць штодня толькі невялікія фрагменты. Саломку чысцілі вавёркавым пэндзлікам і растворам дзіцячага мыла, затым размочвалі, расплаталі, выдаляючы сапсаваныя ўчасткі і вывучаючы тэхналогію. Усе пляцёнкі выконваліся, як і ў арыгіналах, на лазовых дубчыках. Ад нас патрабаваўся ідэнтычны паўтор тэхналогіі і кампазіцыі. Вавуліцкая Царская брама была ў лепшым стане. Мы з дачкой яе прамывалі, чысцілі ад пылу, воску, сажы. Толькі вычысцім, а яна рассыпаецца, трушчыцца. Калі я зрабіла гэта ўсё з нашай залатой саломкі, то мастакі, супрацоўнікі музея збегліся паглядзець.

***Некалі, як лічаць, Царскай брамай называліся наогул дзверы ў царкву. Але, відаць, гэта было ў часы, калі тыя, хто стаяў у царкве, у большай ступені маглі называцца царственным святарствам, народам святым, абранымі часткай Бога на зямлі. Цяпер мы як быццам стаім звонку. Царская брама толькі зрэдку адкрываецца для нас...***

Шматгадовая праца мастака і майстра атрымала належную ацэнку: у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адбылася прэзентацыя 30-тысячнага экспаната музея. Ім стала Царская брама, выкананая ў тэхніцы саломапляцення народным майстрам Ларысай Лось. Гэта дакладная копія Царскай брамы пачатку XIX стагоддзя з вёскі Лемяшэвічы.

Доктар мастацтвазнаўства, старшыня Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Яўген Сахута падчас прэс-канферэнцыі з нагоды прэзентацыі 30-тысячнага экспаната музея адзначыў, што ні ў адной краіне свету не выкарыстоўвалі для ўпрыгожвання сваіх храмаў звычайную жытнюю салому, якая засталася пасля абмалоту збожжа, замяніўшы бляск пазалоты на дрэве бляскам застыглага сонца на жытнёвых сцяблінах. Гэтую ўнікальную традыцыю захавала ў сваёй творчасці Ларыса Лось.



Фота www.artmuseum.by

***На здымку: Ларыса Лось (трэцяя злева) на прэзентацыі 30-тысячнага экспаната ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.***

**Вядучы праекта — рэдактар аддзела мастацтва Віктар Кавалёў**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай "Дзівасвет".**

## З глыбінкі

# Шэдэўры — у вышыўцы

Для таго, каб пазнаёміцца з шэдэўрамі сусветнага жывапісу, мядзяльчанам дастаткова наведаць мясцовы музей Народнай славы. Праўда, выставілі тут не самі знакамітыя карціны, а іх вышываныя копіі.

На выстаўцы "Цудоўных рук прыгожыя стварэнні" былі прадстаўлены работы ўдзельніц грамадска-культурнага аб'яднання аматараў вышыўкі "Вышывальшчыца", створанага пры музеі Беларускага народнага мастацтва — філіяле Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь. У экспазіцыі можна пабачыць вышываныя копіі славутых твораў Шышкіна, Левітана, Саўрасава, Леанарда да Вінчы, Вінсента ван Гога, іншых вядомых творцаў. Наведвальнікі падзівіліся на аўтарскія работы, выкананыя ў розных тэхніках: мастацкая машынная вышыўка і вышыўка бісерам, ручная гладзь і вышыўка крыжыкам.

У выстаўцы прымалі ўдзел вышывальшчыцы з Мінска, Гомеля, Бабруйска, Барысава ды іншых гарадоў Беларусі. Дарэчы, у адзін з дзён у музеі адбылася сустрэча жыхароў Мядзела з кіраўніком клуба аматараў вышыўкі "Вышывальшчыца" Аленай Бакаевай і майстрыхай Святланай Бацуновай.

А для самых маленькіх у гэтыя дні наладзілі адмысловы кірмаш. Супрацоўнікі музея выступілі ў ролях скамарохаў, Мядзведзя, Пятрушкі ды іншых персанажаў. Гасцямі падобных прадстаўленняў сталі вучні школ горада і раёна.

**Алесь ВЫСОЦКІ,**
***г. Мядзел***

# Дабрата яго кніг

Немагчыма ўявіць свет дзяцінства без кніг — добрых, мудрых, вясёлых. Яны становяцца надзейнымі сябрамі, запрашаюць у падарожжы, адчыняюць дзверы ў невядомае.

Дабрата — вызначальная асаблівасць паэзіі Уладзіміра Мазго, яна прыцягвае дзяцей, улагоджвае іх душы, абуджае пачуццё спагады, развівае эмацыянальную чуйнасць. Дынамічныя, пераважна бадзёрыя па танальнасці творы гэтага паэта дапамагаюць захаваць у дзяцей веру ў жыццё, здольнасць марыць, фантазіраваць.

У вельмі цёплай атмасферы ў Мінскай цэнтральнай раённай бібліятэцы прайшла сустрэча з Уладзімірам Мазго — лаўрэатам літаратурнай прэміі імя Васіля Віткі і прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры — і з вучнямі 4-х класаў Міханавіцкай школы. Уладзімір Мінавіч расказаў дзецям, як са школьнага сачынення — некалькіх вершаваных радкоў — пачаўся яго паэтычны шлях. Госць вёў размову з юнымі чытачамі як з добрымі сябрамі, на даверлівай ноце. Паэт адчувае і разумее, што трэба сённяшнім дзецям, чым іх зацікавіць, а таму прапануе ім вершы-казкі, вершы-гульні, вершы-забаўлянкі, вершы-пазнаванкі.

Маленькія чытачы, калі пазнаёміліся з творчасцю Уладзіміра Мазго, разабралі ўсе кнігі з выстаўкі "Жывога слова чарадзей", якую падрыхтавалі супрацоўнікі аддзела маркетынгу раённай бібліятэкі.

**Святлана КОЎЗЕЛЕВА,**
***п. Міханавічы***

## Афарызм

*Карэнні маўчаць, разрастаюцца ў зямлі і чакаюць свайго дня.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**
**Галоўны рэдактар Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**



**Адрас рэдакцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
дадатак "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856

Наклад — 3041
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 28.04.2011 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 1972
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686